ІОСІФ ЮХО

# КРЫНІЦЫ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАГА ПРАВА



- ГІСТАРЫЯГРАФІЯ
- ГРАМАТЫ
  ПРЫВІЛЕІ
- СУДЗЕБНІК І СТАТУТЫ
- ДЗЯРЖАЎНАЕ
  І ВАЕННАЕ ПРАВА
- СУДОВЫ ЛАД
  І ПРАЦЭСУАЛЬНАЕ ПРАВА
- ГРАМАДЗЯНСКАЕ
  І СЯМЕЙНАЕ ПРАВА
- КРЫМІНАЛЬНАЕ ПРАВА
- УНІІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА
  ЛІТОЎСКАГА З ПОЛЬШЧАЙ
- КРЫНІЦЫ ПРАВА
  Ў XVII-XVIII СТАГОДДЗЯХ



«Также мы, господар, обецуем словом нашим за нас и за потомки наши... иж всих князей и панов рад... шляхту, рицерства, мещан и всих людей посполитых у Великом князстве Литовском и во всих землях того паньства, маем заховати при свободах и волностях хрестияньских, в которых они, яко люди волные, волно обираючи зстародавна и з вечных своих продков собе панов а господарей великих князей литовских...»

*(Статут 1588, р. 3, а. 2)*

# УСТУП

*Багатая прававая спадчына беларускага народа эпохі феадалізму яшчэ вельмі мала даследавана ў нашай гісторыка-прававой навуцы. Значнай перашкодай гэтаму было тое, што наогул да апошняга часу мала было навуковых прац па гісторыі Беларусі. А між тым крыніцам беларускага феадальнага права належыць пачэснае месца сярод сусветна вядомых помнікаў права, такіх, як Законы Ману, Законы Хамурапі, Законы дванаццаці табліц, Кодэкс Юстыцыяна, Руская Праўда. Асабліва гэта адносіцца да статутаў Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гадоў. Статут 1588 года на працягу 250 гадоў быў дзеючым законам і з'яўляўся асновай усёй прававой сістэмы Беларусі і Літвы.*

*У крыніцах беларускага права, асабліва ў агульнадзяржаўных, абласных і валасных граматах (прывілеях) і статутах, атрымалі адлюстраванне «галоўныя рысы ўдзельна-земскога ладу старажытнарускай гісторыі» [1], бо Вялікае княства Літоўскае склалася на «тэрытарыяльнай, этнаграфічнай і культурнай аснове беларускай» [2], а беларускі горад Наваградак быў першай сталіцай дзяржавы і старажытны полацкі герб «Пагоня» стаў гербам усёй дзяржавы.*

*Гісторыя дзяржавы і права Беларусі як асобная навука ўзнікла толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў сувязі з абвяшчэннем Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і працэсам аднаўлення гістарычнай самасвядомасці і самапазнання беларускага народа, адраджэннем яго дзяржаўнасці.*

*Буржуазныя гісторыкі права, як рускія, так і польскія, якія даследавалі права Беларусі і Літвы, адносілі яго да рускага або польскага права. На памылковасць такога погляду першым звярнуў увагу яшчэ ў 1926 годзе У. І. Пічэта. Ён пісаў: «Маючы на ўвазе наяўнасць аднолькавых рыс у праве славянскіх народаў, навукова ўсвядомленую неабходнасць вывучаць славянскае нацыянальнае права ў агульнаславянскім асвятленні, ніхто з даследчыкаў мінулага не пярэчыў супроць неабходнасці вывучэння права кожнага славянскага народа паасобку. Аднак толькі для беларускага і ўкраінскага народаў рабілася выключэнне на той падставе, што гэтае права створана рускім народам і таму не падлягае індывідуальнаму ёдавому вывучэнню. Памылковасць такой думкі, што так доўга панавала ў навуцы гісторыі рускага права, цяпер становіцца асабліва прыкметнай»[3].*

*Помнікі права з'яўляюцца найбольш дакладнымі і надзейнымі крыніцамі ведаў аб стане эканомікі, класавай і саслоўнай структуры грамадства, дзяржаўным ладзе, судовых і дзяржаўных установах, грамадскіх адносінах. У іх атрымалі адлюстраванне філасофскія, грамадска-палітычныя і прававыя ідэі народа, яго культура і побыт. У гэтых актах захавалася старая беларуская мова, дзяржаўна-прававая і дзелавая лексіка. У старых прававых актах захаваліся самыя разнастайныя звесткі аб розных старонках прававой культуры і самога права нашых продкаў.*

*Крыніцы старога права дапамагаюць больш поўна вывучаць законы ўнутранага развіцця права ў залежнасці ад стану вытворча-гаспадарчых адносін; убачыць ход гістарычнага развіцця ад простых форм прававых актаў да больш складаных і дакладных; супаставіць і параўнаць беларускае нацыянальнае права з правам іншых краін і народаў. Даследаванне гісторыі права дапамагае ўлічыць і скарыстаць вопыт былых вучоных юрыстаў і практыкаў у распрацоўцы найбольш дасканалых прававых актаў, высветліць вытокі народнага (нацыянальнага) звычаёвага права.*

*Гісторыя права Беларусі бярэ свой пачатак з незапамятных часоў, калі галоўнай крыніцай было звычаёвае права. Яно склалася непасрэдна з*

*грамадскіх адносін, якія былі адобраны і зацверджаны грамадскімі і дзяржаўнымі органамі і ўжываліся на працягу доўгага часу. На Беларусі яно было пануючым да сярэдзіны XV стагоддзя, а затым пачало паступова выцясняцца пісаным правам, у якім многія нормы звычаёвага права набылі форму закона ў выглядзе шматлікіх грамат, лістоў, прывілеяў, сеймавых пастаноў, статутаў і іншых прававых актаў.*

*У старажытныя часы ва ўмовах абмежаванай эканомікі асобных мясцовасцей (гарадоў, валасцей) і звычаёвае права было разрозненым. У кожнай мясцовасці дзейнічала сваё мясцовае права. Насельніцтва кожнай зямлі «имяху бо обычаи свои и закон отец своих и преданья каждо свой нрав» [4]. Другой характэрнай рысай звычаёвага права былі традыцыяналізм і кансерватызм прававых норм, іх нязменнасць. Старажытная прававая тэорыя грунтавалася на царкоўным вучэнні, што ў грамадстве і ва ўсім свеце пануе раз і назаўсёды дадзены богам парадак, а ўсялякія спробы крытыкі і змены сацыяльна-эканамічнай, палітычнай і прававой сістэмы разглядаліся як выступленне супроць царквы і бога. Апрача таго, у перыяд запрыгоньвання сялян, калі феадалы імкнуліся змяняць звычаёвае права на сваю карысць, просты народ быў супроць яго змены. У XV—XVI стагоддзях вялікі князь у сваіх граматах неаднаразова абяцаў старыны не парушаць і новых парадкаў не ўводзіць, «бо мы новин не уводим, а старины не рухаем» [5]. Захаванне старых норм звычаёвага права прадугледжвалася граматай, якая была выдадзена полацкім баярам і мяшчанам у 1499 годзе, дзе было запісана: «суды маеть судити наместник наш Полоцки с старшими бояры Полоцкими подлуг давного обычая» [6].*

*Трэцяй асаблівасцю старажытнага звычаёвага права была ідэя поўнага бяспраўя рабоў (халопаў, чэлядзі нявольнай) і фармальнага раўнапраўя свабодных людзей пры фактычным захаванні льгот і прывілей пануючаму класу. Рабы, халопы, чэлядзь нявольная не лічыліся самастойнымі суб'ектамі праваадносін: «а холопу и робе веры не яти»,— было запісана ў Полацкай грамаце 1511 года. Раўнапраўе свабодных людзей праяў-*

лялася ў тым, што яны ў старажытныя часы маглі прымаць удзел у вырашэнні дзяржаўных спраў на вечавых сходах, маглі выбіраць і быць выбранымі ў дзяржаўныя ўстановы ці на пасады, неслі агульныя дзяржаўныя павіннасці, у тым ліку і вайсковую па абароне свайго горада, воласці, княства. Напрыклад, у Полацку і Віцебску на вечавыя сходы (соймы) ззывалася ўсё насельніцтва. У грамаце, выдадзенай у 1486 годзе, гаварылася: «И далей приказуем, абы бояре и мещане и дворяне городские и все поспольство в згоде межи собою были, а дела бы наши господарские вси зъгодою посполу справляли по давному, а сымались бы вси посполу на том месте, где перед тым сыимывались здавна. А без бояр мещанам и дворянам и черни соимов не надобе чинить» [7].

Звычаёвым правам у старажытнасці рэгуляваліся ўсе праваадносіны ў грамадскім жыцці: структура і кампетэнцыя дзяржаўных устаноў, правы і абавязкі розных класаў, саслоўяў і сацыяльных груп насельніцтва, грамадзянскія, сямейна-шлюбныя, зямельныя, судова-працэсуальныя, крымінальныя і іншыя праваадносіны.

Першыя запісы звычаёвага права Беларусі былі зроблены ў граматах і дагаворах Полацка, Віцебска і Смаленска з Рыгай і Лівонскім ордэнам. З гэтых грамат і дагавораў відаць, што ў XIII—XIV стагоддзях ужо меліся пастаянныя гандлёвыя і дыпламатычныя зносіны паміж беларускімі гарадамі і насельніцтвам Прыбалтыкі і Готскага берага (узбярэжжа Балтыйскага мора).

У гэтай сувязі значны інтарэс мае змест дагавора Смаленска, Віцебска і Полацка з Рыгай і Готскім берагам 1229 года [8]. Галоўнае прызначэнне гэтага дагавора было ў замацаванні прававых норм, якія забяспечвалі ўстойлівыя адносіны паміж купцамі гэтых зямель на аснове ўзаемнасці і раўнапраўя. Значная ўвага ў дагаворы ўдзялялася нормам крымінальнага і грамадзянскага права. Так, артыкулы 1, 2, 3 прадугледжвалі пакаранне за забойства і калецтва чалавека. За забітага вольнага чалавека спаганялася 10 грыўняў серабра, а за папа або пасла — два плацяжы, г. зн. 20 грыўняў серабра, у той жа час за халопа (раба) толькі грыўня серабра. У гэтых артыкулах

*яскрава праявіўся класавы падыход пры вызначэнні адказнасці за забойства, бо вольны чалавек цаніўся ў 10 разоў вышэй, чым халоп. Аб крыніцах халопства сведчыць артыкул 6, згодна з якім князь мог асудзіць вольнага чалавека і ўсю яго сям'ю (жонку і дзяцей) у халопства. Цікава таксама тое, што чалавек, нават будучы халопам, мог самастойна ўдзельнічаць у замежным гандлі і адказваць за даўгі ўласнай маёмасцю (арт. 7). У дагаворы меліся нормы, якія замацоўвалі парадак судаводства па спрэчках паміж «русінамі» і «лацінскімі» людзьмі. Так, згодна з артыкулам 21 нямецкага госця павінен быў судзіць смаленскі князь і не дазвалялася выклікаць немца без яго згоды на «обчии суд».*

*Грамадзянска-прававыя нормы рэгулявалі парадак куплі-продажу, перавозкі тавараў, гандлёвых пошлін. Гарантавалася ўсім купцам купляць усякі тавар і свабодна карыстацца воднымі шляхамі па ўсёй Дзвіне, па вадзе і на беразе. «Та же правда буде Русину в Ризе и Немчичю по Смоленскои волости и по Полотьскои и по Витьбьскои» (арт. 37).*

*Гандлёвыя адносіны паміж палачанамі і віцяблянамі з Рыгай падтрымліваліся і ў наступныя гады. Так, у 1263 годзе быў заключаны дагавор ад імя палачан і віцяблян князем Герденем з лівонскім магістрам Конрадам. У гэтым дагаворы было запісана: «...немечькому гостю в Полочьскую волно ехати торговати, купити и продати. Тако ж полочаном и видиблянину волно гостити в Ригу и на Готьски берег» [9]. Дагаворы палачан і віцяблян з Лівонскім ордэнам былі заключаны ў 1265, 1309 і каля 1339 або 1340 года. Апрача таго, у 1338 годзе вялікі князь Гедзімін, са згоды палачан і віцяблян, заключыў дагавор з лівонскім магістрам аб вольным гандлі. У канцы гэтага дагавора было запісана, што ён заключаны «са згоды караля Літвы і яго дзяцей і ўсіх яго баяр... и са згоды епіскапа Полацка, караля і горада Полацка і караля Вітебска і горада Вітебска» [10]. Усе гэтыя дагаворы з Рыгай у значнай меры грунтаваліся на звычаёвым праве насельніцтва Полацкай і Віцебскай зямель і сведчаць аб інтэнсіўных гандлёвых зносінах і аб тым, што было каму і чым*

*гандляваць, а таксама аб высокім узроўні беларускага звычаёвага права.*

*У XIV і XV стагоддзях пачынае развівацца заканадаўства, якое паступова абмяжоўвае звычаёвае права. У першую чаргу выдаюцца законы ў форме прывілеяў (грамат), у якіх юрыдычна замацоўваліся правы і льготы феадалаў, афармлялася прававое становішча саслоўя шляхты, замацоўваліся аўтаномныя правы некаторых зямель.*

# 1

«И то есть наша вольность, которою се мы межи иншыми народы хрестиянскими хвалим же пана, ижбы водли воли своее, а не водле прав наших пановал, над собою не маем, а яко славы учстивое, так живота и маетности волно уживаем» *(Леў Сапега).*



**«Абы были права их, или закон почтивый, справедливый, можный, потребный, пожиточный подле прирождения, подлуг обычаев земли, часу и месту пригожий, явный, не имея в собе закрытости, не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написаный»** *(Францыск Скарына).*



# Гістарыяграфія

Першыя даследаванні права. Вывучэнне крыніц права Т. Чацкім, І. Даніловічам. Кіеўская школа гісторыі права. Маскоўскія і пецярбургскія даследчыкі крыніц беларуска-літоўскага права. Польскія даследчыкі. Беларуская савецкая навука гісторыі права.

● Першым навуковым даследаваннем па гісторыі права Вялікага княства Літоўскага была праца прафесара Крамянецкага ліцэя Т. Чацкага «Аб літоўскіх і польскіх правах, іх духу, крыніцах, сувязях і аб рэчах, змешчаных у першым Статуце, выдадзеным для Літвы ў 1529 годзе», апублікаваная ў Варшаве ў 1800—1801 годзе, а потым у 1844—1845 і ў 1861 гадах.

У даследаванні Т. Чацкага дадзен агульны агляд гісторыі заканадаўства і крыніц права Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Чацкі першым раскрытыкаваў памылковыя погляды польскіх гісторыкаў права, якія лічылі, што права Вялікага княства грунтуецца на рымскім праве, і пачаў даследаваць права Вялікага княства Літоўскага ў яго гістарычным развіцці. Але ён памыляўся, калі сцвярджаў, што галоўнай крыніцай права статутаў былі «абычаі і традыцыі паўночных народаў і германцаў» [1].

Памылковыя і тэндэнцыйныя сцвярджэнні Т. Чацкага былі абвергнуты С. Ліндэ ў кнізе «Аб літоўскім статуце, выдадзеным і апублікаваным на рускай мове», выдадзенай у Варшаве на польскай мове ў 1816 годзе, і ў кнізе І. Ракавецкага «Руская Праўда, або Праўда вялікага князя Яраслава», выдадзенай у Варшаве ў 1820—1822 гадах. С. Ліндэ навукова даказаў, што статуты былі напісаны першапачаткова на беларускай мове і гэты тэкст з'яўляецца аўтэнтычным, а польскія пераклады толькі копіяй, да таго ж не заўсёды дакладнай. На думку І. Ракавецкага, падабенства норм славянскага права з правам другіх народаў

грунтуецца не на запазычанасці, а на падобных умовах жыцця. Ракавецкі зыходзіў з таго, што права славянскіх народаў мае сваёй крыніцай старажытныя народныя звычаі і правілы паводзін. Яго праца паклала пачатак новага кірунку ў даследаванні параўнальнай гісторыі права славянскіх народаў.

Многа зрабіў для вывучэння статутаў беларус Ігнат Мікалаевіч Даніловіч, які выкладаў права ва універсітэтах Вільні, Харкава, Кіева і Масквы. У 1830—1835 гадах працаваў у камісіі М. М. Сперанскага па складанні зводу мясцовых законаў заходніх губерняў. У 1826 годзе ён упершыню надрукаваў Судзебнік 1468 года і падрыхтаваў да друку Статут 1529 года на беларускай мове, саставіў зборнік дакументаў «Скарбец дipламатаў» (скарбніца актаў), у якім меліся ўрыўкі і апісанні 2383 актаў па гісторыі дзяржавы і права Беларусі і Літвы. У сваіх навуковых працах І. Даніловіч зыходзіў з таго, што права Вялікага княства Літоўскага мела адну крыніцу са старажытнарускім правам.

Гэтай жа ідэі прытрымліваўся і польскі гісторык права В. А. Мацееўскі, які напісаў «Гісторыю славянскага заканадаўства», першае выданне якой было надрукавана ў чатырох тамах у 1832—1835 гадах, а другое — у шасці тамах у 1856—1865 гадах, дзе сцвярджаў, што «ніводзін славянскі народ не зразумее сутнасці роднага права, калі добра не засвоіць права іншых славянскіх народаў» [2]. Ён лічыў, што статуты Вялікага княства Літоўскага займалі ганаровае месца сярод самых выдатных помнікаў права. В. А. Мацееўскі ўдасканаліў параўнальную методыку вывучэння гісторыі права, увёў у навуковае карыстанне цэлы шэраг запамятаваных прававых актаў, даказваў, што ў Еўропе апрача рымскага і германскага права маецца яшчэ права славянскае, якое склалася на нацыянальнай аснове, самабытнае і больш гуманнае. Навуковыя працы В. А. Мацееўскага выклікалі рэзкую крытыку рэакцыйных каталіцкіх колаў, і ў 1859 годзе Рымская Кангрэгацыя выдала дэкрэт аб унясенні кніг В. А. Мацееўскага ў Індэкс забароненых для чытання ўсім каталікам кніг.

Значныя поспехі ў даследаванні гісторыі права былі дасягнуты ў другой палове XIX стагоддзя, асабліва вучонымі Кіеўскай школы на чале з М. Ф. Уладзімірскім-Буданавым. Дзякуючы яго працам быў пакладзен пачатак вывучэнню сацыяльна-эканамічнага і прававога становішча мяшчан і сялян Беларусі ў XVI стагоддзі. Ён першым вывучаў уплыў Статута 1588 года на Саборнае ўлажэнне цара Аляксея Міхайлавіча, а яго праца «Обзор истории русского права» не страціла навуковага значэння і да сённяшніх дзён.

Еднасць права ўсіх славянскіх народаў даводзіў у сваіх працах Ф. І. Леантовіч. Значную ўвагу ён звяртаў на гісторыю беларуска-літоўскага права ў працах «Очерки истории литовско-русского права», «Источники литовско-русского права» і іншых.

Заслугоўваюць увагі кнігі І. А. Маліноўскага «Учение о преступлении по Литовскому Статуту» і Г. А. Дземчанкі «Наказание по Литовскому Статуту», у якіх даволі поўна зроблен аналіз крымінальнага права. Тэарэтычныя погляды І. А. Маліноўскага на развіццё права грунтаваліся на неабходнасці павольнага эвалюцыйнага ўдасканалення права. Ён лічыў, што галоўнымі законамі гістарычнага развіцця з'яўляюцца: 1) закон паслядоўнага развіцця і 2) закон паступовасці, у сілу якога ў кожнай гістарычнай эпосе наглядаецца побач з рысамі, якія яе характарызуюць, таксама элементы мінулага і зародак будучага [3].

Значны ўклад у вывучэнне гісторыі і права Беларусі і Літвы ўнёс прафесар Маскоўскага універсітэта М. К. Любаўскі, які адным з першых напісаў гісторыю Вялікага княства Літоўскага, у якой разгледзеў дзяржаўны лад і прававое становішча саслоўяў і асобных груп насельніцтва. На думку М. К. Любаўскага, «заходняя Русь» у складзе Вялікага княства Літоўскага «не толькі не ўтраціла сваёй гістарычнай спадчыны, але і перадала яе пануючай зямлі, якая сама ўладкавалася па ўзору гэтай Русі» [4].

Падобных да М. К. Любаўскага тэарэтычных поглядаў прытрымліваўся І. І. Лапо ў сваіх працах: «Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана

Батория», выдадзенай у 1901 годзе, і «Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Литовско-Русский повет и его сеймик», выдадзенай у 1911 годзе. Асаблівай увагі заслугоўвае яго даследаванне гісторыі падрыхтоўкі і выдання Статута 1588 года [5].

Даследаванню гісторыі Вялікага княства Літоўскага, як часткі навукі гісторыі Расіі, прысвяціў сваю працу А. Е. Праснякоў («Лекции по русской истории», якія ён чытаў у Пецярбургскім універсітэце ў 1908/09 навучальным годзе, выдадзеныя ў Маскве ў 1939 годзе). Другі том гэтых лекцый цалкам прысвечан гісторыі Вялікага княства. Заслугай аўтара было тое, што ён здолеў разгледзець склад насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і вызначыць ролю кожнай народнасці ў гэтай дзяржаве і пад гэтым пунктам гледжання даць характарыстыку ўсёй дзяржаўна-палітычнай структуры. Такая трактоўка гэтага пытання карэнным чынам адрознівалася ад поглядаў польскіх і рускіх буржуазных вучоных.

У канцы XIX і пачатку XX стагоддзя значная колькасць навуковых прац па гісторыі Вялікага княства Літоўскага была выдадзена польскімі вучонымі Ю. Вольфам, О. Галецкім, В. Камянецкім, Т. Карзонам, Л. Калянкоўскім, А. Лявіцкім, С. Пташыцкім і іншымі. Асаблівай увагі заслугоўваюць працы С. Кутшэбы «Нарыс гісторыі дзяржаўнага ладу Польшчы», т. 2, «Литва», выдадзеныя ў 1914 годзе, і «Гісторыя крыніц старажытнага польскага права», т. 2, 1926 год. Ён адным з першых польскіх буржуазных гісторыкаў даследаваў дзяржаўныя ўстановы і права ў сувязі з грамадскім ладам і класавай структурай грамадства. Гісторыю Вялікага княства ён разглядаў да 1791 года, тым самым лічыў, што Вялікае княства і пасля Люблінскай уніі не злілося з Польшчай, а працягвала захоўваць сваю адасобленасць як самастойны суб'ект дзяржаўна-прававых адносін, што само па сабе было ўжо новым у польскай гісторыка-прававой навуцы. Аналізуючы статуты, ён сцвярджаў, што яны «займаюць у заканадаўстве ўсёй Еўропы XVI стагоддзя вельмі выдатнае месца... раўняюцца або нават перавышаюць іншыя заходнееўрапейскія помнікі кадыфікацыі шыры-

нёй праблем, якія былі вырашаны ў іх у больш цяжкіх умовах, чым на Захадзе» [6]. Разам з тым С. Кутшэба зыходзіў з памылковых пазіцый, разглядаючы права Вялікага княства як частку польскага права.

Даследаваннем праблем гісторыі дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага займаюцца і вучоныя сучаснай Польшчы Ю. Бардах, Б. Леснадорскі, Е. Охманскі і іншыя. Асаблівай увагі заслугоўваюць працы Ю. Бардаха «Даследаванне грамадскага ладу і права Вялікага княства Літоўскага XVI—XVII ст.ст.», «Літоўскія статуты — помнікі права эпохі Адраджэння», а таксама «Гісторыя дзяржавы і права Польшчы», падрыхтаваная Ю. Бардахам, Б. Леснадорскім і М. Піетрчаком і выдадзеная ў Маскве ў 1980 годзе.

Кароткі агляд навуковых прац польскіх гісторыкаў права дазваляе сцвярджаць аб тым, што іх працы ў значнай меры дапамагаюць вывучаць гісторыю дзяржавы і права феадальнай Беларусі і Літвы.

Савецкая гісторыка-прававая навука ў Беларускай ССР бярэ свой пачатак з дня ўтварэння ў Мінску Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў 1921 годзе і чытання ў ім прафесарам В. І. Пічэтам лекцый па гісторыі дзяржавы і права. Ім былі напісаны працы па сацыяльна-прававой гісторыі беларускага сялянства, па гісторыі крыніц беларускага права, аб уніях з Польшчай, аб Статуце 1529 года і іншыя [7].

У 1940 годзе прафесарам С. В. Юшковым быў выдадзены падручнік па гісторыі дзяржавы і права СССР, у якім упершыню коратка выкладалася гісторыя дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага. Такі самы раздзел меўся і ў падручніку, выдадзеным Маскоўскім універсітэтам пад рэдакцыяй К. А. Сафраненка ў 1967 годзе. Усе наступныя падручнікі па гісторыі дзяржавы і права СССР таксама мелі такія раздзелы. Сацыяльна-палітычная гісторыя гарадоў Беларусі ў XVI—XVII стагоддзях асвятлялася З. Ю. Капыскім. Ён жа даследаваў сацыяльна-эканамічнае становішча мяшчан беларускіх гарадоў.

Манаграфічнае даследаванне па гісторыі крыніц беларускага феадальнага права, крымінальна-

му, грамадзянскаму, шлюбна-сямейнаму праву і судоваму ладу Беларусі XVI стагоддзя праведзена ў кнізе Юхо І. А. «Правовое положение населения Белоруссии в XVI в.». На падставе аналізу крыніц феадальнага права разгледжана прававое становішча розных сацыяльных груп насельніцтва. У кнізе абвяргаецца беспадстаўнае сцвярджэнне буржуазных гісторыкаў, якія разглядалі права, што дзейнічала ў Беларусі ў XVI—XVII стагоддзях, як польскае або рускае.

Для вывучэння гісторыі крыніц беларускага права істотнае значэнне маюць працы гісторыкаў Беларусі Абецэдарскага Л. С., Аляксеева Л. В., Грыцкевіча А. П., Дружчыца В., Ігнаценкі А. П., Ігнатоўскага У. М., Казлоўскага П. Г., Пашуты В. Т., Пахілевіча Д. Л., Улашчыка М. М., Харашкевіч Г. Л. і іншых.

Публікацыі крыніц беларуска-літоўскага права пачаліся яшчэ ў XVI стагоддзі з выдання закона «Трибунал обывателям Великого князства Літовского», які быў апублікаваны ў 1586 годзе ў друкарні Мамонічаў у Вільні. У гэтай друкарні ў 1588 годзе быў выдадзены Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года на беларускай мове. Там жа Статут выдаваўся на беларускай мове яшчэ два разы — у 1598 і 1600 годзе. У 1614 годзе Статут быў перакладзены на польскую мову і выдаваўся на ёй восем разоў — у 1614, 1619, 1649, 1693, 1744, 1786, 1811, 1819 гадах. Два разы Статут перакладаўся на рускую мову: першы раз у 40-ых гадах XVII стагоддзя, пры падрыхтоўцы Саборнага ўлажэння, і другі раз у пачатку XIX стагоддзя і быў надрукаваны на рускай і польскай мовах у Пецярбургу ў 1811 годзе.

Найбольш поўнае выданне законаў, сеймавых пастаноў, прывілеяў і іншых заканадаўчых актаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Польшчы да 1793—1795 гадоў, было выканана ў Кнігах законаў («Валюміна легум»), 8 тамоў якіх былі выдадзены ў 1732—1782 гадах, дзявяты — у 1889, дзесяты — у 1952 годзе. Першыя 8 тамоў былі перавыдадзены ў Пецярбургу ў 1859—1860 гадах.

У XIX стагоддзі былі арганізаваны розныя археаграфічныя камісіі, якія апублікавалі шэраг

дакументаў па гісторыі права Беларусі і Літвы. Найбольш грунтоўнымі публікацыямі былі «Белорусский архив древних грамот», «Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и издаваемые Археографическою комиссиею», «Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией для разбора и издания древних актов», «Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси...», «Историко-юридические материалы» і іншыя.

Публікацыя гістарычных актаў была прадоўжана ў 1927—1930 гадах, калі былі выдадзены тры тамы «Беларускага архіва». У 1936 годзе выйшаў першы том «Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах» і ў 1940-ым другі пад назвай «Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі». У пасляваенны час (1959—1961 гады) былі выдадзены тры тамы дакументаў «Белоруссия в эпоху феодализма».

Сярод публікацый крыніц беларуска-літоўскага права апошніх гадоў звяртае на сябе ўвагу выданне статутаў Вялікага княства Літоўскага 1529 і 1588 гадоў. Статут 1529 года быў выдадзены ў Мінску ў 1960 годзе. Разам з тэкстам Статута былі апублікаваны: прадмова да яго, уступны артыкул (перадрукаваны) акадэміка У. І. Пічэты, пераклад Статута на рускую мову і слоўнік-каментарый. Выданне Статута мела станоўчы ўплыў на ажыўленне цікавасці да гісторыі права, садзейнічала яго вывучэнню гісторыкамі і юрыстамі. У 1983 годзе распачата выданне гэтага ж Статута Вільнюсскім універсітэтам і Інстытутам гісторыі АН Літоўскай ССР. Пакуль што надрукаваны дзве часткі першага тома. У першай частцы дадзена апісанне палеаграфіі і тэксталогія вядомых спісаў Статута, што захаваліся да нашых дзён. У другой — апублікаваны факсімільныя тэксты Статута 1529 года на беларускай мове (спіс Дзялынскага), на лацінскай (спіс Лаўрэнція) і на польскай (спіс Альшэўскі).

Выдатны падарунак да 400-годдзя Статута 1588 года зрабіла выдавецтва Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, выдаўшы ў 1989 годзе самы поўны і дасканалы збор законаў — Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Гэта першае

на Беларусі выданне, у якім комплексна разглядаецца выдатны помнік прававой культуры і юрыдычнай думкі таго часу. У кнізе змешчаны арыгінальны (з памяншэннем у $^3/_5$) і адаптаваны тэксты Статута, а таксама яго пераклад на рускую мову, зварот да чытача, уступны артыкул аб сацыяльна-гістарычных умовах узнікнення Статута, даведнік, каментарыі, літаратура, тэрміналагічны паказальнік да тэксту Статута, імянны паказальнік, спіс асноўных скарачэнняў. У акадэмічным даведніку змешчаны артыкулы пра крыніцы права, якія былі ўключаны ў Статут, пра прававое становішча розных груп насельніцтва, дзяржаўны лад, аб службовых асобах, судовых установах і іншых тэрмінах, што сустракаюцца ў Статуце 1588 года.

Кароткі агляд навуковых прац і публікацый крыніц па гісторыі права Беларусі сведчыць аб багацці нашай прававой культуры.

**«Також призволяем, абы княжата, рытеры, шляхтичи, бояре, доброволько имели бы моць выехати з наших земель князьства великого, для лепшого шчастья набытия, а любо учинков рытерских, до каждых земель, сторон только выменяючи стороны неприятельское»** ***(Грамата 1447 г.).***

2



«Також который ся от насилья жаловати будет нам Витеблянин на Витеблянина ж... давати ему наш лист к нашому воеводе, хотя бы о смертной вине, а ему судити по целованью, нашим судом, досмотревши права с князи и з бояры и з мещаны, а осудивши его казнити у Витебску, по их праву» *(АЗР. Т. 1. С. 353).*

# Граматы і прывілеі

**Агульнадзяржаўныя граматы 1387, 1413, 1434, 1447, 1492 гадоў. Старажытныя нормы абласных і валасных грамат. Граматы жыхарам гарадоў на магдэбургскае права. Прававое становішча па граматах розных сацыяльных груп насельніцтва.**

● Першымі агульнадзяржаўнымі (земскімі) прывілеямі лічыліся тры прывілеі, выдадзеныя ў 1387 годзе вялікім князем літоўскім Ягайлам, які ў праваслаўным хрышчэнні называўся Якавам, а калі стаў польскім каралём і прыняў каталіцкую веру, то стаў называцца Уладзіславам.

Яго першы прывілей быў выдадзены 20 лютага 1387 года і быў накіраваны на распаўсюджванне каталіцызму ў Беларусі і Літве. Пачынаўся прывілей са сцвярджэння, што нібыта людзі жадаюць прыняць каталіцкую веру, а тым, хто ўжо прыняў яе, даруюцца новыя правы і вольнасці; яны будуць мець поўную магчымасць валодаць, карыстацца, прадаваць, мяняць, дараваць згодна са сваёй добрай воляй і жаданнем замкі, воласці, сёлы, дамы і ўсё, чым бы валодалі па наследству ад бацькоў. Далей у прывілеі гаварылася аб тым, што рыцары не павінны будуць выконваць якія-небудзь работы, за выключэннем будавання новых замкаў, калі будзе склікацца насельніцтва «ўсёй зямлі», а таксама для перабудовы і рамонту старых замкаў.

Згодна са старадаўнім звычаем, вайсковы паход, які называўся па-народнаму «пагоняй», павінен быў выконвацца не толькі рыцарамі, але кожным мужчынам, якога б ён ні быў паходжання або звання, толькі б ён быў здольным насіць зброю [1].

У гістарычнай літаратуры распаўсюджана думка, што ўсе гэтыя правы былі нібыта запазычаны з польскага права. Але такое сцвярджэнне з'яўляецца памылковым, бо правы феадалаў рас-

ла ўжо ў XI—XIII стагоддзях ва ўсёй Старажытнай Русі (у тым ліку і ў Беларусі) і гарантавалася старажытным правам, аб чым сведчаць шматлікія крыніцы (Руская Праўда, летапісы, граматы, дагаворы і інш.). Пацвярджэнне старажытнасці гэтых правоў змяшчаецца ў Полацкім і Віцебскім прывілеях, у якіх змяшчаліся нормы, што датычацца, як відаць, XI—XIII стагоддзяў, хоць поўны тэкст гэтых прывілеяў быў адрэдагаваны ў канцы XIV стагоддзя.

Другі прывілей, выдадзены 22 лютага 1387 года, адрасаваўся каталіцкаму духавенству, але закранаў інтарэсы ўсяго народа і фактычна дапаўняў папярэдні прывілей ад 20 лютага. Галоўнае яго прызначэнне заключалася ў прымусовым насаджэнні каталіцкай веры ў Беларусі і надзяленні багатымі дарамі і маёнткамі каталіцкага духавенства і касцёлаў. Па гэтым прывілеі ўсё каталіцкае духавенства, касцёлы, манастыры і феадальна-залежныя ад іх людзі выключаліся з дзяржаўнай юрысдыкцыі. Гэты прывілей абавязваў усіх жыхароў Вялікага княства Літоўскага пераходзіць у каталіцкую веру з усякай іншай веры (секты), а для таго каб новаператвораныя католікі захоўвалі вернасць каталіцкай царкве, забараняліся шлюбы з праваслаўнымі да тае пары, пакуль яны не прымуць каталіцкай веры; у выпадку ўступлення ў шлюб праваслаўнай з католікам шлюб заставаўся ў сіле, але праваслаўны муж або жонка абавязаны былі пераходзіць у каталіцкую веру пад страхам суровых пакаранняў; маёнткі і іншыя даходы, перададзеныя каталіцкаму духавенству, вызваляліся ад усякага роду службаў і павіннасцей у карысць дзяржавы і гасудара.

Зусім новым было выключэнне з дзяржаўнай юрысдыкцыі ўсіх людзей, залежных ад каталіцкага духавенства. Захоп каталіцкім духавенствам дзяржаўных паўнамоцтваў у адносінах да залежных людзей паслужыў першым крокам да запрыгоньвання сялян, бо яны траплялі пад поўнае панаванне каталіцкіх феадалаў. А сама каталіцкая царква станавілася па-за дзяржаўнай юрысдыкцыяй і паступова, захопліваючы ўсё большыя і

большыя багацці, набыла велізарную эканамічную сілу і, маючы вялікі штат сваіх агентаў, прапагандыстаў і добраахвотнікаў-фанатыкаў, стала самай уплывовай палітычнай сілай. Але паколькі каталіцкае духавенства ў Вялікім княстве Літоўскім дзейнічала ў інтарэсах рымскай курыі і замежных дзяржаў, то ўся гэтая арганізацыя працавала на шкоду інтарэсам народа і дзяржавы. Таму пры аналізе дзяржаўна-прававых актаў было б недаравальным ігнараваць такі важны дакумент, які паклаў пачатак паслабленню дзяржавы і запрыгоньванню сялян. Замацаванне аналагічных правоў за свецкімі феадаламі ў 1447 годзе было ўжо па сутнасці толькі працягам пачатай работы.

У дзяржаўна-прававым жыцці Вялікага княства Літоўскага істотнае значэнне меў прывілей, выдадзены князю Скіргайлу (Івану), ад 28 красавіка 1387 года. Гэтым прывілеем пацвярджаліся і замацоўваліся яго правы на кіраванне ўсім Вялікім княствам Літоўскім пасля ўступлення Ягайлы на польскі прастол. Ягайла абяцаў Скіргайлу «крепко блюсти его княженья и державы» [2]. Тым самым прывілей юрыдычна замацоўваў надзяленне Скіргайлы велікакняжацкімі паўнамоцтвамі і сведчыў аб захаванні дзяржаўнай адасобленасці Вялікага княства. У гэтым прывілеі Ягайла абяцаў таксама лічыць Скіргайлу вышэй за ўсіх іншых братоў і слухаць яго больш за ўсіх іншых саветнікаў і стаяць за яго «крепко во всем».

З мэтай умацавання эканамічнай базы палітычнай улады Скіргайлы пацвярджаліся яго непасрэдныя правы на Полацкае і Трокскае княствы, а таксама перадавалася ў яго асабістае распараджэнне значная частка дзяржаўных зямель і даходаў.

Дзяржаўна-прававое значэнне гэтага прывілея падкрэслівалася яшчэ тым, што ў самім тэксце ён называецца «праўдай», дзе гаворыцца: «на сем на всем дал есмь правду крепкую». Тэрмін «Праўда» у сэнсе права ўжываўся ў тых выпадках, калі праву надавалася выключна важнае дзяржаўнае значэнне. Напрыклад, найбольш значныя прававыя помнікі называліся праўдамі — Руская Праўда, Польская Праўда. Назваўшы гра-

мату 1387 года «Праўдай», тым самым падкрэсліваўся яе агульнадзяржаўны характар, а не толькі як акт прыватна-прававога падаравання. Перадача ўказаных у грамаце зямель і ўладанняў у непасрэднае кіраўніцтва Скіргайлу азначала і ўнясенне змяненняў у адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне дзяржавы, бо ліквідоўвалася дзяленне цэнтра дзяржавы на дзве часткі — Віленскую і Трокскую. Гэта дзяленне было адноўлена пасля 1413 года, калі гэтыя часткі атрымалі назвы ваяводства Віленскага і Трокскага.

Прававая рэгламентацыя саюзных адносін Вялікага княства з Польшчай у выглядзе персанальнай уніі і юрыдычнае замацаванне суверэннасці Вялікага княства Літоўскага былі аформлены Востраўскім пагадненнем 1392 года, па якім вялікі князь Скіргайла здымаўся з Вялікага княства і пераводзіўся на княства Кіеўскае, а паўнамоцтвы вялікага князя перадаваліся князю брэсцкаму і гродзенскаму Вітаўту (Юрыю, Аляксандру). Далейшае прававое замацаванне саюзных адносін з Польшчай было ажыццёўлена актамі Віленска-Радомскай уніі 1401 года і Гарадзельскай 1413 года.

У выніку сумесных нарад феадалаў Вялікага княства Літоўскага і Польшчы ў 1413 годзе былі выдадзены тры прывілеі: 1) польскіх феадалаў аб тым, што яны згодны падзяліцца з феадаламі-католікамі Вялікага княства гонарам мець гербы [3]; 2) феадалаў Вялікага княства (усяго 47 чалавек), якія прымалі гербы польскіх феадалаў і тым самым уступалі ў гербавае пабрацімства з імі і за гэта абяцалі ад імя шляхты, баяр, паноў і ўсіх жыхароў Вялікага княства (хоць іх ніхто не ўпаўнаважыў на гэта) ніколі не пакідаць польскіх паноў, прэлатаў і шляхты ва ўсіх іх справах. Далей яны абяцалі захоўваць вернасць Ягайлу, Вітаўту і іх нашчадкам; у выпадку смерці Вітаўта абяцалі не выбіраць сабе князя без згоды Ягайлы і польскіх феадалаў, а ў выпадку смерці Ягайлы польскія феадалы таксама не павінны былі выбіраць сабе караля без ведама і парады Вітаўта і насуперак волі феадалаў Вялікага княства; 3) трэці прывілей быў выдадзены ад імя Ягайлы і Вітаўта і меў сабе на мэце ўмацаванне

і пашырэнне каталіцызму. У ім рабілася яўна лжывае сцвярджэнне, што нібыта пасля распаўсюджання каталіцкай веры дзяржавы і землі, злучаныя ў саставе Вялікага княства Літоўскага, былі «прысвоены, уключаны, злучаны, перададзены» польскаму каралеўству са згоды князёў, паноў, шляхты, службовых асоб і баяр Вялікага княства [4].

Далей прывілей абвяшчаў ад імя Ягайлы і Вітаўта, што землі, якія заўсёды да гэтага часу яны мелі і маюць у поўным валоданні на аснове права атрымання ў спадчыну як законныя гасудары, са згоды і волі паноў, шляхты, баяр, паўторна інкарпаруюць, далучаюць, укараняюць у Каралеўства Польскае, прысвойваюць яму, злучаюць і аб'ядноўваюць з ім, звязваюць саюзам і назаўсёды замацоўваюць. Ілжывым было і сцвярджэнне аб тым, што яны з'яўляліся ўладальнікамі зямель на падставе атрымання ў спадчыну, бо ў Беларусі і Літве са старажытнейшых часоў панавала ідэя, што ўлада князя ідзе ад выбрання або яго дагавору з насельніцтвам дадзенай зямлі. Адлюстраванне гэтай ідэі знайшло сваё выражэнне нават у артыкуле 11 гэтага ж прывілея, дзе гаварылася, што паны і шляхта пасля смерці Аляксандра, г. зн. Вітаўта, будуць выбіраць вялікага князя.

Прадугледжвалася таксама, што ў выпадку смерці польскага караля выбранне новага павінна адбывацца са згоды і ведама Вітаўта, паноў і шляхты Вялікага княства. Такім чынам, з тэксту гэтага артыкула выразна відаць, што ўлада гасудара грунтавалася на выбранні і яго паўнамоцтвы разглядаліся не як уласніка ўсёй зямлі, усёй дзяржавы, а толькі як вышэйшай службовай асобы ў дзяржаве. Аднак гэта ідэя супярэчыла тэалагічным дагматам, згодна з якімі ўлада вялікага князя паходзіць ад бога. У той час як духавенства і самі вялікія князі адстойвалі боскасць паходжання ўлады, феадалы абаранялі ідэю выбарнасці князя і абмежаванасці яго ўлады. Гэтая тэарэтычная барацьба атрымала адлюстраванне і ў прывілеі 1413 года. У выніку на практыцы бакі прыйшлі да кампраміснага рашэння — вялікія князі выбіраліся, як правіла, толькі з аднаго ро-

ду, чым забяспечваўся і спадчынны характар улады.

Прывілеем упершыню прадугледжвалася магчымасць склікання сумесных сеймаў дзвюх дзяржаў.

З мэтай узвышэння феадалаў-католікаў над астатнімі феадаламі і стварэння ім арэолу знатнасці ўстанаўліваўся парадак надзялення гербамі, атрыманымі ад польскіх феадалаў, што, на думку аўтараў прывілея, павінна было садзейнічаць збліжэнню і зліццю ў адно саслоўе феадалаў Польшчы і Вялікага княства. На самай жа справе гэта павінна было прывесці да варожасці і барацьбы ўнутры Вялікага княства. Усе некатолікі, у асноўным праваслаўныя, што складалі пераважную большасць насельніцтва, не павінны былі дапускацца на дзяржаўныя пасады і не маглі быць членамі дзяржаўнай Рады. Такім чынам, скрытай мэтаю Гарадзельскага прывілея было распальванне рэлігійнай варожасці ў дзяржаве, правядзенне ганенняў на ўсіх некатолікаў і тым самым падрыў адзінства народа. Правакацыйны характар гэтага прывілея быў відавочны з першых гадоў яго прыняцця, на што адкрыта ўказвалася пры адмене некаторых норм гэтага прывілея, у выдадзеных прывілеях 1432 і 1434 гадоў.

Спрабуючы адказаць на пытанне, чаму феадалы Вялікага княства згадзіліся з актам 1413 года, у першую чаргу трэба ўдакладніць, што згоду давалі не ўсе «паны, шляхта і баяры», як аб гэтым гаворыцца ў прывілеі, а толькі 47 чалавек, якіх, вядома, шляхта і баяры, асабліва праваслаўныя, не ўпаўнаважвалі на вырашэнне гэтых пытанняў. Па-другое, і з гэтых 47 чалавек, як відаць, не ўсе былі згодныя і нават, магчыма, не ўсе ведалі поўны тэкст прывілея, напісанага па-латыні. У пацвярджэнне гэтага можна спаслацца на заявы прадстаўнікоў Вялікага княства на польскім сейме ў Любліне ў 1448 годзе, дзе яны заявілі, што вельмі зняважаны граматамі, у якіх змяшчаліся словы аб зліцці і ўключэнні Вялікага княства ў састаў Польшчы [5]. На перагаворах у 1451 годзе ў Парчове прадстаўнікі Вялікага княства зноў патрабавалі выключыць з ранейшых дагавораў аб уніі ўсе зневажальныя і абразлівыя

для Вялікага княства Літоўскага выразы, такія, як «далучэнне», «уключэнне» і «інкарпарацыя» Вялікага княства ў састаў Польшчы на той падставе, што іх папярэднікі пацвярджалі гэтыя дагаворы, «не ведаючы аб іх змесце, па адным толькі загадзе вялікага князя» [6]. Па-трэцяе, па сваім дзяржаўна-прававым характары прывілей 1413 года не ўносіў карэнных змяненняў і замацоўваў саюзныя адносіны дзвюх адасобленых дзяржаў.

Гэтыя адносіны мелі ўжо багатую практыку і былі прымальныя для народаў абедзвюх дзяржаў. Каталіцкая ж дыскрымінацыя праваслаўных не выклікала пратэсту ў феадалаў-католікаў, а ў праваслаўных ніхто не пытаўся іх згоды. Магчыма таксама, што Ягайла і Вітаўт згадзіліся з такім ярка выражаным пракаталіцкім тэкстам прывілея з тым, каб крыху задобрыць і супакоіць рымскую курыю пасля нанесенага ёй цяжкага ўдару, выкліканага паражэннем ордэна пад Грунвальдам, баючыся крыжовага паходу злучаных сіл заходнееўрапейскіх дзяржаў сумесна з крыжаносцамі.

Такія апасенні былі зусім абгрунтаванымі. Сам жа Вітаўт згадзіўся з гэтым прывілеем, імкнучыся набыць прыхільнікаў сярод польскіх епіскапаў і буйных феадалаў у надзеі, што пасля смерці Ягайлы ён можа стаць яго пераемнікам на каралеўскім прастоле ў Польшчы. Пра такія планы Вітаўта піша аўтар «Хронікі Быхаўца», паведамляючы, што пасля перамогі пад Грунвальдам адбылося пагадненне, у сілу якога польскія і літоўскія паны згадзіліся ў выпадку смерці Ягайлы выбраць каралём Вітаўта [7]. Ускосныя доказы гэтага змяшчаюцца і ў самім Гарадзельскім акце 1413 года.

Такім чынам, аналіз тэксту прывілея і прычын, што прымусілі да яго абвяшчэння, прыводзіць нас да перакanання, што ўся справа зводзілася да існуючага ўжо саюзу дзвюх дзяржаў. Разам з тым ён пашыраў правы каталіцкай царквы і духавенства, а таксама служыў праграмай і заданнем на абмежаванне правоў і дыскрымінацыю ўсіх некатолікаў.

Сярод крыніц дзяржаўнага права, якія паслужылі падставай юрыдычнага афармлення правоў

саслоўя шляхты, першаступеннае значэнне займалі прывілеі 1432 і 1434 гадоў. Па гэтых прывілеях праваслаўныя феадалы ўраўноўваліся ў правах з католікамі. У прывілеі, выдадзеным у Гародні 15 кастрычніка 1432 года, гаварылася, што ў той час, калі жыхары Вялікага княства Літоўскага былі надзелены прывілеямі і свабодамі, князі, баяры і шляхта праваслаўнай веры, падданыя Вялікага княства, павінны былі быць выключаны з права карыстання падараванымі свабодамі. Зроблена гэта таму, каб у будучым па ўказанай прычыне паміж жыхарамі гэтых зямель не ўзнікалі разлады і варожасць, якія падрывалі б іх сілы, а каб роўнымі карысталіся яны льготамі і правамі і захоўвалі адзінства зброі і тоеснасць жаданняў, больш энергічна і настойліва стараліся аб захаванні ў цэласнасці гэтых зямель і аб падтрыманні іх велічы і сумесна дзейнічалі, а таксама былі пабуджальнымі больш старанна і верна выконваць загады і распараджэнні Ягайлы і Сігізмунда, вялікага князя літоўскага і рускага. Князі, шляхта і баяры праваслаўнай веры надзяляліся тымі ж падарункамі, свабодамі, прывілеямі і выгадамі, якімі валодаюць і карыстаюцца князі, шляхта і баяры-католікі. Гэтак жа ім прадастаўлялася права насіць гербы і карыстацца імі і іншымі знакамі рыцарскай годнасці [8].

З тэксту гэтага прывілея відаць, што ён фактычна пазбаўляў законнай сілы дыскрымінацыйныя нормы Гарадзельскага прывілея і сведчыў аб тым, што феадалы-католікі і каталіцкае духавенства ў інтарэсах класавай салідарнасці гатовы былі крыху аслабіць палітыку прымусовага насаджэння каталіцызму.

Такім чынам, Гарадзенскі прывілей 1432 года стварыў прававыя перадумовы для згуртавання і выдзялення ўсяго класа феадалаў у прывілеяванае саслоўе шляхты, аб'яднаўшы яго на класавай аснове незалежна ад веравызнання. Ён ліквідаваў прававыя бар'еры, якія перашкаджалі правядзенню сумесных нарад феадалаў пры вырашэнні дзяржаўных спраў, што стварыла перадумовы для развіцця вышэйшых дзяржаўных органаў: сейма і рады. Таму Гарадзенскі прывілей 1432 года і прывілей 1434 года, які дапоўніў яго, з поў-

най падставай можна лічыць найважнейшымі прававымі актамі ў справе аб'яднання і кансалідацыі саслоўя шляхты, а прывілеі 1387 і 1413 гадоў толькі падрыхтоўчымі актамі. Негрунтоўнасць дыскрымінацыйных норм Гарадзельскага прывілея 1413 года адзначаў М. Н. Пакроўскі. Ён пісаў: «Можна лічыць даказаным, што тэндэнцыі каталіцызму не знайшлі сабе ўвасаблення ў літоўска-рускай рэчаіснасці. Славуты Гарадзельскі прывілей 1413 года, які недапушчаў васалаў некаталіцкага вызнання да вышэйшых пасад у вялікім княстве, у гэтым сваім пункце застаўся мёртвай літарай, а ў 1432 годзе ўсе перавагі, дадзеныя гэтым прывілеем баярам-католікам, былі фармальна распаўсюджаны і на баяр-праваслаўных. Пазнейшыя дакументы, якія змяшчалі абмежаванне гэтага роду, як відаць, проста былі створаны езуітамі ў канцы XVI стагоддзя» [9].

Прынцыпы саслоўнага, агульнашляхецкага права, выкладзенага ў Гарадзенскім прывілеі 1432 года, атрымалі далейшае развіццё і замацаванне ў прывілеі ад 6 мая 1434 года. Гэтым прывілеем пацвярджалася роўнасць правоў феадалаў-праваслаўных з католікамі; узаконьвалася і гарантавалася права валодання маёнткамі і перадача іх па наследству або па іншых законных падставах; сяляне і падданыя, залежныя ад феадалаў, вызваляліся ад некаторых агульнадзяржаўных павіннасцей; пацвярджалася права праваслаўных феадалаў карыстацца гербамі і іншымі знакамі шляхецтва; абвяшчалася захаванне ў сіле на вечныя часы ўсіх раней выдадзеных прывілеяў і грамат. Галоўнае новаўвядзенне гэтага прывілея заключалася ў абяцанні вялікага князя па даносу або па тайнаму абвінавачванню з боку каго-небудзь альбо па неабгрунтаванай падазронасці не караць названых князёў і баяр, перш чым яны не будуць выкрыты ў публічным судзе ў адпаведнасці з законамі [10]. Гэтым артыкулам была замацавана адна з найбольш важных гарантый — асабістая свабода і недатыкальнасць шляхціца. У наступных прывілеях і статутах гэта важнейшая канстытуцыйная норма неаднаразова пацвярджалася і атрымала далейшае развіццё.

Важным этапам у развіцці заканадаўства на-

огул і дзяржаўнага права ў прыватнасці паслужыў прывілей Казіміра 1447 года. У ім больш поўна і грунтоўна былі выкладзены правы класа феадалаў і саслоўя шляхты, некаторыя прынцыпы крымінальнага, грамадзянскага і дзяржаўнага права. Так, у артыкуле 3 звяртае на сябе ўвагу пашырэнне кола асоб, якім гарантуецца іх недатыкальнасць. Тут больш поўна пералічаны групы класа феадалаў і саслоўя шляхты, а таксама ўключаны гарадскія жыхары, «месцічы». Яны ўказаны і ў прэамбуле прывілея. Усё гэта дазваляе зрабіць вывад, што прывілей 1447 года быў не толькі саслоўным актам, а меў юрыдычнае значэнне і для простых людзей, асабліва гараджан. У гэтым нас яшчэ больш пераконвае змест артыкулаў 2, 4, 7, 8, 9, 14. Так, у артыкуле 2 гасудар абавязуецца захоўваць усе раней выдадзеныя прывілеі, берагчы і ахоўваць цэрквы, у выпадку царкоўных вакансій прызначаць служыцелямі толькі ўраджэнцаў Вялікага княства Літоўскага. У артыкуле 4 выкладаўся адзін з найбольш важных прынцыпаў крымінальнага права аб прымяненні пакарання толькі да вінаватай асобы і ў адпаведнасці з правам. Гэтая норма затым была ўключана і ў статуты. Дзеянне артыкула 4 прывілея 1447 года распаўсюджвалася як на шляхту, так і на простых людзей без усякага выключэння.

Гэты артыкул цікавы яшчэ і тым, што ў ім упершыню сустракаецца абагульненае паняцце злачынства, якое называецца «проступкой». Акрамя таго, у ім змяшчаецца і паняцце саўдзельніка злачынства — «причастник».

У артыкуле 5 змяшчалася канстытуцыйная норма аб праве феадалаў свабодна выязджаць за граніцу «для лепшого шчастья набытия, а любо учинков рытерских» [11], акрамя непрыяцельскіх зямель. Артыкул 6 паўтараў правы феадалаў валодаць і распараджацца маёнткамі. Новым у гэтым артыкуле быў запіс аб праве мяшчан распараджацца набытымі маёнткамі, а таксама патрабаванне, каб усе феадалы мелі дакументы на нанава набытыя маёнткі. Артыкулы 7 і 8 замацоўвалі спадчынныя правы. У артыкуле 9 пацвярджалася права выдаваць замуж дачок, пляменніц і ўдоў без ведама гасудара або яго намеснікаў.

Далей у прывілеі была выкладзена норма, па якой «сяляне і падданыя» князёў, рыцараў, шляхты, баяр і мяшчан вызваляліся, у карысць сваіх паноў, ад дзяржаўных падаткаў, работ і іншых павіннасцей, за выключэннем будаўніцтва і рамонту замкаў, дарог і мастоў, а таксама падатку натурай, называемага «стацыі», які меў мэтавае прызначэнне — забяспечыць харчаваннем пры заездзе вялікага князя або яго ўпаўнаважаных у дадзеную мясцовасць. Гэтай нормай было пацверджана і развіта запісанае ў прывілеі 1434 года выключэнне феадальна-залежнага насельніцтва з ліку асоб, непасрэдна залежных ад дзяржавы. У сілу гэтага акта дзяржаўныя паўнамоцтвы па збору падаткаў з насельніцтва былі перададзены асобным феадалам. Дзякуючы гэтай норме феадалы значна ўмацавалі свой эканамічны, а разам з ім і палітычны ўплыў у дзяржаве. Пры такім становішчы, у выпадку неабходнасці зрабіць буйныя расходы на абарону, урад вымушаны быў прасіць феадалаў прадаставіць яму патрэбныя сродкі, бо дзяржаўная казна была, як правіла, пустой. Для гэтай мэты пачалі рэгулярна склікацца сеймы. Паслабленне эканамічных магчымасцей урада пацягнула за сабой звужэнне сацыяльнай базы палітычнай улады вялікага князя, што ў сваю чаргу садзейнічала ўзрастанню ролі ў дзяржаве буйных феадалаў — паноў.

Працэс узмацнення эканамічнага панавання феадалаў над сялянамі атрымаў юрыдычнае замацаванне ў артыкуле 11, па якім ні гасудар, ні яго намеснікі і іншыя службовыя асобы не павінны былі прымаць на дзяржаўныя або велікакняжацкія землі прыватнаўладальніцкіх сялян. Адначасова і феадалам забаранялася прымаць на свае землі дзяржаўных (велікакняжацкіх) сялян. Тым самым гэтай нормай быў пакладзены пачатак юрыдычнага абмежавання права пераходу сялян. У працэсе падпарадкавання іх феадалу выключнае значэнне меў артыкул 12, па якім за апошнімі замацоўвалася права судзіць залежных сялян, акрамя тых выпадкаў, калі феадал не пажадаў бы сам вырашыць справу. Такім чынам прывілей 1447 года ўзаконіў захоп панамі функцый дзяржаўнай улады ў адносінах да феадаль-

на-залежнага насельніцтва, што садзейнічала ўзмацненню пазаэканамічнага прымусу. Юрыдычнае замацаванне судовых паўнамоцтваў буйных землеўладальнікаў Вялікага княства Літоўскага было ажыццёўлена крыху раней, чым у Польшчы і Расіі. Прызнанне за імі права чыніць суд і расправу над феадальна-залежным насельніцтвам ставіла апошніх у яшчэ большую залежнасць ад паноў, пазбаўляла іх магчымасці шукаць абароны супраць самавольства феадалаў у дзяржаўных установах. Усё гэта дазваляе лічыць прывілей 1447 года галоўным прававым актам, што заклаў асновы юрыдычнага афармлення феадальнай залежнасці сялян.

Выключна важнае дзяржаўна-прававое значэнне мелі два апошнія артыкулы гэтага прывілея. У іх заканадаўча замацоўвалася тэрытарыяльная цэласнасць дзяржавы, яе суверэнныя правы і адасобленасць. Прывілей забараняў ураду раздаваць дзяржаўную маёмасць і пасады іншаземцам. Гэтыя артыкулы былі накіраваны супраць пранікнення польскіх феадалаў у Вялікае княства і адлюстроўвалі адмоўныя адносіны феадалаў гэтага княства да рознага роду дамаганняў іншаземцаў.

Аналіз зместу прывілея 1447 года дазваляе зрабіць выснову аб тым, што яго дзяржаўна-прававое значэнне заключалася перш за ўсё ва ўмацаванні суверэнітэту і адасобленасці Вялікага княства Літоўскага, нягледзячы на тое што вялікі князь Казімір 27 чэрвеня 1447 года стаў каралём Польшчы, і тым самым была адноўлена персанальная унія дзвюх дзяржаў. Адначасова прывілей замацаваў узрослае эканамічнае і палітычнае значэнне класа феадалаў, асабліва яго вярхоў, і паклаў пачатак заняволенню сялян. Акрамя таго, прывілеем 1447 года было значна пашырана кола асоб, за якімі прызнаваліся правы шляхты, незалежна ад наяўнасці ў іх гербаў і веравызнання. Такім чынам, прывілеі 1432, 1434 і 1447 гадоў паслужылі юрыдычнай асновай афармлення правоў усяго саслоўя шляхты.

Уступленне на велікакняжацкі прастол Аляксандра Казіміравіча ў 1492 годзе было азнаменавана выдачай новага універсальнага прывілея, у якім змяшчалася 33 параграфы, або артыкулы [12].

У першых дванаццаці артыкулах пацвярджаліся, з частковымі зmяненнямі і ўдакладненнямі, усе правы і прывілеі, абвешчаныя ў раней прынятых граматах. Затым у артыкуле 13 былі замацаваны асноўныя прынцыпы міжнароднай палітыкі, згодна з якімі ўрад быў абавязаны падтрымліваць добрасуседскія адносіны з усімі дзяржавамі і захоўваць усе раней заключаныя саюзы і пагадненні. Новымі былі таксама нормы, якія прадугледжвалі юрыдычнае замацаванне ўзрослай ролі буйных феадалаў і іх органа — рады. Прывілей устанаўліваў, што вялікі князь не меў права адмяняць або змяняць законы, пастановы і судовыя рашэнні, прынятыя сумесна з радай. У выпадку ж, калі пры абмеркаванні у радзе якіх-небудзь пастаноў паны — рада не згодзяцца з думкай вялікага князя, то ён быў абавязаны выканаць тое, што яму параяць феадалы.

Прывілей забараняў службовым асобам вымагаць у падначаленых і насельніцтва звыш устаноўленых плацяжоў рознага роду падаткі. Гэтую норму можна разглядаць як першы прававы акт, які паклаў пачатак барацьбы са злоўжываннямі мясцовых улад. У артыкулах 16—20 вызначаліся агульныя прынцыпы парадку прызначэння і пазбаўлення дзяржаўных пасад. Устанаўлівалася, што ніхто не мог быць пазбаўлены пасады без віны, устаноўленай у працэсе публічнага разбірацельства. Мясцовыя службовыя асобы павінны былі выконваць свае абавязкі і вырашаць справы ў адпаведнасці з мясцовымі звычаямі.

Прывілей 1492 года заканадаўча пацвердзіў абавязковы характар мясцовых прававых звычаяў, што дазваляла лепш улічваць асаблівасці кожнай мясцовасці, рабіла ўсю дзейнасць службовых асоб больш даступнай і зразумелай для насельніцтва, бо нормы, выпрацаваныя на працягу многіх стагоддзяў, былі вядомы яго большасці. Акрамя таго, на пасады прызначаліся, як правіла, асобы, якія выраслі ў дадзенай мясцовасці і ведалі мясцовае права. Гэтае правіла было замацавана ў артыкуле 16, па якім урад быў абавязаны даваць дзяржаўныя пасады і маёмасць у кіраванне і трыманне толькі ўраджэнцам Вялікага княства. На пасады павінны былі прызначацца асобы най-

больш дастойныя і тыя, хто аказаў дзяржаве найбольшую карысць.

Змест гэтых норм дазваляе зрабіць вывад аб тым, што прывілей быў першым канстытуцыйным актам, які заклаў асновы і адміністрацыйнага права. У артыкуле 23 устанаўлівалася, што дзяржаўныя сродкі павінны былі аддзяляцца ад асабістых велікакняжацкіх і маглі выдаткоўвацца толькі са згоды радных паноў і толькі на агульнадзяржаўныя патрэбы. Устанаўліваўся парадак збору падаткаў. Прывілей абвяшчаў недапушчальнасць перадачы свецкіх спраў у духоўныя суды і наадварот. Урад абяцаў разгледзець усе залежалыя скаргі і справы, пададзеныя яшчэ на імя вялікага князя Казіміра.

У прывілеі абвяшчалася неабходнасць вынясення справядлівых судовых рашэнняў, забараняліся хабары і судзейская неаб'ектыўнасць. Устанаўліваліся пэўныя тэрміны разгляду спраў. Тым самым гэты канстытуцыйны акт быў накіраваны на ўдасканальванне адзіных для ўсёй дзяржавы нормаў судаводства (арт. 2, 3, 11, 14, 18, 24, 28, 29, 33).

Класавая і саслоўная накіраванасць прывілея асабліва выразна была выказана ў артыкуле 25, па якім урад абавязваўся не ўзвышаць простых людзей над шляхтай. З мэтай недапушчальнасці пераходу маёнткаў у рукі іншаземцаў устанаўлівалася правіла, па якім, у выпадку выхаду жанчыны замуж за граніцу Вялікага княства, яна пазбаўлялася ўсіх правоў на нерухомую маёмасць. У прывілеі абвяшчалася нязменнасць усіх раней выдадзеных грамат, якія заставаліся ў сіле на вечныя часы.

Кароткі агляд зместу прывілея 1492 года дазваляе зрабіць вывад аб тым, што быў ён своеасаблівай феадальнай канстытуцыяй, якая замацавала асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу Вялікага княства Літоўскага, пануючага становішча класа феадалаў і яго вярхоў — паноў.

Прывілей паслужыў важным крокам у заканадаўчым замацаванні асноўных прынцыпаў грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, адміністрацыйнага права. Асабліва важнае дзяржаўна-прававое значэнне мелі нормы, якія замацавалі абмежаванне ўлады гасудара і фактычна вызна-

чылі яго прававое становішча не як гасудара-вотчынніка, а як вышэйшай службовай асобы ў дзяржаве. Выключнае дзяржаўна-прававое значэнне гэтаму акту надавалі і сучаснікі, называючы яго «генеральным прывілеем». Таму, названы ў гістарычнай літаратуры «Магнацкай хартыяй» [13], ён не раскрывае ўсяго значэння гэтага дзяржаўна-прававога акта, вядзе да яго аднабаковай і палавінчатай характарыстыкі, збядняе змест і не дазваляе поўнасцю раскрыць сутнасць грамадскага і дзяржаўнага ладу.

Канстытуцыйны характар прывілея 1492 года становіцца яшчэ больш ясным і дакладным з тымі дапаўненнямі і ўдакладненнямі, якія былі зроблены ў Гарадзенскім прывілеі ад 7 снежня 1506 года [14]. У ім былі пацверджаны ўсе асноўныя палажэнні прывілея 1492 і больш дакладна выказана яго агульнадзяржаўнае значэнне. Прывілей 1506 года пачынаецца агульнапрынятым для ўсіх прывілеяў уступам, але змест яго значна адрозніваецца ад іншых. У ім захоўваецца царкоўная формула «боскай міласцю», але адначасова падкрэсліваецца, што абранне вялікага князя адбылося са згоды і па жаданню свецкіх і духоўных феадалаў, а таксама іншых падданых і жыхароў Вялікага княства Літоўскага.

Вядома, на самай справе простыя людзі не ўдзельнічалі ў абранні гасудара, але ўнясенне гэтага запісу сведчыла аб жаданні кіруючых вярхоў трымаць уладу ў сваіх руках, грунтуючыся нібыта на волі ўсяго народа, бо яны лічылі сябе выразнікамі яго волі і прадстаўнікамі. Акрамя таго, у прывілеі пацвярджаліся «ўсе правы, вольнасці і граматы», выдадзеныя цэрквам, духоўным і свецкім феадалам, «гарадам, мяшчанам, жыхарам і наогул асобам усіх саслоўяў і стану», г. зн. у гэтай частцы прывілей быў адрасаваны ўсяму насельніцтву Вялікага княства. Зразумела, што ўпамінанне аб захаванні правоў і вольнасцей усяго насельніцтва насіла, у значнай ступені, прапагандысцкі характар, але ўсё ж яно мела і практычнае значэнне ў частцы захавання ў сіле нормаў, запісаных у абласных, валасных і гарадскіх прывілеях, у якіх змяшчаліся правілы, якія абаранялі, у пэўнай ступені, правы простых людзей.

У прывілеі 1506 года юрыдычна больш выразна было выказана абмежаванне ўлады гасудара, ён поўнасцю пазбаўляўся права асабіста выдаваць заканадаўчыя акты. У артыкуле 7 было запісана: «Мы не інакш будзем тлумачыць і дапасоўваць статуты і зацверджаныя і ўхваленыя да выканання старадаўнія звычаі або ўноў укладзеныя і абвешчаныя і тыя, якія будуць упарадкаваны для агульнай выгады рэспублікі нашай, як пасля грунтоўнага разважання і з ведама нарады і згоды паноў рады нашых Вялікага княства Літоўскага» [15].

Новым для агульназемскіх прывілеяў быў запіс аб праве падданых падаваць чалабітныя і іншыя скаргі (арт. 8). Заканчваўся прывілей 1506 года абяцаннем, дадзеным пад прысягай, захоўваць усе законы і раней выдадзеныя граматы ў поўнай сіле на вечныя часы.

Выданнем прывілея ад 7 снежня 1506 года завяршыўся першы этап развіцця дзяржаўнага права ў форме прывілеяў. Наступныя, выдадзеныя ў 1529, 1547 і 1551 гадах, у асноўным пацвярджалі законнасць раней выдадзеных прывілеяў і паўтаралі іх. Яны ўяўляюць цікавасць з пункту гледжання формы і спосабаў сістэматызацыі і кадыфікацыі нормаў права.

Праведзеныя ў дваццатых гадах XVI стагоддзя работы па кадыфікацыі і сістэматызацыі права Вялікага княства Літоўскага, у выніку якіх быў выдадзены Статут 1529 года, паклалі пачатак новаму этапу сістэматызацыі права. Далейшае развіццё права ішло ў форме статутаў і сеймавых пастаноў (ухвал і канстытуцый). Разам з тым у сярэдзіне XVI стагоддзя працягваюць выдавацца і прывілеі, хоць іх змест, акрамя пацвярджальных прывілеяў 1529, 1547 і 1551 гадоў, носіць больш абмежаваны характар. Так, прывілей ад 7 чэрвеня 1563 года высакамоўнымі словамі абвяшчаў ураўнаванне ў правах праваслаўных феадалаў з католікамі.

Шэраг новых палажэнняў уносіўся Бельскім прывілеем 1564 года. У ім абвяшчалася аддзяленне некаторых судовых органаў ад адміністрацыі, выбарнасць саслоўных судоў, роўнасць шляхты перад судом і законам. Усе гэтыя палажэнні былі ўзяты з праекта новага Статута, які ўступіў у сі-

лу ў 1566 годзе. Тут палажэнні былі выкладзены больш поўна і выразна, таму прывілей 1564 года насіў другарадны характар, служыў як бы прыналежнасцю да галоўнага акта — Статута. Гэты службовы характар прывілея 1564 года выражаўся таксама ў тым, што ён быў змешчаны ў якасці ўводнага закона да Статута 1566 года і складаў з ім адзіны прававы акт.

Падобны характар меў і прывілей ад 30 снежня 1565 года, які вызначаў парадак склікання павятовых сеймікаў. Нічога новага, па сутнасці, не ўносіў і прывілей ад 1 ліпеня 1568 года. У ім яшчэ раз аб'яўлялася аб ураўнаванні ў правах праваслаўных з каталікамі.

Асаблівае месца займае прывілей, выдадзены 21 снежня 1568 года ў замку Воіне [16]. Імкнучыся заманіць феадалаў Вялікага княства Літоўскага на сумесны з польскімі феадаламі сейм у Любліне, з прычыны злучэння абедзвюх дзяржаў, Сігізмунд-Аўгуст выдаў прывілей, у якім змяшчаўся шэраг абяцанняў. Вялікі князь абяцаў не прымушаць прадстаўнікоў Вялікага княства Літоўскага прымаць умовы уніі, прапанаваныя польскім бокам, захоўваць недатыкальнасць тэрыторыі Вялікага княства, не ўводзіць нічога новага, што супярэчыла б раней выдадзеным прывілеям і ўсім старым звычаям дзяржавы. Спецыяльна агаворвалася захаванне Падляшша ў саставе Вялікага княства Літоўскага. Праўда, усе гэтыя клятвы і абяцанні Сігізмундам-Аўгустам былі парушаны і зроблены толькі з мэтай падману.

Разгледзеўшы гэтыя прывілеі, можна зрабіць бясспрэчны вывад, што пасля выдання Статута 1529 года галоўнае значэнне ў развіцці права стала належаць не прывілеям, хоць і яны працягвалі выдавацца, а статутам і сеймавым пастановам.

Падводзячы вынік разгляду агульназемскіх прывілеяў, можна адзначыць, што яны ў сваёй сукупнасці ўяўлялі сабой асноўныя законы дзяржавы, г. зн. складалі своеасаблівую канстытуцыю, у якой былі замацаваны асноўныя палажэнні дзяржаўнага і іншых галін права. У гістарычнай літаратуры іх значэнне часта прыніжалася, а прававы аналіз падмяняўся трафарэтным штампам, па якім агульназемскія прывілеі зводзіліся

да ролі запазычаных з Польшчы імунітэтных грамат аднаго толькі саслоўя — шляхты. Буржуазныя гісторыкі не жадалі бачыць ролі народа, які сваімі выступленнямі ў 1386—1392, 1432, 1440 і іншых гадах аказваў націск на праватворчасць і правасвядомасць пануючага класа, а таксама штодзённай класавай барацьбой прымушаў кіруючыя вярхі ўлічваць і яго інтарэсы, тым самым як бы нябачна прысутнічаючы пры выпрацоўцы найважнейшых заканадаўчых актаў. Таму ў кожным агульназемскім прывілеі ёсць нормы, якія прама ці ўскосна адрасаваны ўсяму насельніцтву дзяржавы. Гэты ўплыў народа на заканадаўства яшчэ больш выразна праяўляецца ў абласных, валасных і гарадскіх прывілеях, якія знаходзіліся ў арганічнай сувязі з агульназемскімі прывілеямі.

Першыя абласныя граматы (прывілеі) у Вялікім княстве Літоўскім былі выдадзены, на думку М. Ясінскага і І. Якубоўскага, Полацкай і Віцебскай землям у прамежку часу ад 1392 да 1399 года [17]. З гэтым датаваннем можна згадзіцца, але неабходна мець на ўвазе, што значная частка нормаў, выкладзеных у гэтых прывілеях, мае яшчэ больш старажытнае паходжанне.

Сапраўдныя першапачатковыя тэксты гэтых прывілеяў нам невядомы, але паколькі яны неаднаразова пацвярджаліся ў наступных граматах, у якіх даслоўна перапісваліся старажытныя тэксты, то аб іх змесце можна меркаваць па гэтых пацвярджальных граматах. Найбольш заслугоўваюць увагі наступныя абласныя прывілеі: Віцебскай зямлі (1503, 1509 і 1561 гадоў), Полацкай (1511, 1547, 1634 гадоў), Смаленскай (1505 года), Кіеўскай (1507 і 1529 гадоў), Валынскай (1501, 1509 і 1547 гадоў), Жмудскай (1492, 1574 гадоў), Драгічынскай (1511, 1547 гадоў), Бельскаму павету (1501 і 1547 гадоў), Мсціслаўскаму павету (1551 года).

Самыя старажытныя нормы прывілеяў былі выпрацаваны на працягу доўгага часу, калі асобныя княствы (вобласці) выступалі як самастойныя дзяржавы, якія, прымаючы да сябе таго ці іншага князя, заключалі з ім дагавор (рад). У іх князі давалі абяцанне захоўваць правы жыхароў дадзенай зямлі, не парушаць нормаў мясцовага

права. Да нас не дайшлі пісаныя тэксты дагаворных грамат Полацкага і Віцебскага княстваў, а ёсць толькі ўпамінанні аб такіх дагаворах, прысязе і цалаванні крыжа князем пры ўступленні на прастол. З супастаўлення найбольш старажытнай часткі тэкстаў Полацкага і Віцебскага прывілеяў з Ноўгарадскімі дагаворнымі граматамі відаць, што ў прывілеі ўключаны падобныя дагаворныя граматы. І. В. Якубоўскі, аналізуючы Полацкі і Віцебскі прывілеі, выдзеліў найбольш старажытныя нормы і аднавіў з іх адзінаццаць артыкулаў тэксту старажытнай дагаворнай граматы (рада).

Нормы гэтыя аднесены І. В. Якубоўскім да першай паловы XIV стагоддзя на той падставе, што абяцанне не ўступаціся ў цэрквы зыходзіць, як відаць, ад князёў-язычнікаў, якія нібыта з'явіліся ў Полацку толькі ў першай палове XIV стагоддзя. Трэба сказаць, што князі-язычнікі ў Полацку былі ў IX, X, XI стагоддзях, а таксама пачынаючы з сярэдзіны XIII стагоддзя, калі полацкім князем быў Таўцівіл. Таму спасылка на князёў-язычнікаў не можа дапамагчы ўстанавіць дату ўзнікнення старажытнейшых нормаў Полацкага прывілея. Акрамя таго, адсутнасць у Ноўгарадскіх радных граматах артыкула, што забараняў князю ўмешвацца ў царкоўныя справы, можна растлумачыць не тым, што князі былі праваслаўныя, а тым, што ў Ноўгарадзе дзейнічаў Статут вялікага князя Усевалада Мсціславіча (1135—1137 гг.), у якім было запісана: «А по сем не вступатися детем моим, ни внучатам моим, ни всему роду моему до века в люди церковным, ни в вси суды их» [18]. Пры наяўнасці такога закона ноўгарадцам не было патрэбы ўносіць падобнае правіла ў рад з князем. Можна з упэўненасцю меркаваць, што старажытнейшыя нормы не былі створаны пры якімсьці адным князі, а выпрацоўваліся на працягу ўсяго перыяду існавання Полацкага або Віцебскага княстваў. Пасля ж страты імі сваёй самастойнасці скарацілася і самастойная праватворчасць, а раней выпрацаваныя прававыя нормы пераносіліся з аднаго акта ў другі, бо рад (дагавор) мог заключацца з князем толькі пры захаванні княствам сваёй незалежнасці. Такім чынам, ёсць дастатковыя падставы лічыць,

што ўказаныя нормы права выпрацоўваліся на працягу ўсёй гісторыі Полацкай або Віцебскай дзяржаў, а затым уключаліся ва ўсе наступныя граматы без істотных змен, але з далучэннем да іх новых прававых нормаў, што забяспечвалі і замацоўвалі аўтаномныя правы дадзенай зямлі, а таксама правы і льготы класа феадалаў, багатых купцоў і рамеснікаў.

Змешчаныя ў Віцебскім і Полацкім прывілеях нормы дзяржаўнага права, якія замацоўвалі аўтаномныя правы гэтых зямель у саставе Вялікага княства Літоўскага, датычацца, у асноўным, XIV і першай паловы XV стагоддзя, а затым пацвярджаліся ў XVI і XVII стагоддзях. Выдача абласных прывілеяў і іх пацвярджэнне мелі дзяржаўна-прававы характар, бо сама наяўнасць гэтых прывілеяў сведчыла аб асаблівым становішчы дадзенай зямлі ў дзяржаве, яе адасобленасці і непарыўнай цэласнасці.

Захаванне зямлі як адзінага цэлага і адасобленай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі з яе аўтаномнымі правамі было замацавана ў многіх палажэннях, запісаных у прывілеі. Напрыклад, было запісана: «А Витбляны нам не даритися никому», «а в заставу нам бояр и мещан Полоцких и поселских путников не посылати», «давати нам воеводу нашого Полочаном, по их воли; а который будеть воевода наш нелюб им, ино нам им воеводу иншого дати по их воли» [19]. Акрамя таго, пра зямлю як адзінае цэлае гаварылася і ва ўступных частках прывілеяў. «Били нам чолом бояре Полоцкии и мещане и весь город, вся земля Полоцкая». Дзяржаўна-прававая цэласнасць і адасобленасць асабліва выразна выказана ў наступным запісу Смаленскага прывілея: «А што Швитригайло отвернул был волости от Смоленска, тые волости зася его милось привернул к Смоленску; и што великий князь Витовт обернул было ко Мстиславли Смоленское волости Молоховскии люди, и тые люди его милось опять привернул к Молохве по старому; а тых волостей Смоленских никому не держати, нижьли бояром Смоленским же» [20]. Цікава, што пры спагнанні мыта, пры перавозцы тавараў з адной зямлі ў другую пытанне вырашалася на аснове ўзаемнасці, у ад-

паведнасці з міжнародным правам. Вось што было запісана ў тым жа Смаленскім прывілеі: «Естли бы Полочане брали на Смоленях мыто от соли и от воску, и его милость такеж Смоляном велел брати на Полочанех от соли и от воску; а естли бы Полочане на Смолянех не брали, ино и Смоляном на Полочанех не брати».

Аўтаномны характар зямель, якія атрымалі прывілеі, выразна праяўляўся ў заканадаўчым замацаванні нормаў мясцовага звычаёвага права. Так, судзіць палачаніна трэба было толькі ў самім Полацку з удзелам палачан і па полацкаму праву. За баярамі і мяшчанамі гэтых зямель прызнавалася права свабоднага выезду з зямлі. «Теж Полочаном всим жити в Полоцку доброволько, покуль хто хочет; а будеть ли которому Полочанину от нас насильство, нам его силою не держати: ино ему путь чист, куда хто хочеть, без каждое зачепки; а во всем именьи своем волен, идучи прочь продати, любо которому приятелю своему приказати, а то нам не вступатися». Як відаць, і гэты запіс разглядае Полацкую зямлю як аўтаномную вобласць, пануючы клас якой карыстаецца асаблівымі правамі і льготамі.

У абласных прывілеях значнае месца было ўдзелена забеспячэнню аховы маёмасных і асабістых правоў заможных слаёў насельніцтва. Напрыклад, у Полацкім і Віцебскім прывілеях меўся запіс аб тым, што гасудар абяцаў не парушаць правоў уласнасці жыхароў дадзенай зямлі. «Всхочет ли свои именья хто продати, или отдати, или заменити с ким, ино нам, або наместником нашим явивши, продати и заменити. А в купленины в Полоцкие нам не вступатися, также и в безадщины их и в отумерщины не вступатися нам». Абласныя прывілеі гарантавалі права ўдоў на валоданне маёнткамі пасля смерці мужоў, а таксама ўсім жанчынам забяспечвалася права выхаду замуж без умяшання службовых асоб: «Жон их силою замуж не давати» (Віцебскі, Полацкі і Смаленскі прывілеі). У гэтых запісах звяртае на сябе ўвагу той факт, што насельніцтва ў цэлым шэрагу нормаў не падраздзяляецца на класы і саслоўі, а выступае як бы адзінай масай палачан, віцяблян, смальнян. Гэта можна растлумачыць тым,

што такія нормы ўзніклі да ўтварэння ўстойлівага саслоўнага дзялення грамадства, г. зн. да XV стагоддзя. Параўноўваючы змест агульназемскіх прывілеяў з абласнымі, можна адзначыць, што многія нормы іх утрымліваюць тоесныя правілы. Так, напрыклад, прывілей ад 20 лютага 1387 года абвяшчае, што асобы, якія прынялі каталіцкую веру, будуць мець магчымасць свабодна распараджацца маёнткамі, а таксама выдаваць удоў і дзяўчат замуж. Такое ж правіла ёсць у Полацкім і Віцебскім прывілеях. Улічваючы, што нормы абласных прывілеяў носяць больш старажытны характар, можна з дастатковай падставай зрабіць вывад, што ў гэтай частцы агульназемскія прывілеі нічога новага не ўносілі, а толькі замацавалі ў законе мясцовае звычаёвае права, якое дзейнічала раней на тэрыторыі асобных абласцей на ўсё Вялікае княства.

Таму трэба таксама прызнаць неабгрунтаваным сцвярджэнне буржуазных гісторыкаў аб запазычанні ў агульназемскіх прывілеях нормаў польскага права. Той факт, што ў шэрагу грамат робіцца спасылка на польскае права, можна растлумачыць тым, што ўрад, клапоцячыся аб распаўсюджанні каталіцызму, імкнуўся надаць каталіцкаму духавенству арэол носьбітаў законнасці і абаронцаў правоў насельніцтва. У гэтым асабліва былі зацікаўлены самі каталіцкія епіскапы і канонікі, якія, як правіла, прымалі ўдзел у рэдагаванні агульназемскіх прывілеяў і ўсімі сіламі імкнуліся паказаць, што ў каталіцкай Польшчы правы насельніцтва, асабліва класа феадалаў, больш шырокія, чым у Беларусі, Літве і на Украіне. Гэта прапагандысцкае сцвярджэнне ідэолагаў каталіцкай агрэсіі XV—XVI стагоддзяў буржуазныя гісторыкі прымалі за аксіёму і нават не рабілі спроб прааналізаваць гісторыю паходжання крыніц нормаў агульназемскіх прывілеяў. Параўнанне ж нормаў агульназемскіх і абласных прывілеяў дазваляе зрабіць вывад аб іх узаемнай сувязі і адзінстве паходжання іх крыніц з нормаў старажытнага мясцовага звычаёвага права. Вядома, што пасля распаўсюджвання каталіцызму магло мець некаторы ўплыў і замежнае права, але ў аснове прывілеяў ляжала ўсё ж мясцовае права.

Гэты вывад яшчэ больш пацвярджаецца з аналізу нормаў крымінальнага, грамадзянскага і працэсуальнага права, выкладзенага ў прывілеях. Напрыклад, у Полацкім і Віцебскім прывілеях змяшчалася правіла, у сілу якога пакаранне магло вызначацца толькі пасля разгляду справы ў адкрытым судовым пасяджэнні і ў адпаведнасці з правам. Падобнае правіла было запісана і ў агульназемскіх прывілеях 1434, 1447 і 1492 гадоў, а затым і ў статутах. У Полацкім прывілеі змяшчаецца запіс аб крымінальнай адказнасці толькі за віну і аб суразмернасці пакарання са злачынствам. «А хто будеть што заслужіл, как право вкажеть, так его карать, по его віне, а жоны и детей не займати, а именья не рушати».

Аналагічнае правіла запісана і ў артыкуле 4 агульназемскага прывілея 1447 года. Магчыма, вядома, што некаторыя нормы абласных прывілеяў былі запазычаны з агульназемскіх, але гэта менш верагодна, бо нормы, выкладзеныя ў іх першапачаткова, дзейнічалі на тэрыторыі усёй дзяржавы і не патрабавалася спецыяльнага акта для іх увядзення ў дзеянне ў той ці іншай зямлі.

Пры распаўсюджванні ж на ўсю дзяржаву нормаў мясцовага права, выкладзеных у абласных прывілеях, патрабавалася выданне новага агульнадзяржаўнага акта. Да таго ж са зместу падобных артыкулаў прывілеяў відаць, што ў агульназемскіх больш дакладна выказаны класавы і саслоўны падзел грамадства ў параўнанні з абласнымі прывілеямі, што таксама можа быць ускосным доказам старажытнасці апошніх.

Забеспячэнню аховы правоў пануючага класа былі прысвечаны многія нормы, уключаныя ў абласныя прывілеі на працягу XV і першай паловы XVI стагоддзя. Асабліва ярка гэта відаць у тых прывілеях, паходжанне якіх датычыцца больш позняга часу. У іх размова ідзе ў асноўным аб прадстаўніках пануючага класа. Напрыклад, у Кіеўскім прывілеі 1529 года гаворыцца, што ён выдадзены па просьбе князёў, паноў, баяр, зямян і ўсёй кіеўскай шляхты. У Мсціслаўскіх прывілеях 1541 і 1551 гадоў таксама запісана, што яны выдадзены панам, баярам і ўсёй шляхце. У тэксце ж нормы датычацца ўсяго насельніцтва.

У абласных прывілеях змяшчаецца таксама ўпамінанне аб некаторых мясцовых органах кіравання і службовых асобах, якія захоўваліся ў гэтых землях пасля іх уваходжання ў састаў Вялікага княства Літоўскага. Такімі былі цівун, лоўчы, падвойскі, гараднічы і некаторыя іншыя. Таму абласныя прывілеі з'яўляюцца каштоўнай крыніцай і пры вывучэнні гісторыі мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання. Значную каштоўнасць яны ўяўляюць і пры даследаванні сацыяльнай і саслоўнай структуры грамадства. Усё гэта дазваляе зрабіць вывад аб навуковай значнасці абласных прывілеяў пры вывучэнні гісторыі грамадскага і палітычнага ладу Беларусі ў перыяд феадалізму.

Для вывучэння старажытнага быту сялян Беларусі, іх павіннасці перад дзяржавай і мясцовай адміністрацыяй асаблівую цікавасць маюць граматы, выдадзеныя валасцям. Гаспадарскія лісты, статуты, вырокі выдаваліся валасцям часцей за ўсё ў выніку чалабітнай скаргі насельніцтва на парушэнне даўніны і самавольства мясцовай адміністрацыі. Гэтыя акты па свайму зместу мелі розны характар. Адны з іх даволі падрабязна вызначалі размеры многіх павіннасцей насельніцтва (падаткі грашамі, прадуктамі працы, палявання, промыслаў, розныя работы). Другія закранали толькі адну або некалькі павіннасцей. Агульны ж аналіз гэтых актаў дазваляе, у значнай меры, аднавіць характар эксплуатацыі працоўнага народа, як феадальнай дзяржавай у цэлым, так і асобнымі феадаламі. У валасныя граматы ўпісваліся як старадаўнія падаткі і павіннасці, якія несла насельніцтва на працягу многіх стагоддзяў (палюддзе, дзякла, куніца, сярэбшчына, заезд, стацыі і інш.), так і новыя.

З развіццём феадальных адносін і заняволеннем сялян старыя звычаі пастаянна парушаліся і ўводзіліся новыя падаткі і павіннасці. Асабліва разаральнымі для насельніцтва былі розныя паборы ў карысць мясцовых службовых асоб, якія, імкнучыся да нажывы, даводзілі да галечы цэлыя вёскі і воласці. У грамаце, накіраванай ваяводзе віленскаму ў сувязі са скаргай насельніцтва Гомельскай воласці на гомельскага намесніка, чы-

таем: «...приходили до нас многие люди наши Гомейские, жалуючи сами от себе и от всих мещан и людей волости Гомейское... ино дей князь Василий тыи листы наши у них поотнимал и того ж году почал им кривды чинити... И не могучи они кривд и тяжкостей своих великих от него терпети, выправили были неколко людей с жалобою до нас господаря, и он деи оных людей казал на дорозе переняти и побити, и ограбити и у вежу посажати, и пенезей готовых взял в них шестнадцать коп грошей и двадцать бобров и двесте грошей вины на всих их взял»[21]. Далей, тлумачачы, чаму ўрад лічыць неабходным абмежаваць самавольства гомельскага намесніка, указвалася, што да людзей, якія жывуць ва ўскраінных землях, «треба ся ласкаве заховати и не годиться им ни в чем обтяженья чинити... И так того смотря, жебы подданые нашы тамошние таковых тяжкостей от него не приймовали и з отчизн своих проч ся не расходили». Як відаць з гэтага запісу, урад, выдаючы валасныя граматы, у першую чаргу клапаціўся аб дзяржаўных даходах. Разам з тым ў гэтыя граматы побач са старымі павіннасцямі ўносіліся і новыя, чым узаконьвалася ўзмацненне эксплуатацыі працоўных.

Тэрыторыя, на якую распаўсюджвалася дзеянне таго ці іншага прывілея, не была аднолькавай. Так, прывілей ад 2 кастрычніка 1511 года ахопліваў воласці Крычава, Прапойска (цяпер Слаўгарад), Чачэрска, Горваля, Рэчыцы, Брагіна, Мазыра, Бчыча, Бабруйска, Свіслаўчы, Любашан, Усвят, Азярышчаў, г. зн. ён распаўсюджваўся на тэрыторыі сучасных трох абласцей Беларусі: Гомельскай, Магілёўскай і Віцебскай[22]. Іншыя ж прывілеі дзейнічалі толькі ў адной якой-небудзь воласці. Дзеянні валасных прывілеяў у часе не абмяжоўваліся якімі-небудзь тэрмінамі. Часцей за ўсё яны выдаваліся «до воли и ласки нашое господское», г. зн. да новай пастановы адміністрацыі. У тых выпадках, калі такога ўказання не было, меркавалася, што яны павінны дзейнічаць вечна. Змяняліся яны новымі граматамі або проста ігнараваліся мясцовымі службовымі асобамі, у сувязі з чым урад часам выдаваў паўторныя граматы. Напрыклад, жыхары Свіслацкай воласці

мелі прывілей 1511 года і, як відаць, яшчэ адзін, больш ранні, а ў 1540 годзе атрымалі новы, у якім гаварылася: «Били нам челом подданные наши Свислоцкие мещане и вся волость, жалуючы о том, иж которую уставу, лист наш первой того у себя мели на тые податки и дань, што на нас господара и на врадников Свислоцких приходит, подле стародавнего обычаю, яко тот замок наш Свислочь стал; и тая дей устава у них, як люди неприятельские Татарове были, сгорела; а иншую дей уставу нашу отнял у них наместник Свислоцкий, и почал им новины вводити, платы и вины непомерные з них брати» [23]. З гэтага запісу відаць, што валасныя прывілеі не толькі ігнараваліся, але і знішчаліся мясцовымі службовымі асобамі.

Змест валасных прывілеяў у асноўным быў накіраваны на прававое замацаванне павіннасцей і некаторых правоў насельніцтва. Напрыклад, у Свіслацкім прывілеі 1540 года акрамя павіннасцей насельніцтва ўказаны і іх наступныя правы: «А о дерево бортное и о бчолы мають ся они сами межи собою судити... а о межу дей потомуж суд... А в жадную дей сторожу их перед тым здавна не посылали... а ни в осад их до замку часу безпечного от неприятелей не гоняли... А хто коли з них умреть, тогда тот статок на близких приходит. Теж вольно им всякое збожье и зверь мохнатый кому хотя продати, також мед пресный и быдло: врадники того им боронити не мають. А которые дей девки идут замуж межи своее волости, с тых куницы не беруть».

У Магілёўскім прывілеі 1536 года прадугледжаны былі гандлёвыя пошліны і льготы. У прывілеі, выдадзеным па скарзе жыхароў Усвяцкай воласці, гаварылася, што ў гэтай воласці «есть обычай стародавний, што они сами старца межи собой выбирають. И били нам чолом, абыхмо их при стародавных обычаях их тамошних заховали... Ино мы на их чолом битье теперь то вчинили, иж они старца межи собою выбранного мають там мети и водлуг давного звыклого их обычая мають ся в том справовати и радити» [24]. З граматы, выдадзенай па скарзе жыхароў Барысаўскай воласці, відаць, што старцы выбіраліся штогод, вясною [25].

Аналіз прававых норм, выкладзеных у валасных граматах, дае падставу сцвярджаць, што насельніцтва гэтых валасцей у даўніну карысталася больш шырокімі правамі. Магчыма таксама, што яны мелі і пісаныя граматы, якія па зместу былі больш блізкімі да абласных прывілеяў, чым граматы XVI стагоддзя.

Валасныя прывілеі ў некаторай ступені рэгулявалі і дзейнасць выбарных асоб — старцаў. Так, Магілёўскім прывілеем 1536 года забаранялася старцам рабіць раскладку павіннасцей на жыхароў горада і воласці на ўласныя патрэбы «без ведома и без воли державцы» [26]. У Бабруйскім прывілеі 1553 года больш падрабязна ўстанаўліваўся парадак раскладкі падаткаў на патрэбы воласці. У гэтым прывілеі гаварылася: «Вси люди бобруйскии жаловали нам, иж старцы частыи меты мечуть на волость, и тым пенязи беручы, на свои потребы оборочають. А так мы на том заставили, иж старцы тых разметов сами вжо не мають на волости метати, нижли, коли на их потребу волостную пенезей потреба вкажеть, тогды они мають, зволившыся вся волость и весполок с старцы, объявити то врадннку... а врадник маеть им придати вижа, перед которым они вижом мають на всю волость розмет кинути так, як бы сума не перевышала, одно только, колько бы им на тую потребу пенязей вказывало, и тыи пенязи вжо старец маеть з них выбирати и на тыи потребы их давати» [27].

Падобныя запісы змяшчаюцца і ў іншых прывілеях. Разам з тым сустракаюцца і такія, якія забараняюць службовым асобам умешвацца ў справы сялянскага самакіравання пры раскладцы даніны. «А коли дей дань заметывати, тогды ни врадник и нихто к ним не маеть въезжати, адно сами мужи и закидывают» [28]. Існаванне гэтых супярэчлівых запісаў сведчыць аб імкненні адміністрацыі паставіць пад свой кантроль дзейнасць валаснога самакіравання і аб наяўнасці супярэчнасцей унутры мясцовага насельніцтва. Больш багатая частка сялян і мяшчан, з асяроддзя якіх выбіраліся старцы, імкнуліся эксплуатаваць астатняе насельніцтва, прысвойваючы сабе сабраныя з яго прадукты і грошы.

Валасныя прывілеі цікавыя яшчэ і тым, што ў іх змяшчаюцца шматлікія водгаласы яшчэ больш старажытных прававых звычаяў. У гэтай сувязі заслугоўваюць увагі ўпамінанні пра куніцу, палюддзе і іншыя даніны. Так, палюддзе спаганялася ў Свіслацкай воласці па паўтара гроша з дыма, у Чачэрскай — па аднаму, у Магілёўскай — палюддзе вызначалася агульнай сумай у 60 коп грошаў (г. зн. 3600 грошаў). Характэрна, што палюддзе ва ўсіх валасцях спаганялася ў грашовым выражэнні, а не натурай.

Кароткі агляд абласных і валасных грамат дазваляе зрабіць вывад аб тым, што асноўнай крыніцай права, выкладзенага ў гэтых граматах, было мясцовае звычаёвае права.

Гісторыя гарадоў Беларусі і Літвы датычыцца адной з найважнейшых праблем гісторыі беларускага і літоўскага народаў. Само існаванне гарадоў сведчыць ужо аб наяўнасці падзелу працы ў грамадстве, аб яго класавай дыферэнцыяцыі. К. Маркс і Ф. Энгельс указвалі, што «процілегласць паміж горадам і вёскай пачынаецца разам з пераходам ад варварства да цывілізацыі, ад племяннога ладу да дзяржавы, ад мясцовай абмежаванасці да нацыі... Разам з горадам з'яўляецца і неабходнасць адміністрацыі, паліцыі, падаткаў і г. д.— адным словам, абшчыннага палітычнага ладу» [29].

Час узнікнення гарадоў на тэрыторыі Беларусі пакуль дакладна не ўстаноўлены. Паводле звестак географа Баварскага, які пісаў у сярэдзіне IX стагоддзя, бужане мелі да таго часу 231 горад, свіране — 325, турычане — 104, пружане — 70, нараўляне — 78 гарадоў. Пра лукамлянаў гавэрыцца, што яны маюць гарады, але колькасць іх не ўказана [30].

Факт наяўнасці гарадоў на тэрыторыі Беларусі да IX стагоддзя пацвярджаецца і археалагічнымі раскопкамі. Так, на думку Г. Штыхава, які праводзіў археалагічныя пошукі ў Лукомлі, горад узнік у V стагоддзі.

На ранняй стадыі развіцця гарады ўяўлялі сабой невялікія ўмацаваныя паселішчы, якія служылі і адміністрацыйнымі цэнтрамі для дадзенай мясцовасці. У перыяд развіцця феадальных адно-

сін адбываецца працэс іх узбуйнення, рост падзелу працы як унутры, так і паміж горадам і вёскай, аддзяленне яго ад вёскі, выдзяленне ў самастойныя адміністрацыйна-гаспадарчыя аб'яднанні з адасобленымі органамі кіравання і суда, са сваімі асаблівымі прававымі актамі.

Працэс росту процілегласцей паміж горадам і вёскай быў вызначальным для эканамічнай гісторыі ўсяго феадальнага грамадства. Вывучэнне прававых актаў, якія юрыдычна аформілі іх раздзяленне і замацавалі саслоўныя процілегласці паміж насельніцтвам, неабходна для ўсебаковага аналізу грамадскіх адносін у феадальным грамадстве.

У буржуазнай гісторыка-прававой літаратуры пануючай была думка, што аддзяленне горада ад вёскі і ўзнікненне паміж імі процілегласцей было выклікана выпадковай з'явай, увядзеннем магдэбургскага права. М. Ф. Уладзімірскі-Буданаў пісаў: «Князі, каралі і паны ўводзяць у сваіх уладаннях усе парадкі нямецкага права», якое, на яго думку, «аслабіла княскую ўладу... рашуча змяніла быт сельскіх жыхароў... стварыла новае паняцце аб горадзе і гарадскім саслоўі» [31]. Тым самым ён лічыў, што права выклікала значныя змяненні ў сацыяльна-эканамічным ладзе, г. зн. змешваў прычыны са следствам. На самай справе развіццё феадальных адносін і змяненні ў сацыяльна-эканамічнай структуры грамадства паслужылі прычынай з'яўлення юрыдычных актаў, якія аформілі і замацавалі гэтыя адносіны. Хоць феадальнае права ў асноўным толькі замацавала іх, аднак і аказвала значны ўплыў на ўвесь лад жыцця грамадства.

В. Б. Антановіч у сваім даследаванні па гісторыі гарадоў паўднёва-заходняй Расіі лічыў, што магдэбургскае права служыла перашкодаю для развіцця гарадоў Вялікага княства Літоўскага, паколькі мяшчане не маглі «засвоіць сабе юрыдычныя паняцці і прыёмы, выпрацаваныя магдэбургскім правам». Тым самым ён перабольшваў ролю магдэбургскага права ў гарадах, хоць у другім месцы правільна заўважаў, што «народанасельніцтва гарадоў, утрымліваючы магдэбургскае права, глядзіць на апошняе не як на звод абавяз-

ковых для сябе законаў, а толькі як на хартыю, якая гарантуе яму тую долю самастойнасці, пры якой магчыма было да вядомай ступені прымяненне ўласных юрыдычных поглядаў» [32].

У савецкай гісторыка-прававой літаратуры вельмі мала работ, у якіх даследаваўся б змест гарадскіх грамат, і то толькі часткова, у сувязі з іншымі праблемамі. Таму заслугоўвае ўвагі артыкул З. Ю Капыскага «Магдэбургскае права ў гарадах Беларусі», у якім даследуюцца граматы многіх гарадоў, падвяргаюцца крытыцы памылковыя погляды гісторыкаў і даецца аналіз адкрытага ім Судзебніка жыхароў горада Оршы 1621 года.

Аналіз актаў, якія афармілі аддзяленне горада ад вёскі, дае магчымасць класіфікаваць іх на граматы: а) устанавіўшыя магдэбургскае права і б) ільготныя і судныя. Акрамя таго, значная кольkасць прававых нормаў, што рэгулявалі прававыя адносіны гараджан, змяшчалася ў іншых актах (статутах, уставах, сеймавых ухвалах, цэхавых актах, абласных і валасных граматах і інш.). Найбольш старажытныя нормы, якія датычаць правоў гарадскіх жыхароў (гараджан, месцічаў, мяшчан), захаваліся ў абласных прывілеях і гандлёвых дагаворах Полацка з Рыгай. Характэрна, што ў першыя часы ў шэрагу нормаў мяшчане карысталіся аднолькавымі правамі з баярамі.

Так, у Полацкім прывілеі гаворыцца: «А в заставу нам бояр и мещан Полоцких... не посылати». Падобная роўнасць правоў прадугледжана па атрыманню ў спадчыну, па праву выезду з Полацка і інш. Выдзяленне гараджан у асаблівае саслоўе атрымала адлюстраванне і ў замацаванні тэрміна «мяшчане». Гэты тэрмін атрымлівае ўстойлівае распаўсюджванне ў другой палове XV стагоддзя. У дагаворах Полацка з Рыгай запісана: «Мы гараджане» (1330 год), «Мы мужи полочане» (1407 год), у рашэнні 1486 года ўжо некалькі разоў называюцца мяшчане. Тэрмін «мяшчане» запісан і ў грамаце полацкіх мяшчан 1465 года. Усё гэта дазваляе зрабіць вывад аб тым, што ў сярэдзіне XV стагоддзя склалася саслоўе мяшчан і ішоў хуткі працэс яго прававога афармлення.

Першымі актамі, спецыяльна выдадзенымі

толькі для гараджан, былі граматы (прывілеі) жыхарам гарадоў Вільні (1387 г.) і Бераста (1390 г.). У іх гаварылася, што гараджанам дазваляецца судзіцца і вырашаць свае гарадскія справы па тэўтонскаму і майдэборскаму праву, і прадастаўляліся некаторыя льготы.

На працягу XV і XVI стагоддзяў граматы на магдэбургскае права былі выдадзены ўсім буйнейшым гарадам Беларусі. Мяшчане вызваляліся ад шэрага феадальных павіннасцей, якія яны раней неслі сумесна з сялянамі дадзенай зямлі, воласці. Калі раней павіннасці вызначаліся нормамі звычаёвага права, то пасля аддзялення горада ад воласці пачалі рэгламентавацца ў прававых актах. А паколькі жыхары кожнага з іх неслі розныя павіннасці, то і граматы насілі індывідуальны характар.

Як вядома, у граматах змяшчаліся агульныя, характэрныя для многіх гарадоў прававыя нормы. Асабліва гэта датычыцца грамат, выдадзеных мяшчанам найбольш буйных гарадоў: Вільні, Полацка, Мінска, Бераста, Наваградка, Магілёва, Пінска, Віцебска. У іх указвалася, што выдаюцца яны для захавання ў памяці людской правоў і льгот, якія накіраваны на паляпшэнне становішча гараджан і стварэнне ўмоў для працвітання горада, а таксама для павелічэння даходаў дзяржаўнай казны.

Гэтая думка найбольш дакладна была запісана ў Пінскай грамаце ад 12 студзеня 1581 года. «Мы господарь хотечи к лепшому пожитку и порядку подданных наших мещан и обывателей места нашога Пинского привести, ижбы теж в таковом порядку пожитки и доходы скарбу нашого размножены были, тым подданым места нашого Пинского право Немецкое, которое майдеборским названо есть, даем и сим листом нашим позволяем, вечные часы... Вызволяем теж тых подданых наших преречоного места Пинского от прав земских Великого княжества Литовского и от звычаев посполитых, которые право майдеборское звыкли затрудниватu» [33]. Клапоцячыся аб даходах дзяржаўнай казны, урад імкнуўся да таго, каб атрыманыя з насельніцтва розныя зборы не асядалі ў руках мясцовых службовых асоб (ваявод, стараст, намес-

нікаў, дзяржаўцаў), а таму спрабаваў абмежаваць уладу гэтых асоб у адносінах да жыхароў горада.

У грамаце на майдэборскае права, выдадзенай жыхарам Віцебска ў 1597 годзе, указвалася, што яна выдаецца з такім разлікам, каб жыхары маглі лепш клапаціцца аб умацаванні горада. Такія асноўныя мэты выдачы гэтых грамат. Магчыма таксама, што скрытай мэтаю іх выдачы было распаўсюджванне каталіцызму і апалячванне насельніцтва. На гэтую мэту ўказвалі буржуазныя даследчыкі магдэбургскага права ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім Ф. В. Тараноўскі і Ф. Пекасінскі. Такая думка знаходзіць пацвярджэнне ў тым факце, што ва ўсіх граматах, у якіх гаварылася аб камплектаванні органаў гарадскога кіраўніцтва, палавіна месц павінна была прадастаўляцца католікам, нават у тых гарадах, дзе католікі ў XVI стагоддзі складалі яшчэ нязначную частку насельніцтва.

Ва ўсіх граматах змяшчаліся ўказанні на вызваленне гараджан ад улады і суда ваявод, стараст і іншых службовых асоб агульнага кіравання і аб перадачы ўладных паўнамоцтваў у рукі гарадскога войта, лент-войта, бурмістраў, радцаў (саветнікаў) і лаўнікаў (засядацеляў). «Тых мещан и все поспольство, вжо от тых часов, выймуем от права замку нашого Новгородского и от всих судов и моцы воевод, старост, наместников, судей, такжо князей и бояр и всех врадников наших Великого князьства Литовского... але естли з них хто кому будеть чим виноват маеть им справедливость статися перед воитом их и бурмистры и радцами» [34].

Паўнамоцтвы войтаў і бурмістраў у розных гарадах не былі аднолькавымі. Так, у спецыяльна выдадзенай грамаце палачанам у 1499 годзе ўказвалася, што войт можа судзіць усе справы, акрамя зямельных спрэчак, якія павінен разглядаць намеснік «с старшими бояры Полоцкими, водлуг давнего обычая». Скаргі паслоў з Ноўгарада, Пскова, Лук або ад немцаў на палачан павінен быў разглядать таксама намеснік з «старшими бояры Полоцкими, призвавши к собе войта и старших мещан» [35].

Судом другой інстанцыі ў адносінах да войтаўскага ў некаторых гарадах аб'яўляўся суд вяліка-

га князя і рады, а ў іншых замкавыя суды стараст і намеснікаў. Напрыклад, у Магілёўскай грамаце запісана, што на рашэнне войта можна падаць апеляцыйную скаргу вялікаму князю, а па Пінскай грамаце скаргу на рашэнне войта трэба было падаваць пінскаму старасце, і толькі па яго рашэнню можна было апеляваць да вялікага князя.

У граматах прадугледжваліся пэўныя гандлёвыя льготы для жыхароў дадзенага горада і абмежаванні для пабочных. З гэтай мэтай у пэўныя дні ўстанаўліваліся кірмашы (да 4 у год), якія маглі працягвацца па два тыдні, а таксама вызначаліся гандлёвыя дні кожнага тыдня: Мяшчане Вільні, Полацка і Трок вызваляліся ад уплаты мыта на тэрыторыі ўсяго Вялікага княства Літоўскага.

Гараджанам дазвалялася будаваць і атрымліваць даходы з гасціных дамоў, крамніц, важніц, ятак, васкабойні, грамадскай лазні і іншых неабходных пабудоў, для чаго яны маглі браць бясплатна будаўнічыя матэрыялы ў дзяржаўных лясах і пушчах. Устанаўлівалася, што ўсе купцы, акрамя віленскіх, у чужых гарадах маглі весці ў звычайны час (акрамя кірмашоў) толькі аптовы гандаль. Вызначалася таксама мінімальная колькасць тавараў, што падлягала продажу чужым купцом. Так, у Мінскай грамаце было запісана: «Теж, окром Вилневцов, ни один купец иного места не будет моцы мети инако куповати и продавати, только под тою мерою, в том месте на долу выписаною: наипервей воски штукою, або по полуберковеску; соболи, куницы и тхоры по сороку...» [36] і г. д.

Значнае месца ў граматах займалі розныя льготы ў адбыванні феадальных павіннасцей, такіх, як падводная, вартаўнічая, адпрацовак і інш. Напрыклад, у Наваградскай грамаце гаварылася, што мяшчане абавязаны даваць падводы толькі вялікакняжацкім ганцам, уносіць у казну па пяцьдзесят залатых, плаціць сярэбшчыну, ардыншчыну і іншыя грашовыя ўзносы, але няма абавязку адбываць работы. У Пінскай грамаце ўказвалася, што мяшчане вызваляюцца ад абавязковых адпрацовак (талок і гвалтаў), акрамя неабходных работ у Пінскім замку. Разам з тым былі граматы, у якіх прадугледжваліся адработачныя павіннасці гара-

джан і дастаўкі прадуктаў. Так, у грамаце жыхарам Ваўкавыска 1507 года гаварылася: «Они мають с того места прореченого давати на наш приезд с каждого двора по бочце овса, а будет мало, ино по две, а сена за каждою бочкою по возу. А пашню нашу толокою два дни мають орати и два дни жати. А к Берестью, и заставу, мають ходити водле давного обычаю... А под послы и гонцы наши мають на своей недели подводы давати... на службу свою, на войну, ходити, водле уставы, как и з иных мест» [37].

У граматах прама або ўскосна прызнавалася права мяшчан валодаць і распараджацца землямі, якія належаць ім. Напрыклад, у Пінскай грамаце было запісана: «Которому преречоному месту Пинскому и обывателем его всим кгрунты местские, то есть у волоках... сеножатех, лесех и иншие которые-кольвек посполитые... нынешним привильем нашим потвержаем, приписуем и привлащаем им самим и потомкам их на вси потомные часы, обычаем иных мест наших упривильеваных держати» [38]. Тым самым мяшчане-землеўладальнікі атрымлівалі такое ж права валодаць зямлёю, як баяры-шляхта, што яшчэ больш супрацьпастаўляла іх простым сялянам.

Першаступеннае значэнне ў граматах надавалася нормам, што ўстанаўлівалі парадак утварэння і кампетэнцыю гарадскіх органаў кіравання. У літаратуры часта гэтыя органы называюцца мясцовым самакіраваннем. Трэба адзначыць, што такая назва носіць умоўны характар і не адпавядае зместу гэтага паняцця. Пад самакіраваннем мы разумеем такі парадак, пры якім мясцовае кіраўніцтва ажыццяўляецца органамі, выбіраемымі самім насельніцтвам і залежнымі ад яго. У вывучаемы перыяд пераважная большасць насельніцтва гарадоў Беларусі не прымала ўдзелу ў стварэнні органаў кіравання ў гарадах і не аказвала прамога ўздзеяння на іх дзейнасць.

Устанаўленне войтаўска-бурмістарскай улады ў горадзе не вяло да сапраўднага самакіравання, а толькі змяняла яго форму. Замест улады і суда старасты або намесніка ўлада пераходзіла ў рукі войта, бурмістраў і радцаў. Прычым перастаюць склікацца ранейшыя агульныя сходы жыхароў

горада (веча, соймы и копы), дзе раней вырашаліся ўсе найбольш важныя справы. Таму няма падстаў судовую і адміністрацыйную ўладу войта і бурмістраў называць самакіраваннем. Аб тым, што іх ўлада не насіла характару самакіравання, сведчаць і гарадскія граматы, у якіх быў указаны парадак утварэння органаў.

У граматах указвалася, што войт прызначаўся пажыццёва і яго ўлада ў горадзе не залежала ад насельніцтва і не абмяжоўвалася. Парадак прызначэння або выбрання бурмістраў у розных гарадах вырашаўся па-рознаму. Так, у Полацкай грамаце 1498 года ўказвалася, што войт выбірае, г. зн. назначае дваццаць радцаў (саветнікаў) з ліку гараджан, якія затым сумесна з ім «маюць обрати, промежду себе, на каждый год, два бурмистры» [39]. З гэтага запісу добра відаць, што хоць гаворыцца аб выбары радцаў і бурмістраў, але на самай справе размова ідзе аб іх прызначэнні войтам. Падобны парадак замацаваны і ў Магілёўскай грамаце 1577 года, дзе запісана: «На рок кождый бурмистры, райцы, альбо лавники и иншие особы урядовые, з обиранья местского порядком и звычаем права Майдеборского, також водлуг потребы того места... через войта нашого мають быти постановлены» [40]. Па Пінскай грамаце бурмістр прызначаўся старастай з чатырох кандыдатаў, якіх прадстаўлялі мяшчане. У Наваградку войт разам з радцамі з шасці саміх радцаў выбіраў двух бурмістраў. Прыведзеныя прыклады наглядна сведчаць аб адсутнасці якой-небудзь залежнасці ўлады войта і бурмістраў ад асноўнай масы гарадскога насельніцтва, а таму няма дастатковых падстаў называць іх органамі гарадскога самакіравання.

Правы гараджан, структура і кампетэнцыя органаў кіравання з цягам часу мяняліся, выдаваліся новыя граматы, устанаўліваліся новыя парадкі. У шэрагу гарадоў мяшчане выкуплялі пасады войтаў і гэтая пасада станавілася выбарнай, у іншых па-ранейшаму назначаемай. Адзінага закона аб органах кіравання і суда ў гарадах Вялікага княства Літоўскага працяглы час не было. Толькі законам ад 18 красавіка 1791 года была зроблена спроба ўвесці аднастайныя правы для ўсіх мяшчан і ўпарадкаваць суд. Гэты закон прызнаваў за ўсі-

мі мяшчанамі права ўласнасці на землі і пабудовы. Устанаўлівалася адзіная падсуднасць спраў, якія мог разглядаць гарадскі магістрат. Меркавалася стварыць спецыяльныя апеляцыйныя суды, якія пераглядалі рашэнні магістратаў і па першай інстанцыі вырашалі б найбольш буйныя справы.

Пры вывучэнні грамат, выдадзеных гарадам на магдэбургскае права, звяртае на сябе ўвагу той факт, што ўсе яны гавораць аб увядзенні нямецкага права, але не змяшчаюць ніводнай яго нормы, не ўказваюць, якімі нямецкімі кодэксамі або зборнікамі трэба карыстацца. Няма ў граматах нормаў крымінальнай, грамадзянскай, сямейнай, зямельнай і іншых найбольш важных галін права, на аснове якіх складваліся праваадносіны і кіраваліся ў сваёй дзейнасці гарадскія органы.

Азнаямленне з актамі гарадскіх магістратаў дазваляе зрабіць вывад, што сапраўднае нямецкае права ў гарадах Вялікага княства Літоўскага насельніцтву было не вядома і за рэдкімі выключэннямі не прымянялася. У гэтай частцы можна з невялікай агаворкай згадзіцца з В. Б. Антановічам, які лічыў, што «Магдэбургскае права — у значэнні Кодэкса законапалажэнняў застаецца ў гарадах мёртваю літараю... Сам звод як Саксонскіх законаў наогул... так і гарадскога ўлажэння ў прыватнасці... гараджанам station не былі вядомы» [41]. Сапраўды, у гарадах Беларусі і Літвы не карысталіся ні «Саксонскім зерцалам», ні «Саксонскім вейхбільдам», хоць гэтыя зборнікі нямецкага права складалі аснову магдэбургскага права, і ў гэтай частцы В. Б. Антановіч поўнасцю мае рацыю. Але трэба мець на ўвазе, што, пачынаючы з другой паловы XVI стагоддзя, у гарадскіх магістратах Беларусі і Літвы пачалі карыстацца творамі Барталамея Гроіцкага, выдадзенымі ў Кракаве ў 1558—1567 гадах, і Паўла Шчэрбіча, выдадзенымі ў Львове ў 1581 годзе, у якіх выкладалася практыка прымянення нямецкіх норм у магістратах гарадоў Польскага Каралеўства, а таксама пераказваліся нормы нямецкага права на польскай мове, з улікам польскага гарадскога звычаёвага і пісанага права.

У сувязі з тым што ў актах гарадскіх магістратаў беларускіх гарадоў сустракаюцца спасылкі на

кнігі Б. Гроіцкага і П. Шчэрбіча, як на крыніцы права, Ф. В. Тараноўскі зрабіў памылковы вывад аб рэцэпцыі і распаўсюджванні нямецкага права ў Беларусі і Літве і нават у Расіі. Ён пісаў: «Рэцэпцыя Магдэбургскага права не абмяжоўвалася па саслоўях аднымі гарадамі і па прасторы адной Заходняю Руссю. Магдэбургскае права было адной з крыніц Літоўскага Статута, значыць,— яно рэцэпіравана не адным мяшчанствам, але і шляхецкім станам... некаторыя палажэнні Магдэбургскага права пранiклі ва Усходнюю Русь і нават ва Улажэнне» [42]. Гэта сцвярджэнне грунтуецца на памылковых пасылках, што творы Б. Гроіцкага і П. Шчэрбіча — акты нямецкага права; што гэтыя кнігі былі асноўнымі і шырока выкарыстоўваліся ў праваадносінах гараджан Вялікага княства Літоўскага; што нормы магдэбургскага права былі выкарыстаны ў якасці крыніцы пры складанні Статута.

Памылковасць першай пасылкі становіцца відавочнай пасля азнаямлення са зместам кніг Б. Гроіцкага і П. Шчэрбіча. Гэтыя кнігі былі прызначаны служыць практычным дапаможнікам пры вырашэнні спраў у магістратах гарадоў Польшчы (Кароны), у сувязі з чым у іх выкладаліся нормы права і прававыя звычаі, якія дзейнічалі ў Кракаве і Львове. Сярод гэтых нормаў змяшчаліся і нормы, запазычаныя з нямецкага права, але прыстасаваныя да мясцовых звычаяў і мясцовага права. У іх змяшчаліся таксама каментарыі і навуковыя меркаванні аўтараў па прававых пытаннях, а таксама некаторыя звесткі аб нямецкім праве, у якасці даведачнага матэрыялу для цікаўных.

Многія з гэтых звестак расказваліся аўтарамі як аб нейкім дзіве, якія ніколі не прымяняліся ў славянскіх народаў, аб герадзе (асаблівай форме наследавання жанчын). Таму калі і разглядаць творы Б. Гроіцкага і П. Шчэрбіча як крыніцу права, то можна гаварыць толькі аб польскім, а не нямецкім гарадскім праве. Аб гэтым пісаў і сам Б. Гроіцкі. «У сувязі з тым, што ўсе мяшчане і многія сельскія жыхары Польскага каралеўства ва ўсіх праваадносінах карыстаюцца правам, якое напісана для дасягнення справядлівасці ў Польшчы і на польскай мове, і таму, што апеляцыі ■

Польшчы ў Германію не адсылаюцца, і палякі не пытаюцца ў немцаў парады па прававых пытаннях, таму гэта права трэба называць не нямецкім, а польскім гарадскім правам»[43].

Памылковасць другой пасылкі вынікае з таго, што кнігі, напісаныя ў якасці дапаможнага матэрыялу, а не асноўнага заканадаўчага акта для польскіх гарадоў, не сталі і не маглі стаць асновай правасвядомасці і праваадносін насельніцтва беларускіх гарадоў, бо тут было добра вядомае насельніцтву сваё права, выкладзенае ў пісаных актах і мясцовых прававых звычаях. Хоць гэта і не выключала прымянення ў асобных выпадках гэтых кніг у якасці дапаможнай крыніцы дзеючага права, але толькі тады, калі іх палажэнні не супярэчылі нормам мясцовага права і правасвядомасці мясцовых службовых асоб — войта, бурмістраў, радцаў, лаўнікаў.

Памылковасць трэцяй пасылкі даказваецца тым, што хоць і не выключана магчымасць ускоснага пранікнення асобных палажэнняў нямецкага права ў заканадаўчыя акты Вялікага княства Літоўскага, і асабліва ў прававыя акты гарадоў, аднак няма ніводнага прававога акта, выдадзенага ў Вялікім княстве Літоўскім, у якім адкрыта б рабіліся спасылкі на канкрэтныя крыніцы нямецкага права. Раннія крыніцы гэтага права, такія, як Саксонскае зерцала і Вейхбільд, ні разу не выдаваліся ні на беларускай, ні на літоўскай мовах, выдадзеныя ж у Польшчы ў 1535 годзе Н. Яскерам на лацінскай мове не маглі атрымаць распаўсюджання ў Вялікім княстве Літоўскім і, вядома, не трапілі ў Статут 1529 года; не маглі трапіць у гэты Статут і нормы «Караліны», уведзеныя ў дзеянне ў 1532 годзе, і, вядома, не маглі быць выкарыстаны ў гэтым Статуце творы Б. Гроіцкага і П. Шчэрбіча, якія выйшлі ў другой палове XVI стагоддзя.

Усё гэта не выключае магчымасці выкарыстання ў праве Вялікага княства Літоўскага навуковых дасягненняў і тэарэтычных абагульненняў, якія мелі месца ў праве замежных дзяржаў, асабліва ў сувязі з тым, што многія ўраджэнцы Беларусі і Літвы атрымлівалі ў той час адукацыю ў замежных універсітэтах. Аднак тэарэтычны ўзровень

статутаў Вялікага княства Літоўскага, асабліва 1588 года, значна перавышаў узровень помнікаў права іншых еўрапейскіх дзяржаў таго часу, таму больш заканамерным было б гаварыць аб магчымасці рэцэпцыі права Вялікага княства Літоўскага іншымі еўрапейскімі дзяржавамі, а не наадварот.

Падводзячы вынік разгляду гарадскіх грамат на так званае майдэборскае права, можна з поўнай падставай сказаць, што ў іх змяшчаліся нормы мясцовага звычаёвага права (асабліва ў частцы льгот і павіннасцей гараджан) і новыя нормы, выпрацаваныя ў працэсе выдзялення гараджан у адасобленае саслоўе феадальнага грамадства — мяшчан. Усё гэта дае падставу называць права не нямецкім, а гарадскім (мяшчанскім) правам Беларусі і Літвы. Такі вывад становіцца яшчэ больш відавочным, калі ўлічваць прававыя нормы, што змяшчаліся і ў іншых граматах, якія атрымлівала насельніцтва гарадоў, абласцей і валасцей.

На аснове мясцовага права будаваліся і ўсе гаспадарча-эканамічныя і маёмасныя адносіны, якія рэгуляваліся нормамі мясцовага пісанага і звычаёвага грамадзянскага, шлюбна-сямейнага і спадчыннага права. У гэтай сувязі яшчэ раз трэба адзначыць памылковасць поглядаў М. Ф. Уладамірскага-Буданава і Ф. І. Тараноўскага, якія, зыходзячы з ідэалістычных канцэпцый, лічылі, што змяненне прававых нормаў выклікала перабудову эканамічных адносін і сацыяльнага быту. На самой жа справе развіццё эканамічных адносін выклікала неабходнасць у змяненні некаторых прававых нормаў. А паколькі ў XVI—XVII стагоддзях у гарадах Беларусі і Літвы не адбылося карэнных змяненняў у гэтых адносінах, то і права ў сваёй аснове заставалася ранейшым — феадальна-саслоўным. Запазычанні з нямецкага (майдэборскага) права датычыліся ў асноўным адміністрацыйных адносін і часткова крымінальна-працэсуальных нормаў, якія былі прыстасаваны да мясцовых умоў і правасвядомасці гараджан.

Сярод крыніц феадальнага права Беларусі асобае месца займаюць граматы, выдадзеныя яўрэям і татарам. Яны пасяліліся на тэрыторыі Беларусі з даўнейшых часоў. Асноўная маса яўрэяў пражывала ў гарадах і мястэчках, займаліся яны

гандлем, ліхвярствам і рамяством. Татары неслі вайсковую службу, абраблялі зямлю, асабліва агароды, а таксама займаліся гандлем. Можна меркаваць, што некаторая частка татар-магаметан перасялілася на Беларусь з Хазарскага каганата, асабліва татары-агароднікі. Вядома, што ў IX—X стагоддзях жыхары Беларусі мелі ўстойлівыя гандлёвыя зносіны з Волжскай Балгарыяй і Хазарыяй, аб чым сведчаць шматлікія клады манет арабскіх дзяржаў, знойдзеныя на Беларусі. Хаця большая частка беларускіх татар — гэта перасяленцы з Залатой Арды.

Першая вядомая грамата для яўрэяў была выдадзена князем Вітаўтам у 1388 годзе. Яна рэгулявала парадак разгляду судовых спраў паміж хрысціянамі і яўрэямі, а таксама паміж яўрэямі. Справы апошніх разглядаліся ў спецыяльных яўрэйскіх судах, па яўрэйскаму праву. Яўрэі надзяляліся некаторымі льготамі: так, хрысціянін за крымінальныя злачынствы супраць яўрэя караўся як за злачынства супраць шляхціца.

Беларускія татары карысталіся правамі вольных людзей, а іх князі, уланы, маршалкі, харужыя і ўласнікі зямлі — правамі шляхты. У Статут 1566 года былі ўнесены артыкулы, якія некалькі абмяжоўвалі правы татар, але ўжо ў 1568 годзе была выдадзена грамата, якой гэтыя артыкулы адмяняліся і ўсе правы і льготы татар аднаўляліся ў поўнай меры.

Асобнымі прававымі актамі карысталася праваслаўнае і каталіцкае духавенства, якое мела свае духоўныя суды і свае крыніцы права. У праваслаўных гэта быў Номаканон або Кормчыя кнігі, у католікаў — корпус юрыс каноніцы. Апрача таго, як для каталіцкага, так і для праваслаўнага духавенства былі выдадзены ў розныя часы многія граматы.

«А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем» *(Леў Сапега).*



**«Напрод мы, господар, обецуем и шлюбуем... иж всих княжат, панов рад, духовных и свецких, панов хоруговных, шляхту, места и всих подданых наших... почонши от вышшого стану аж до нижшого, тыми одными правы и артыкулы, в том же статуте нижей писаными и от нас данными, судити и справовати маем»** *(Статут 1588 г., р. I, а. I).*


СТАТУТ ВЕЛИКОГО КН

ѠНАЯСНѢЙШЕГО ГДРА КОРОЛЯ Е

ЖИКГИМОНТА ТРЕТЕГ НА

ВЪКРАКОВЕ ВЫДАНЫ

# Судзебнік і Статуты

**Першыя кадыфікацыі права. Судзебнік 1468 года — першы кодэкс крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага права. Новыя прававыя ідэі ў Статуце 1529 года. Ідэі гуманізму ў статутах. Замацаванне дзяржаўнай самастойнасці Вялікага княства Літоўскага ў Статуце 1588 года.**

● У XV стагоддзі судовыя справы разглядаліся не на падставе законаў, «але юстыцыя кіравалася выключна звычаем і разважаннямі кожнай паасобку галавы і сумленнем, як здавалася кожнаму суддзі больш справядліва, і вельмі нястала» [1] — так адзначаў стан судаводства вялікі князь літоўскі Сігізмунд I у грамаце 1522 года. Хоць і да гэтага часу выдаваліся розныя граматы, якія павінны былі забяспечыць абарону правоў класа феадалаў і іншых груп насельніцтва, а таксама забяспечыць адзінства права для ўсёй дзяржавы.

Першая спроба ўсталяваць адзінства прававых нормаў на ўсёй тэрыторыі, абмежаваць самавольства суддзяў, а таксама ўзмацніць прававую ахову феадальнай маёмасці і ўвесці жорсткія меры пакарання злачынцаў была зроблена ў Судзебніку 1468 года. У гісторыка-прававой літаратуры выказваліся розныя думкі аб яго назве. У самім тэксце гэтага закона ён называецца «Ліст», што ў тыя часы мела такое ж значэнне, як і «Грамата». Пры першай публікацыі ў 1826 годзе I. Даніловіч назваў яго «Статут Казіміра», але гэтая назва ў рускай гістарычнай літаратуры не атрымала падтрымкі, і ў сучаснай літаратуры гэты «Ліст» называюць Судзебнікам Казіміра.

Рукапісны тэкст Судзебніка не быў падзелены на артыкулы. Пры публікацыі I. Даніловіч падзяліў яго на 28 і дадаў яшчэ 6 артыкулаў закону аб «пасошчыне» (падатак з сахі) і бабровых гонах. М. Ф. Уладамірскі-Буданаў падзяліў яго на 25 артыкулаў. Такое дзяленне Судзебніка прынята ў сучаснай гістарычнай літаратуры.

Зацверджаны Судзебнік быў вялікім князем на агульнадзяржаўным сейме 29 лютага 1468 года пасля абмеркавання з князямі, панамі раднымі і «с всим поспольством». Ён, як і большасць заканадаўчых актаў Вялікага княства Літоўскага таго часу, быў напісаны на беларускай мове. У аснову яго было пакладзена мясцовае беларускае звычаёвае права ў спалучэнні з новымі прававымі нормамі, выпрацаванымі судовай і адміністрацыйнай практыкай, у адпаведнасці з новымі сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі.

У артыкуле 1 звяртае на сябе ўвагу ўпершыню ўстаноўленая ў нашым заканадаўстве норма, якая забараняла перадаваць пацярпеўшаму дзяцей ва ўзросце да сямі гадоў бацькоў, якія былі вінаватыя ў крадзяжы і не мелі чым плаціць за шкоду. Артыкулы 5 і 6 абмяжоўвалі адказнасць жонкі і дарослых дзяцей злодзея, калі яны не ведалі аб злачынстве і не карысталіся крадзеным, бо па старажытнаму звычаёваму праву разам са злодзеем адказнасць несла ўся яго сям'я. Тым самым у Судзебніку атрымала замацаванне ідэя індывідуалізацыі пакарання.

Новым было ў законе вызначэнне злачынства як супрацьпраўнага дзеяння. Паводле старажытнага звычаёвага права, калі быў злоўлены злодзей з крадзенымі рэчамі (палічнае, ліцо), то такія рэчы ішлі ў даход суддзі (забіраліся ў двор), а пацярпеўшаму належала выплаціць у двайным памеры вартасць гэтых рэчаў з маёмасці злодзея і яго сям'і. У Судзебніку гэта правіла падвяргялася абмежаванню. Калі злачынец не меў чым плаціць, то суд павінен быў вярнуць палічнае пацярпеўшаму.

Узмацненне феадальнага прыгнёту і пазбаўленне залежных сялян (граматай 1447 года) права вольнага адыходу ад феадала было замацавана ў артыкуле 24, якім прадугледжвалася пакаранне смерцю таго, хто дапамагаў сялянам або чэлядзі ўцякаць ад сваіх паноў. У гэтым артыкуле гаварылася: «А который будеть люди выводите, а любо челядь невольную, а ухватять с лицом — того на шыбеніцу» [2].

У Судзебніку ўпершыню атрымала заканадаўчае замацаванне запалохванне, як адна з асноў-

ных мэт пакарання ў феадальным праве. Паводле звычаёвага права злачынца, асуджаны да смяротнай кары, мог ад яе адкупіцца або быць перададзеным у няволю таму, хто пацярпеў, альбо яго блізкім. Судзебнік забараняў вызваляць злачынцу ад пакарання. «А над злодеем милости не надобе»,— сведчыў артыкул 12. Заканчваўся Судзебнік прадпісаннем, якое абавязвала ўсіх жыхароў утрымліваць у належным парадку дарогі і масты. За парушэнне гэтай павіннасці накладалася кара ў 10 рублёў (1000 грошаў).

Выданнем Судзебніка быў пакладзены пачатак новаму этапу ў развіцці прававой тэорыі, практыцы заканадаўчай дзейнасці дзяржаўных органаў, новых прынцыпаў сістэматызацыі і кадыфікацыі феадальнага права, якое завяршылася выданнем статутаў Вялікага княства Літоўскага.

Працы па падрыхтоўцы першага Статута Вялікага княства Літоўскага вяліся на працягу некалькіх гадоў у першай чвэрці XVI стагоддзя. Да 1522 года быў падрыхтаваны праект Статута, але ён не быў зацверджаны і праца па яго складанню працягвалася. Толькі 29 верасня 1529 года ён быў уведзены ў дзеянне.

Хто ўдзельнічаў у падрыхтоўцы першага Статута, цяпер устанавіць немагчыма. З вядомых вучоных-юрыстаў, што жылі ў той час у Вільні, дзе вялася асноўная работа па падрыхтоўцы яго, можна назваць толькі аднаго — гэта славуты вучонын-гуманіст Францыск Скарына, які стварыў у той час першую ва Усходняй Еўропе друкарню і пачаў выдаваць кнігі на беларускай мове.

Францыск Скарына меў ступень доктара медыцыны і доктара свабодных навук, у тым ліку і доктара права, а значыць — меў самую высокую для таго часу юрыдычную адукацыю, і вельмі верагодна, што ён удзельнічаў у падрыхтоўцы праекта Статута. З работ, якія апублікаваў Скарына, відаць, што ён ведаў мясцовае звычаёвае беларускае права, гісторыю рымскага і права іншых дзяржаў. Супастаўляючы некаторыя нормы Статута з прававымі поглядамі Скарыны, можна сказаць, што шмат ідэй, выказаных ім, былі практычна скарыстаны ў Статуце. Гэтае меркаванне пацвя-

рджаецца яшчэ і тым, што ўрад меў намер выдаць Статут друкарскім спосабам.

Аналізуючы нормы Статута, можна зрабіць вывад, што за асноўную крыніцу яго было ўзята звычаёвае права беларускіх і літоўскіх зямель, якія складалі цэнтр Вялікага княства Літоўскага, а таксама нормы пісанага права, што былі ў раней выдадзеных прывілеях. У Статуце былі замацаваны асноўныя прававыя ідэі таго часу, адлюстравана праваўсведамленне насельніцтва і яскрава праявілася воля пануючага класа, накіраваная на ўстанаўленне і замацаванне парадкаў, выгадных і пажаданых феадалам.

Пры распрацоўцы Статута яго складальнікі ўпершыню вырашылі шэраг вельмі складаных тэарэтычных і практычных пытанняў, такіх, як пытанне аб размежаванні нормаў права па асобных галінах, размяшчэнні іх у пэўнай сістэме, увялі шэраг новых палажэнняў, раней невядомых праву Вялікага княства Літоўскага. Калі яшчэ ўлічыць, што падобных сістэматызаваных збораў мясцовых законаў у той час не было ні ў адной з еўрапейскіх дзяржаў, дык яшчэ больш зразумелыя будуць цяжкасці, якія ўзнікалі пры падрыхтоўцы Статута, і больш відавочныя заслугі яго складальнікаў.

Паводле свайго зместу Статут 1529 года не быў кодэксам (як яго памылкова называюць многія гісторыкі), бо кодэксам называецца заканадаўчы акт, у якім сістэматызавана выкладзены нормы права, што належаць да якой-небудзь адной яго галіны. У Статуце ж сабраны і размешчаны ў пэўным парадку нормы дзяржаўнага, зямельнага, адміністрацыйнага, грамадзянскага, сямейнага, крымінальнага, працэсуальнага і іншых галін права, а гэта ўласціва Збору законаў. Скласці ж яго нават у наш час куды цяжэй, чым асобны кодэкс па якой-небудзь адной галіне права.

Статут 1529 года складаўся з 13 раздзелаў, якія ў сваю чаргу падраздзяляліся на артыкулы. Першапачаткова ў Статуце было 244 або 245 артыкулаў, затым у 30-ых гадах XVI стагоддзя ён быў дапоўнены, у выніку чаго колькасць артыкулаў павялічылася да 283, а па Слуцкаму спісу — да 278. Розніца ў колькасці артыкулаў тлумачыц-

ца тым, што афіцыйны тэкст Статута не быў надрукаваны і не ва ўсе спісы яго былі своечасова ўнесены дапаўненні.

Пад уплывам ідэй гуманізму ў Статут 1529 года былі ўпершыню ўнесены нормы, якія некалькі абмяжоўвалі самавольства магнатаў, абвяшчалася правіла, адпаведна якому асобы, як убогія, так і багатыя, павінны былі судзіцца згодна з гэтым Статутам. Вялікі князь абавязваўся захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы, не дапускаць іншаземцаў на дзяржаўныя пасады, не даваць ім маёнткаў, зямель, чыноў, захоўваць існуючыя законы і выдаваць новыя толькі з панамі раднымі. Больш дакладным павінна было стаць судаводства, абмяжоўваліся судовыя пошліны, рэгламентаваўся ўдзел адвакатаў у працэсе.

Гаворачы пра станоўчае ў Статуце, трэба адзначыць, што з пункту гледжання юрыдычнай тэхнікі ў ім можна знайсці шэраг недахопаў (нормы крымінальнага права размешчаны ў некалькіх раздзелах, не вылучаны ў асобныя раздзелы нормы грамадзянскага права і г. д.). Але тут трэба мець на ўвазе, што ў пачатку XVI стагоддзя ні ў тэорыі, ні ў практыцы не было выразнага размежавання права на асобныя галіны і складальнікі не зрабілі ніякага парушэння, змясціўшы ў першыя радзелы Статута нормы, якія вызначалі характар зямельных праваадносін, правы і абавязкі класа феадалаў, некаторыя нормы крымінальнага і грамадзянскага права.

Статут 1529 года мае важнае значэнне і як помнік культуры і мовы беларускага народа. Напісаны на беларускай мове, ён дае магчымасць паўней вывучыць літаратурны стыль, лексіку і лад дзяржаўна-прававой тэрміналогіі і мовы таго часу. Выданне Статута 1529 года было велізарным якасным скачком у справе кадыфікацыі і сістэматызацыі заканадаўства. Разам з тым гэты Статут быў трывалай асновай для далейшага развіцця заканадаўства. Ён быў галоўнай крыніцай, асновай пры падрыхтоўцы Статута 1566 года.

Новыя сацыяльна-эканамічныя змены ў княстве ўжо ў сярэдзіне XVI стагоддзя патрабавалі і змен у заканадаўстве. Рост і ўмацаванне феадальнай уласнасці ўзмацнялі феадальны прыгнёт, абез-

зямельванне сялянства (ствараліся фальваркі, павялічваліся панскія ўгоддзі). У палітычным жыцці ў гэты час аслаблялася роля знатнай арыстакратыі і ўзмацнялася значэнне новых буйных феадалаў, такіх, як Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Кішкі, Пацы і іншыя.

У буржуазнай гістарычнай літаратуры працэс узмацнення ролі новых феадалаў, якія заўладалі велізарнымі зямельнымі масівамі, разглядаўся як працэс узмацнення ролі сярэдняй і дробнай шляхты, як працэс дэмакратызацыі дзяржавы. Вывучэнне ж прававых актаў і аналіз іншых гістарычных помнікаў дазваляюць катэгарычна сцвярджаць, што на працягу ўсёй гісторыі Вялікага княства Літоўскага дробная (убогая) шляхта ніколі самастойнага палітычнага значэння не мела, яна выконвала волю буйных феадалаў або каталіцкіх айцоў царквы.

Сцвярджэнні аб роўнасці палітычных правоў усіх шляхціцаў незалежна ад іх маёмаснага становішча, якія ёсць у прававых актах, проста дэмагогія і прапаганда. Гэтая прапаганда была асабліва ўзмоцнена ў 60-ыя гады XVI стагоддзя, калі ўрад і каталіцкае духавенства ўсімі сіламі імкнуліся злучыць Вялікае княства Літоўскае з Польшчай. Буржуазныя ж гісторыкі прапагандысцкія лозунгі XVI стагоддзя палічылі за сапраўднасць і пачалі сцвярджаць, што палітычны ўплыў перайходзіў да сярэдняй і дробнай шляхты, не хацелі і заўважаць, што вышэйшыя і мясцовыя органы дзяржаўнага кіравання былі ў руках буйных феадалаў, якія вызначалі і накіроўвалі дзейнасць усяго дзяржаўнага апарату. Усхваляючы ўяўную шляхецкую дэмакратыю XVI стагоддзя, буржуазныя гісторыкі хацелі супрацьпаставіць ёй палітычную інертнасць дваран і шляхты Расійскай імперыі ў пачатку XX стагоддзя.

Змены, якія адбываліся ў сацыяльна-палітычным жыцці ў 40—50-ых гадах XVI стагоддзя, патрабавалі ўдасканалення права.

Недахопы права адчуваў і сам урад, таму ён неаднойчы спрабаваў аднавіць заканадаўства. Найбольш істотныя меры па падрыхтоўцы праекта новага Статута былі ўжыты ў 1551 годзе, калі была створана адпаведная камісія.

Меркавалася, што камісія будзе складацца з дзесяці чалавек — пяці католікаў і пяці праваслаўных, але дакладна сказаць, які сапраўды быў яе склад, нельга. З тэксту Бельскага прывілею 1564 года бачна, што ў склад камісіі па падрыхтоўцы праекта ўваходзілі і другія асобы. Так, у прывілеі гаворыцца: «...обраны на то были через них же самых и с посродку тых же станов особы певные, рады наши, маршалкове, врядники земские, хоружие и иные особы ряду и народу шляхетского и доктори прав чужоземских» [3].

Адсюль можна зрабіць вывад, што ў склад камісіі ўваходзілі таксама маршалкі, харужыя, «иные особы народу шляхетского» і «доктори прав чужоземских». Адным з дактароў «прав чужоземских», відаць, быў доктар права іспанец Пётр Раізій, што прыехаў у Вільню ў 1563 годзе і арганізаваў там выкладанне юрыдычных навук. У складанні праекта Статута, вядома, удзельнічалі і іншыя асобы, якія афіцыйна не ўваходзілі ў склад камісіі. Значную работу правялі ўдзельнікі сеймаў і службовыя асобы органаў дзяржаўнага кіравання. Яны выканалі і ўсе арганізацыйныя справы.

Той факт, што праект Статута абмяркоўваўся на сеймах пачынаючы з 1561 года, сведчыць аб актыўным удзеле шляхты ў яго падрыхтоўцы. Канчаткова Статут быў ухвалены на Бельскім сейме 1564 года.

Не трэба ігнараваць і ролю юрыстаў-практыкаў, службовых асоб цэнтральных органаў дзяржаўнага кіравання. Работу па ўдасканаленні Статута яны пачалі яшчэ да стварэння камісіі. Запісваючы і сістэматызуючы пастановы судовых органаў і рашэнні ўрада, яны далучалі новыя нормы да старога Статута, дапаўнялі і пашыралі яго змест. Такім чынам, з часам быў назапашаны значны матэрыял, які паслужыў за крыніцу для новага Статута. Апрача таго, юрысты-практыкі, відаць, актыўна ўдзельнічалі ў рабоце камісіі і па рэдагаванню тэксту праекта. Можна з упэўненасцю сказаць, што ў падрыхтоўцы гэтага дакумента галоўная роля належала спецыяльнай камісіі, у склад якой уваходзілі прадстаўнікі дзяржаўнай адміністрацыі, судовых органаў і юрысты-ву-

чоныя. Разам з тым актыўна ўдзельнічалі ў гэтай рабоце прадстаўнікі класа феадалаў — удзельнікі соймавых абмеркаванняў і юрысты-практыкі. Упачатку меркавалі ўвесці новы Статут у дзеянне з 11 лістапада 1564 года, але справа зацягнулася, і ён пачаў дзейнічаць з сакавіка 1566 года. Выдадзены ён быў з дадаткам да яго прывілеяў 1563, 1564 і 1565 гадоў.

Тэкст Статута падзяляўся на раздзелы і артыкулы. Усяго было 14 раздзелаў. У першым сабраны артыкулы, што абвяшчаюць асноўныя прынцыпы права Вялікага княства, а таксама нормы, што належаць да дзяржаўнага права і дзяржаўных злачынстваў. У другім раздзеле змешчаны нормы, што належаць да абароны земскай. У трэцім — правы шляхты, і ў прыватнасці артыкул 12 гэтага раздзела абавязвае вялікага князя не прымаць новых законаў без сейма. У чацвёртым гаварылася пра суддзяў і суды: тут выкладзены асноўныя нормы працэсуальнага права; у пятым — нормы шлюбна-сямейнага права. У шостым гаворыцца аб апеках; у сёмым — аб запісах і прадажах, г. зн. аб праве адчужэння маёнткаў пад умовай закладу і продажу; у восьмым — аб завяшчаннях; у дзевятым — аб зямельных спрэчках; у дзесятым — аб лясных промыслах; у адзінаццатым — аб гвалтоўніцтвах і злачынствах супроць шляхты; у дванаццатым — аб злачынствах супроць простых людзей; у трынаццатым — аб маёмасных злачынствах і ў чатырнаццатым — аб іншых злачынствах, і ў прыватнасці аб вывадзе феадальна-залежных сялян або чэлядзі нявольнай.

Да найбольш важных нормаў, выкладзеных у гэтым Статуце, безумоўна, належаць нормы дзяржаўнага права, што вызначылі склад тэрыторыі дзяржавы, парадак утварэння і дзейнасць дзяржаўных органаў, правы і прывілеі пануючага класа.

Тэрыторыя дзяржавы падчас выдання Статута 1566 года ў адміністрацыйна-прававых адносінах падзялялася на дзве часткі: цэнтральную (не ў геаграфічным, а ў дзяржаўна-прававым сэнсе) і землі, «прыслухаючыя да таго панства». Цэнтральная частка дзяржавы ў помніках права называлася Вялікім княствам Літоўскім (таксама як і

ўся дзяржава цалкам) ці проста Літвой. У яе ўваходзілі наступныя княствы і паветы: Брэсцкі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі, Валкавыйскі, Гарадзенскі, Кобрынскі, Клецкі, Ковенскі, Лідскі, Мінскі, Мсціслаўскі, Навагрудскі, Ашмянскі, Пінскі, Рэчыцкі, Слонімскі, Слуцкі, Трокскі і Упіцкі. З гэтага пераліку відаць, што асноўную частку тэрыторыі цэнтральнай зямлі, ці Літвы, складалі беларускія землі. У землі «прыслухаючыя» ўваходзілі Віцебская, Валынская, Жмудская (паўночна-заходняя частка этнаграфічнай Літвы), Кіеўская, Полацкая, Падляшская (заходняя частка Беларусі з гарадамі Бельскам, Мельнікам і Драгічынам-на-Бугу) і Падолле.

Дамінуючае становішча ў дзяржаве займалі цэнтральныя землі. На іх была найбольшая колькасць велікакняжацкіх маёнткаў. Тут былі і маёнткі буйных уплывовых феадалаў: Радзівілаў, Гальшанскіх, Слуцкіх, Друцкіх, Сапег, Глебавічаў, Глінскіх, Хадкевічаў, Кішак і інш. Гэтая тэрыторыя была параўнаўча густа заселена, адсюль збіралася асноўная частка арміі, з насельніцтва гэтых зямель браліся і галоўныя сродкі ў дзяржаўную казну. Феадалы гэтых зямель займалі пануючае становішча ў дзяржаве, у іхніх руках былі найбольш важныя органы дзяржаўнага кіраўніцтва і дзяржаўнай улады.

У буржуазнай літаратуры феадалы гэтых зямель называліся літоўскімі (ад назвы цэнтральнай часткі дзяржавы, а не паводле этнаграфічнай прыналежнасці), і некаторыя гісторыкі спрабавалі гісторыю Беларусі гэтага перыяду паказваць так, нібы беларускі народ прыгняталі не беларускія феадалы, а чужыя — літоўскія. Беларускі ж народ яны паказвалі як бяскласавы, з адных толькі сялян, таму адмаўлялі і класавую барацьбу сярод беларусаў. Памылковасць і шкоднасць такога пункту гледжання даказалі шмат савецкіх вучоных, і перш за ўсё У. І. Пічэта.

Класавае і саслоўнае дзяленне грамадства ў XVI стагоддзі яскрава праявілася і ў помніках права, перш за ўсё ў статутах, у якіх юрыдычна замацоўвалася воля пануючага класа. Адзін з ідэолагаў класа феадалаў Леў Іванавіч Сапега пісаў: «...владзу и вольность у руках своих маем, а права

сами собе творачы яко найбольшей можем волности своее во всем постерегаем, бо не только сусед, а сполный наш обыватель в отчизне, але и сам господар пан наш жадное звирхности над нами зажиивати не можеть, одно только колько ему право допущаеть»[4].

Словы Сапегі аб тым, што самі феадалы твораць пажаданае ім права і што нават вялікі князь абавязаны падпарадкавацца іх волі, не былі пустым выхваленнем, яны адлюстроўвалі сапраўдныя суадносіны класавых сіл у дзяржаве. У адпаведнасці з воляй феадалаў быў выдадзены і Статут 1566 года.

Паколькі асноўную частку ядра дзяржавы складалі беларускія землі, беларуская мова была прызнана за дзяржаўную на ўсёй тэрыторыі княства, а нормы права, пажаданыя і выгадныя беларускім, літоўскім і ўкраінскім феадалам, зрабіліся абавязковымі для ўсіх. Напрыклад, усе феадалы — шляхта вызваляліся ад уплаты таможных збораў.

У артыкуле 2 трэцяга раздзела абвяшчалася захаванне ўсіх ільгот і прывілей, атрыманых шляхтай у ранейшыя часы. Важнае значэнне мелі нормы, што рэгулявалі парадак прыняцця новых законаў. Так, у артыкуле 2 другога раздзела гаварылася, што ні сам гаспадар, ні сумесна з радай не правамоцныя вырашаць пытанні аб вайне і падатках. Іх мог вырашаць толькі сейм. Потым у гэтым жа артыкуле вызначаўся і склад сейма. У артыкуле 1 трэцяга раздзела гаспадар даваў абяцанне захоўваць Вялікае княства Літоўскае ва ўсёй яго славе, уладзе і «в границах ни в чом не вменшати и о вшем примножати». А ў артыкуле 3 таго ж раздзела ён яшчэ абяцаў: «...добра князства Литовского не уменшым и то, што будеть через неприятелей того панства нашого отдалено разобрано и ку иншому панству от того панства нашого коли кольвек упрошоно, ку Короне ку Мазовшу ку Прусам ку Ифлянтом, то за се ку власности того Великого князства привести привлащати и границы оправити обецуем».

Трэба сказаць, што для Сігізмунда-Аўгуста гэтае абяцанне было пустым гукам, бо пасля ён парушыў не толькі гэтае абяцанне, але і сваю ўра-

чыстую прысягу, якую даваў, уступаючы на прастол, аб захаванні Вялікага княства Літоўскага ў цэласці.

Аналізуючы гэты артыкул, бачым, што сярод непрыяцеляў Вялікага княства Літоўскага пералічваюцца Польшча (Карона) і польская вобласць Мазоўшэ.

У артыкуле 9 трэцяга раздзела далей развіта норма аб тым, што «...достойностей духовных и свецких, городов, дворов и кгрунтов, староств в держаньи и пожываньи и вечностей жадных чужоземцом и заграничником ани суседом таго панства давати не маем». Тым самым больш поўна і ясна была паўторана норма, раней выкладзеная ў Статуце 1529 года, якая забараняла даваць маёнткі і пасады чужаземцам і суседзям Вялікага княства Літоўскага. Вядома, гэтыя артыкулы былі ўнесены ў Статут 1566 года насуперак волі польскіх феадалаў і самога караля, які ўсімі сіламі імкнуўся да ліквідацыі самастойнага існавання княства Літоўскага. Гэтая накіраванасць норм Статута супроць захопніцкіх тэндэнцый польскіх феадалаў — яркае сведчанне памылковасці тэзіса буржуазных гісторыкаў, якія сцвярджалі, нібыта дробная і сярэдняя шляхта Вялікага княства Літоўскага імкнулася да уніі з Польшчай і тым самым да ўключэння княства ў склад Польшчы.

У артыкуле 5 трэцяга раздзела рэгламентаваўся парадак правядзення павятовых соймікаў, якія павінны былі збірацца дзеля абмеркавання мясцовых пытанняў і выбараў дэпутатаў на агульнадзяржаўны сейм. Было ўстаноўлена, што ад кожнага павета выбіралася па два дэпутаты. Апроч таго, на вальны (агульны) сейм, паводле старых звычаяў, спецыяльнымі лістамі вялікага князя запрашаліся князі, паны, маршалкі і іншыя службовыя асобы. Тым самым заканадаўча былі замацаваны прывілеі і пануючая роля буйных феадалаў у дзяржаве, што таксама супярэчыць думцы буржуазных гісторыкаў, якія лічылі, што Статут 1566 года абмежаваў правы буйных феадалаў і на пануючае становішча ў дзяржаве вылучаў дробную і сярэднюю шляхту. Інтарэсы буйных феадалаў ахоўваў і артыкул 10 гэтага ж раздзела, у якім гаворыцца: «Теж обецуем и хочем вечными часы

мети, абы панове рада наша, так духовные яко и свецкие, и вси иные врядники наши земские и дворные, в том панстве нашом Великом князстве Литовском были во всяких достоенствах и у почтивостях захованы водле давного обычаю и кождый подле зацности и местца своего».

Артыкул 12 трэцяга раздзела гарантаваў захаванне і выкананне ўсіх раней выдадзеных прывілеяў, патрабаваў прымаць новыя законы толькі на «вальном сойме... з ведомостью порадою рад наших и призволеньем всих земль того панства нашого». Што да норм дзяржаўнага права, выкладзеных у Статуце 1566 года, дык, аналізуючы толькі Статут, нельга правільна і поўнасцю разабрацца ў характары дзяржаўнага права і зразумець усю сістэму органаў дзяржаўнага кіравання, бо ў Статуце былі не ўсе нормы, якія вызначалі структуру і кампетэнцыю дзяржаўных органаў, адносіны цэнтральных органаў да мясцовых і шмат іншых норм. Такія прабелы ў Статуце тлумачацца тым, што шмат якія адносіны рэгуляваліся не пісаным правам, а ўсталяванымі звычаямі. Складальнікі ж Статута мелі за сваю задачу стварыць сістэматычны збор існуючых законаў і не стараліся ствараць новыя прававыя нормы там, дзе гэтага зусім і ніколькі не патрабавала само жыццё.

У Статут былі ўключаны некаторыя ўстарэлыя нормы, якія не адпавядалі новым эканамічным і палітычным адносінам і былі своеасаблівай данінай мінуўшчыне, таму адразу ж пасля ўвядзення Статута ў дзеянне давялося ўносіць у яго некаторыя змены. Так, ужо ў чэрвені 1566 года быў зменены артыкул 1 сёмага раздзела. Паводле старой рэдакцыі гэтага артыкула права землеўладальніка-шляхціца распараджацца сваімі маёнткамі было абмежавана ў адносінах спадчынных (фамільных) маёнткаў. Уладальнік такога маёнтка меў права адчужаць, мінаючы сваіх родзічаў, толькі адну трэцюю частку сваіх маёнткаў, астатнія ж дзве трэція часткі можна было перадаць у заклад за суму, што не перавышала іх кошту, з правам выкупу родзічам. Згодна ж з новай рэдакцыяй гэтага артыкула землеўладальнікі атрымалі поўнае права вольна распараджацца сваімі ма-

ёнткамі. Потым ў Статут былі ўнесены яшчэ іншыя змены і дадаткі.

Наяўнасць некаторых архаічных норм у першапачатковай рэдакцыі Статута 1566 года ніколькі не зніжала значэння гэтага гістарычнага помніка права.

Агляд канстытуцыйных норм Статута дазваляе зрабіць вывад, што яны былі накіраваны на абарону інтарэсаў пануючага класа, і асабліва яго вярхоў, буйных феадалаў, гарантавалі ім правы і перавагі ў прыгнятанні і эксплуатацыі працоўных, садзейнічалі ўмацаванню пазіцыі феадалаў Вялікага княства ў адносінах з феадаламі Польшчы, якія ўвесь час імкнуліся захапіць беларускія і ўкраінскія землі.

Пасля прыняцця Статута 1566 года кадыфікацыя і сістэматызацыя ўласнага заканадаўства, заснаванага на звычаёвым праве, нашмат апярэдзіла падобную работу ў іншых феадальных дзяржавах. Гэта таксама сведчыць, што ў Вялікім княстве Літоўскім ужо ў той час грамадскія адносіны стаялі на даволі высокім узроўні і былі юрысты, падрыхтаваныя тэарэтычна і практычна, каб адлюстраваць і замацаваць гэтыя адносіны ў заканадаўстве, стварыўшы другі, больш дасканалы Збор законаў.

Вялікія сацыяльныя і палітычныя змены, выкліканыя правядзеннем у жыццё аграрнай рэформы 1557 года і далучэннем беларускага Падляшша і Украіны да Польшчы, ажыццёўленым паводле незаконнага распараджэння вялікага князя літоўскага і караля польскага Сігізмунда-Аўгуста, а потым прымусовае падпісанне акта Люблінскай уніі 1 ліпеня 1569 года выклікалі неабходнасць унесці новыя змены ў заканадаўства Вялікага княства Літоўскага. Дзеля гэтага ў 1569 годзе была створана камісія, якая павінна была прывесці яго ў адпаведнасць з актам Люблінскай уніі і канчаткова афарміць ліквідацыю княства як дзяржавы. Аднак гэтая камісія ніякіх слядоў работы не пакінула.

Пасля смерці Сігізмунда-Аўгуста ў 1572 годзе артыкулы акта Люблінскай уніі, накіраваныя на ліквідацыю Вялікага княства Літоўскага, былі фактычна забыты і не выконваліся. Гэтая

дзяржава заставалася самастойнай, звязаная з Польшчай толькі тым, што быў адзін кароль і агульны сейм. У Вялікім княстве былі захаваны асобны ўрад, асобная армія і асобнае заканадаўства. Таму гэты ўрад і не лічыў патрэбным узгадняць нормы Статута з польскім правам адпаведна з пастановай Люблінскага сейма.

Пасля смерці Сігізмунда-Аўгуста ўзаемаадносіны паміж феадаламі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага былі настолькі непрыязныя, што нават не выключалася магчымасць разрыву саюзу з Польшчай. Таму польскія феадалы, далучыўшы да Польшчы Украіну і Падляшша, былі згодны ў той час з новым талкаваннем акта Люблінскай уніі як саюзу дзвюх раўнапраўных дзяржаў. Вядома, пры такім становішчы адпала і неабходнасць змяняць канстытуцыйныя нормы Статута. Тое ж, што камісія не пакінула ніякіх слядоў работы, можа толькі сведчыць аб тым, што яна пасля 1572 года перастала існаваць.

Разам з тым вядома, што ў сямідзесятых гадах (у 74 і 78) у Статут уносіліся змены і дадаткі. Яны не датычылі норм канстытуцыйнага права, а толькі судовага, крымінальнага і грамадзянскага, і ў Статут уносіліся згодна з пажаданнямі феадалаў Беларусі і Літвы, насуперак патрабаванням польскіх феадалаў.

У сувязі з барацьбой феадалаў Беларусі і Літвы супроць зліцця з Польшчай вялікае значэнне надавалася захаванню свайго самастойнага права. Таму амаль на ўсіх сеймах Вялікага княства Літоўскага абмяркоўваліся пытанні паляпшэння заканадаўства. Так, у 1579—1580 гадах быў падрыхтаваны і ў 1581-ым прыняты закон аб утварэнні Галоўнага суда (Галоўнага трыбунала). У гэты ж час пачалася работа па падрыхтоўцы новага праекта Статута.

Статут 1588 года заканадаўча аформіў захаванне Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы насуперак акту Люблінскай уніі. У гэтым галоўнае значэнне яго дзяржаўна-прававых норм. Складальнікі Статута не ўнеслі ў яго ніводнай нормы, якая б магла быць скарыстана на шкоду дзяржаўнай самастойнасці. Нормы дзяржаўнага права са Статута 1566 года былі поўнасцю перанесены ў

Статут 1588 года, яны былі толькі крыху ўдакладнены і дапоўнены. Складальнікі новага Статута нібы не заўважылі ці не зразумелі акта Люблінскай уніі аб уключэнні Вялікага княства ў склад Польшчы. І такія адносіны да рашэння Люблінскага сейма 1569 года — яскравае сведчанне таго, што шляхта княства, якая ўдзельнічала ў рабоце сеймаў, варожа ставілася да зліцця з Польшчай. Шляхта хацела толькі такога злучэння, пры якім Вялікае княства Літоўскае заставалася б самастойным, г. зн. згодна была на цесны саюз дзвюх раўнапраўных дзяржаў, а не на ліквідацыю апошняга.

Статут 1588 года быў падрыхтаваны ў час панавання вялікага князя і караля Стэфана Баторага (1576—1586) на высокім тэарэтычным узроўні кваліфікаванымі правазнаўцамі, працай якіх кіравалі А. Б. Валовіч і Л. І. Сапега. Яны займалі ў той час пасады канцлера і падканцлера Вялікага княства Літоўскага.

Сістэма Статута была складзена так разумна, што ў яго былі ўключаны нормы дзяржаўнага (канстытуцыйнага) права, чаго ў той час не было ні ў адной еўрапейскай дзяржаве,— адміністрацыйнага, ваеннага, судова-працэсуальнага, шлюбна-сямейнага і апякунскага, грамадзянскага, спадчыннага, зямельнага, ляснога і паляўнічага, крымінальнага.

У гэтым заканадаўчым акце былі юрыдычна замацаваны дзяржаўна-прававыя ідэі таго часу, і нават тыя, што апярэджвалі час, праявілася багатая прававая культура беларускага народа, бо складзены ён быў на беларускай мове і беларуская прававая лексіка была пакладзена ў яго аснову. У сувязі з гэтым Статут быў зразумелы большасці народа, у той час як у Заходняй Еўропе карысталіся рымскім правам, выкладзеным на латыні. Мовай Статута ганарыліся яго сучаснікі. Леў Іванавіч Сапега пісаў: «Так кождый обыватель годен ест наганенья, который вольностью се фалить и прав своих умети и розумети не хочеть, которым правом усю вольность свою обварованую маеть. А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчим яким языком, але своим власным права списаные

маем и кождого часу, чого нам потреба ку отпору всякое крывды, ведати можем» [5].

Зацвярджэнне Статута адбылося пры незвычайных абставінах. Пасля смерці караля і вялікага князя Стэфана Баторага, які памёр 12 снежня 1586 года, кандыдатамі на трон у Рэчы Паспалітай былі рускі цар Фёдар Іванавіч, якога падтрымлівалі праваслаўная шляхта Беларусі і Украіны, шведскі каралевіч Сігізмунд Ваза, за якога стаяла каталіцкае духавенства і значная частка феадалаў-католікаў, аўстрыйскі эрцгерцаг Максімілян. Але рускі цар хутка адмовіўся ад вылучэння сваёй кандыдатуры на трон, і галоўная барацьба разгарнулася паміж прыхільнікамі Сігізмунда Вазы і Максіміляна.

Прадстаўнікі Вялікага княства, скарыстаўшы гэтую барацьбу і першымі даведаўшыся аб перамозе прыхільнікаў Сігізмунда, прапанавалі яму сваю падтрымку, калі ён зацвердзіць Статут, на што Сігізмунд згадзіўся. 28 студзеня 1588 года, не ведаючы яшчэ аб перамозе сваіх прыхільнікаў, Сігізмунд сваёй граматай зацвердзіў Статут і абавязаўся «права вольности и свободы их не только цело и непорушно держати, але што бы наболей примножати, справедливость и оборону чинити... привильем нашим ствержаем и всим станом Великого князьства Литовского ку уживанью на вси потомные часы выдаем. Водле которого вже якосмы сами, господар, так и вси иные станы, обыватели Великого князьства Литовского, захоматисе маем» [6]. Гэтай жа граматай Статут уводзіўся ў дзеянне з 6 студзеня 1589 года. А для таго каб хутчэй можна было ім карыстацца, было загадана яго «письмом польским и руским друковати» з прыкладаннем да яго агульнадзяржаўных прывілеяў (грамат).

Аднак Статут быў выдадзены без грамат, бо, на думку Льва Сапегі, не ўсе яны былі на карысць Вялікаму княству, «у адных добрым быў пачатак, а сярэдзіна кепская, у другіх сярэдзіна добрая, а пачатак або канец кепскія» [7]. Безумоўна, што граматамі з кепскім пачаткам Л. Сапега лічыў тыя, што былі выдадзеныя ў 1387 і 1413 гадах, у якіх абвяшчалася аб'яднанне Вялікага княства з Польшчай і насаджаўся каталіцызм, а з добрым кан-

чаткам была грамата Казіміра 1447 года і добрай сярэдзінай — грамата Аляксандра ад 6 жніўня 1492 года, якія замацоўвалі суверэнныя правы Вялікага княства Літоўскага, забаранялі даваць землі, маёнткі, пасады, чыны і званні чужаземцам, асабліва ўраджэнцам Польшчы.

Сістэматызацыя права, на аснове якой стварыўся Статут 1588 года, рабілася па новых прынцыпах, уласцівых для пераходнай эпохі ад сярэдневякоўя да новага часу і зараджэння буржуазных адносін — абмежаванне ўлады гасудара — намячалася раздзяленне ўлад, з-за чаго заканадаўчая замацоўвалася за сеймам, выканаўчая — за вялікім князем і радай, судовая — за велікакняжацкім і Галоўным судамі, а таксама за мясцовымі судамі; абвяшчэнне неабходнасці прытрымлівацца дзяржаўнага суверэнітэту, насуперак сярэдневяковаму царкоўнаму касмапалітызму; адзінства права для усёй дзяржавы і ўсіх паўнапраўных людзей (хаця само права прызнавала розную правамоцнасць для розных сацыяльных груп насельніцтва); прыярытэт пісанага права.

Прызнанне розных ільгот і прывілей для пануючых саслоўяў і асобных груп феадалаў падрывала агульны прынцып адзінства права. Гэтыя прывілеі — не выключэнне, яны былі састаўной часткай усяго феадальнага права, хоць і супярэчылі новым прынцыпам, у чым і заключалася ўнутраная супярэчнасць феадальнай сістэмы права. Побач з тыпова феадальнымі нормамі права ў Статут 1588 года былі ўключаны і некаторыя нормы, народжаныя распаўсюджаннем ідэй Рэфармацыі і гуманізму.

Праз увесь Статут праводзіцца ідэя ўмацавання прававога парадку, пры якім усе дзяржаўныя органы і службовыя асобы абавязаны дзейнічаць толькі ў адпаведнасці з законам. Ідэя прававога парадку была накіравана найперш супраць дэспатызму гасудара, буйных феадалаў і сярэдневяковай тэакратычнай тэорыі паходжання і сутнасці дзяржавы. Адлюстравалася яна ў многіх артыкулах Статута, а таксама была выкладзена Л. Сапегам у яго прысвячэннях Сігізмунду III і ўсім саслоўям Вялікага княства Літоўскага. Ён пісаў: «Для того права суть постановлены, абы можнаму

и потужному не все было вольно чинити. Яко Цыцеро поведил, иж естесмо невольниками прав для того, абысьмы вольности уживати могли» [8].

Абвяшчэнне ідэі верхавенства права ў перыяд феадалізму сведчыла аб зараджэнні новай дзяржаўна-прававой тэорыі, якая найбольш поўна праявілася ў нормах дзяржаўнага права.

Выданне Статута 1588 года мела выключна важнае значэнне для ўсяго Вялікага княства, бо ён быў галоўным актам, які абараняў самастойнасць дзяржавы ад пастаянных дамаганняў польскіх феадалаў. Статутам карысталіся на Украіне, і на яго аснове быў састаўлены ўкраінскі збор законаў пад назвай «Права, по которым судится малороссийский народ».

У 1614 годзе Статут быў перакладзен на польскую мову і неаднаразова на ёй выдаваўся. Пры падрыхтоўцы Саборнага ўлажэння 1649 года Статут быў перакладзен на рускую мову. Усё гэта сведчыць аб тым, што ён быў шырока вядомы ў суседніх народаў і займаў адно з пачэсных месц сярод крыніц феадальнага права еўрапейскіх дзяржаў.

«А хто бы втек з войска до дому, а в том его поймають, тогды того на шибеницу. Приказуем, абы гетмана нашого... во всем были послушны: бо есмо казали ему послушных честовати, а упорных и непослушных карати» *(Менская ваенная грамата 1507).*

4



**«Теж добра паньства того Великого князства Литовского не уменшим и то, што будеть через неприятелей того паньства отдалено, розобрано и ку иншому паньству от того паньства нашего коли кольвек упрошено, то засе ку власности того Великого князства привести, привлащити и границы направити обецуем»** *(Статут 1588 г., р. 3, а. 4).*

# Дзяржаўнае і ваеннае права

Суверэнітэт дзяржавы. Класавы і саслоўны стан грамадства. Структура і кампетэнцыя ўстаноў дзяржаўнай улады. Вялікі князь. Рада. Сойм. Службовыя асобы цэнтральнага і мясцовага кіравання. Камплектаванне арміі. Ваенная павіннасць шляхты і простых людзей.

● У дзяржаўным праве Статута 1588 года былі адлюстраваны дзяржаўны суверэнітэт і дзяржаўны лад, асноўныя правы і абавязкі грамадзян, асноўныя прынцыпы судовага ладу, грамадзянскага, крымінальнага, шлюбна-сямейнага і іншых галін права. Дзяржаўнае права Статута значна апярэджвала ў гэтай галіне права краін Заходняй Еўропы, у якіх яно стала фарміравацца толькі ў XVIII стагоддзі.

Ідэі Рэфармацыі і верацярпімасці былі замацаваны ў артыкуле 3 раздзела трэцяга, дзе было прадпісана гасудару і ўсім дзяржаўным органам забяспечваць захаванне ў спакоі ўсіх жыхароў незалежна ад align="left"рознага разумення (і карыстання) розных вучэнняў хрысціянскага веравызнання. На тэрыторыі Беларусі і Літвы да часу выдання Статута спакойна жылі разам праваслаўныя, каталікі, кальвіністы, антытрынітарыі і іншыя рэлігійныя секты. У той час у многіх краінах Заходняй Еўропы прымяняліся крывавыя рэпрэсіі да іншаверцаў. Свабода веравызнання ў Беларусі садзейнічала развіццю прагрэсіўных прававых ідэй, ідэолагамі якіх былі С. Будны, А. Волан і іншыя прагрэсіўныя дзеячы.

Характэрным сведчаннем тагачасных рэлігійных адносін у Беларусі служаць запіскі дзённіка Фёдара Еўлашэўскага, які пісаў: «Помню бовем и недавно прешлых часов, когды дисейший папеж Клеменс еще кардиналом был у короля его милости Стефана в Вилне, седилем у столу князя Балтромея Недызвицкого, каноника виленского, з преднейшими слугами влохами его. Тые же се

кгды доведели, жем евангелик, дивовались барзо, яко же смел князь каноник на обед свой взывати. А кгды им он преложил, же в нас з того жадна ненависть не быва и милуемосе яко з добрыми приятылы, хвалили то влохи, мовечи, же ту бог живе, а ганили свои домовы права» [1]. Але так працягвалася нядоўга, бо пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года пачалося ганенне на ўсіх некатолікаў, што выклікала вострую барацьбу супраць каталіцкай агрэсіі, а ў 1623 годзе сацыяльны і рэлігійны гнёт выклікаў у Віцебску народнае паўстанне. У 1632 годзе пратэстантам было забаронена будаваць у гарадах новыя малітоўныя дамы і праводзіць публічныя богаслужэнні. У 1689 годзе за атэізм быў спалены на вогнішчы падсудак брэсцкага земскага суда Казімір Лышчынскі. У парушэнне Статута ў 1733 годзе сеймам Рэчы Паспалітай быў прыняты закон, які не дазваляў некатолікаў выбіраць дэпутатамі на агульны сейм.

Ідэі гуманізму адлюстраваліся як у нормах дзяржаўнага права, так і ў нормах крымінальнага і грамадзянскага. Так, у пэўнай ступені гарантаваліся маёмасныя і асабістыя правы мяшчан, асабліва такіх гарадоў, як Вільня, Полацк, Брэст, Гродна, Менск, абмяжоўваліся крыніцы халопства толькі палонам. Свабодны чалавек ні за якое злачынства не мог быць адданы ў вечную няволю (р. XII, а. 11). Абвяшчалася права ўсіх свабодных людзей бесперашкодна выязджаць за мяжу (р. III, а. 16).

Да часу выдання Статута тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага дзялілася на ваяводствы Берасцейскае, Віленскае, Віцебскае, Менскае, Мсціслаўскае, Навагрудскае, Полацкае, Трокскае і зямлю Жмудскую. У іх састаў уваходзілі 22 паветы, 18 з каторых былі беларускімі (р. III, а. 7).

Адасобленасць Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы была юрыдычна замацавана ў Статуце 1588 года. Яго складальнікі не ўнеслі ніводнага артыкула, які мог бы ўшчаміць суверэнітэт княства. Больш таго, Статут усюды падкрэслівае адасобленасць Вялікага княства і абавязвае гасудара захоўваць недатыкальнасць яго тэрыторыі і нават вярнуць адарваныя ад яго землі (р. III, а. 1, 4). Строга выконваўся артыкул, які забараняў даваць

быць землеўладанні коштам не менш як 50 тысяч злотых. Мяшчане дробных гарадоў і мястэчак былі пазбаўлены часткі сваіх правоў.

Законам 1776 года магдэбургскае права было захавана толькі ў Брэсце, Вільні, Ваўкавыску, Гродне, Коўне, Лідзе, Мінску, Мазыры, Навагрудку, Пінску і Троках. Ва ўсіх астатніх гарадах і мястэчках Беларусі і Літвы магдэбургскае права адмянялася, а судовыя справы паміж жыхарамі сталі вырашацца судом стараст. У гэтым жа законе ўсім мяшчанам гарантавалася недатыкальнасць іх уласнасці, забяспечвалася «свабода купецтва, гандлю і рамясла, куплі і продажу дамоў, участкаў і ўсякай маёмасці, права свабоднага пераезду і пакідання свайго месца жыхарства» [8]. З мэтай навядзення парадку ў гандлі ўводзяцца адзіныя меры даўжыні, аб'ёму і вагі ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Робіцца спроба зблізіць іх з адзінкамі вымярэння іншых дзяржаў, у тым ліку і Польшчы.

Збліжэнне прагрэсіўнай часткі шляхты з буржуазіяй садзейнічала ўтварэнню ў палітычнай барацьбе адзінага блока. У гістарычнай літаратуры ён атрымаў назву «патрыятычнай партыі». Дзейнасць яго асабліва актыўна праявілася ў 1790—1794 гадах. Пачатак ёй быў пакладзены на Чатырохгадовым сейме 1788—1792 гадоў. Скліканы ў 1788 годзе сейм складаўся з 177 дэпутатаў, з іх 69 адносіліся да прыхільнікаў шляхецка-буржуазнага блока і прытрымліваліся рэфарматарскіх поглядаў. Гэта былі найбольш энергічныя і дзейныя дэпутаты. Сейм аб'явіў сябе канфедэрацыяй, а таму яго рашэнні прымаліся большасцю галасоў і не магло прымяняцца свабоднае вета. Да заканчэння сваіх паўнамоцтваў у 1790 годзе сейм прыняў пастанову аб іх падоўжванні яшчэ на два гады і правядзенні новых выбараў дэпутатаў. Дадаткова было выбрана 182 дэпутаты, з якіх 112 былі прыхільнікамі правядзення рэформ. Такім чынам з 359 дэпутатаў Чатырохгадовага сейма 181 былі прадстаўнікамі шляхецка-буржуазнага блока і прыхільнікамі рэформ грамадскага і дзяржаўнага ладу. На актывізацыю дэпутатаў-рэфарматараў значны ўплыў аказвалі падзеі ў рэвалюцыйнай Францыі. Сейм у двайным саставе так-

сама абвясціў сябе канфедэрацыяй для таго, каб мець магчымасць прымаць рашэнні простай большасцю галасоў.

Пераўтварэнне дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай Чатырохгадовы сейм пачаў з выкладання асноўных прынцыпаў канстытуцыйнага права, замацаваных у Кардынальных правах, прынятых у студзені 1791 года. У іх абвяшчалася: дамінаванне каталіцкай рэлігіі ў дзяржаве, а пераход з каталіцкай веры ў іншую разглядаўся як крымінальнае злачынства; адначасова і асобам, якія трымаюцца іншых веравучэнняў, забяспечвалася свабода і бяспека ў выкананні рэлігійных культаў; дэкларавалася вечная унія Польшчы і Вялікага княства Літоўскага ў саставе Рэчы Паспалітай і яе суверэнныя правы; Рэч Паспалітая аб'яўлялася прававой дзяржавай, у якой вяршэнства належыць толькі закону, прынятаму сеймам. «Ніякая ўлада нікога не можа абавязаць выконваць распараджэнні, якія не адпавядаюць праву, і не можа дазваляць сабе і іншым таго, што забараняе права, не будзе ігнараваць тое, што права абавязвае выконваць» [9]. Асабліва важнае значэнне меў артыкул 11, у якім абвяшчаліся свабода слова і друку, за выключэннем пытанняў, што датычаць пануючай каталіцкай веры, у інтарэсах якой магла быць устаноўлена цэнзура.

Буржуазны характар праводзімых рэформ праявіўся ў законе ад 24 сакавіка 1791 года, якім бедная беззямельная шляхта пазбаўлялася права ўдзельнічаць у павятовых сейміках і прымаць удзел у выбарах дэпутатаў на агульны сейм. Тым самым у аснову быў пакладзены не саслоўны, а класавы прынцып, характэрны для буржуазнага выбарчага права.

Для жыхароў гарадоў і мястэчак першачарговае значэнне меў закон «Гарады нашы каралеўскія свабодныя ў дзяржавах Рэчы Паспалітай» [10], прыняты ў красавіку 1791 года. Гэтым законам мяшчане атрымалі такое ж права асабістай недатыкальнасці, якім карысталася беларуска-літоўская шляхта па Статуту 1588 года, г. зн. забаранялася знявольваць падазраваемага пад ахову да судовага разбірацельства, за выключэннем выпадкаў затрымання на месцы злачынства, фальшы-

вых банкрутаў, што не прадставілі дастатковага залогу ў судзе.

Мяшчанам дазвалялася набываць маёнткі, населеныя залежнымі сялянамі, а ўласнікі маёнткаў коштам звыш 2000 злотых атрымалі права ўзводзіцца сеймам у шляхецкае званне. Акрамя таго, на кожным сейме яшчэ па 30 мяшчан, якія мелі нерухомую маёмасць у гарадах, маглі аб'яўляцца шляхтай. Мяшчане, што даслужыліся ў арміі да звання штабс-капітана, капітана і ротмістра, аб'яўляліся са сваімі нашчадкамі шляхціцамі. Мяшчанам дазвалялася займаць ніжэйшыя пасады ў дзяржаўных установах і судах, а таксама станавіцца адвакатамі. Прадстаўнікі мяшчан атрымалі права прадстаўляць свае інтарэсы ў сеймавых камісіях пры разглядзе пытанняў, што датычацца гарадоў. Закон аб гарадах стварыў спрыяльныя ўмовы для развіцця гарадоў і збліжэння мяшчан з шляхтай, што дазволіла ўмацаваць палітычныя пазіцыі шляхецка-буржуазнага блока і яшчэ больш энергічна пачаць далейшыя рэформы дзяржаўнага ладу.

Кансалідацыя патрыятычных сіл у сейме дазволіла 3 мая 1791 года прыняць Закон аб урадзе, які ў гістарычнай літаратуры прынята называць Канстытуцыяй Рэчы Паспалітай 3 мая. Прыхільнікі рэформ, баючыся, што сейм у поўным складзе не прыме гэтую Канстытуцыю, адважыліся крыху парушыць устаноўлены парадак і пачалі сесію сейма, калі значная частка рэакцыйных дэпутатаў і сенатараў не вярнулася з велікодных канікулаў. На сесіі прысутнічала толькі 182 дэпутаты і сенатары, што складала крыху больш як $^{1}/_{3}$ частку агульнага саставу сейма. 3 мая да каралеўскага замка ў Варшаве, дзе засядаў сейм, былі выстаўлены воінскія часці, якія падтрымлівалі рэфарматараў, а на вуліцы выйшлі гараджане. У залу пасяджэння сейма прыбылі прадстаўнікі мяшчан, тым самым выказваючы падтрымку Канстытуцыі.

Канстытуцыя 3 мая складалася з прэамбулы і 11 раздзелаў. У прэамбуле ад імя караля Станіслава Аўгуста гаварылася, што, улічваючы застарэлыя недахопы кіравання ў Рэчы Паспалітай і жадаючы выкарыстаць становішча, у якім знахо-

дзіцца Еўропа, імкнучыся дасягнуць знешняй незалежнасці і ўнутранай свабоды народа, для агульнага дабрабыту і захавання дзяржавы і яе граніц зацвярджаецца гэтая Канстытуцыя. У першым раздзеле пануючай рэлігіяй у дзяржаве аб'яўляецца «святая рымская каталіцкая» рэлігія з усімі яе правамі. Пераход з каталіцкай веры ў іншую забараняўся. Для ўсіх іншых рэлігій гарантавалася свабода выканання рэлігійных абрадаў. У другім раздзеле пацвярджаліся ўсе правы і прывілеі, дадзеныя шляхце як Польшчы, так і Вялікага княства Літоўскага. Уся шляхта прызнавалася роўнай між сабой і ў роўнай ступені магла карыстацца ўсімі правамі і прывілеямі, асабліва асабістай бяспекі, свабоды, уласнасці. Шляхта прызнавалася найпярвейшым абаронцам свабоды. У трэцім раздзеле пацвярджаўся закон аб гарадах і аб'яўляўся ён як частка гэтай Канстытуцыі.

Чацвёрты раздзел змяшчаў новыя нормы аб сялянах. У ім гаварылася: «Сяляне, з-пад рук якіх цячэ вялікая крыніца багаццяў краіны, што складаюць у народзе самую шматлікую частку насельніцтва і, значыць, з'яўляюцца самай дзейнай сілай краіны, па справядлівасці, з пачуцця чалавечнасці і хрысціянскага абавязку, а таксама ўлічваючы наш уласны, правільна зразуметы інтарэс, мы бяром пад ахову права і нашага ўрада, устанаўліваючы, што з гэтага часу любыя свабоды, пажалаванні або сапраўдныя дагаворы, заключаныя між землеўладальнікамі і сялянамі іх маёнткаў, незалежна ад таго, ці былі яны зроблены з усёй грамадою або кожным асобным жыхаром вёскі, павінны ўстанаўліваць агульныя і ўзаемныя абавязацельствы ў адпаведнасці з дакладным значэннем умоў і запісанага ва ўказаных пажалаваннях і дагаворах, якія знаходзяцца пад апекай краявога урада... Абумовіўшы тым спосабам уладальнікаў маёнткаў пры ўсіх паступленнях ад сялян, што ім належаць, і жадаючы заахвоціць павелічэнне насельніцтва ў краіне, даём поўную свабоду для ўсіх людзей, як нанава прыбываючых, так і тых, якія раней выдаліліся з краіны, а цяпер пажадалі вярнуцца на радзіму»[11].

У дадзеным раздзеле зроблена спроба, хоць бы на словах, крыху абмежаваць самавольства паме-

шчыкаў у адносінах да сялян, бо сама іх залежнасць ад паноў не адмянялася. Хоць да гэтага часу некаторыя паны самі пераводзілі сваіх сялян з баршчыны на выплату грашовага аброку. Так, у маёнтку Шчорсы (Наваградскага павета) графам Храбтовічам у 1790 годзе сяляне былі ператвораны ў арандатараў панскай зямлі і абавязаны былі ўносіць яму пэўную плату. Яны самі павінны былі несці ўсе дзяржаўныя падаткі і павіннасці. За работы ў маёнтку сяляне атрымлівалі заработную плату. Напрыклад, мужчына за 1 дзень касьбы — 12 капеек серабром, жанчына за жніво — 10 капеек, па месячнаму найму батракі пры забеспячэнні іх харчам і хлебам — па 1 рублю [12]. Вядома, сяляне Рэчы Паспалітай не былі задаволены зместам гэтага раздзела Канстытуцыі, а таму не лічылі неабходным яе абараняць.

У пятым раздзеле замацоўвалася прагрэсіўнае палажэнне аб тым, што «ўсякая ўлада ў чалавечым грамадстве бярэ свой пачатак у волі народа» і павінна складацца «з трох улад», г. зн. заканадаўчай, выканаўчай і судовай.

У шостым раздзеле вызначалася структура і паўнамоцтвы сейма, які складаўся з дзвюх палат: палаты дэпутатаў (паслоў) і палаты сенатараў пад старшынствам караля. Палата дэпутатаў абвяшчалася святыняй заканадаўства. У яе павінны былі ўваходзіць 204 дэпутаты. У палаце павінны былі абмяркоўвацца ўсе законапраекты. Сенат, які складаўся з каталіцкіх епіскапаў, ваявод, кашталянаў і міністраў пад старшынствам караля, налічваў усяго 132 чалавекі. Закон, прыняты ў палаце дэпутатаў, перадаваўся ў сенат, які мог ўхваліць яго або адкласці да паўторнага пасяджэння сейма. У такім выпадку абедзве палаты збіраліся разам і рашэнне прымалася простай большасцю галасоў. Адмянялася «ліберум вета», забараняліся ўсякія канфедэрацыі. Устанаўлівалася, што Канстытуцыя падлягае перагляду праз 25 гадоў.

Па-новаму вырашалася ў Канстытуцыі пытанне аб выканаўчай уладзе — аб урадзе, састаў і кампетэнцыя якога вызначаліся ў раздзеле сёмым. Вышэйшым выканаўчым органам — урадам абвяшчалася стража законаў. У састаў урада ўва-

ходзілі кароль як старшыня, кіраўнік каталіцкай царквы — прымас як старшыня камісіі народнай асветы і пяць міністраў: паліцыі, унутраных спраў, замежных спраў, ваенны міністр, міністр фінансаў. Назначаліся два сакратары, з якіх адзін вёў справаводства стражы законаў, другі — замежныя справы. Міністраў прызначаў кароль.

Да найбольш важных змяненняў адносілася адмена выбарнасці каралёў і ўстанаўленне спадчыннасці трона. Наследнік караля, дасягнуўшы паўналецця і прынёсшы прысягу, мог прысутнічаць на ўсіх пасяджэннях урада без права рашаючага голасу. Кароль надзяляўся шырокімі паўнамоцтвамі. Ён прызнаваўся вышэйшым распараджальнікам усіх узброеных сіл у дзяржаве, прызначаў і здымаў генералаў і афіцэраў, службовых асоб органаў дзяржаўнага кіравання, епіскапаў, сенатараў. Аднак усе акты караля мелі патрэбу ў подпісу адпаведнага міністра, які і адказваў перад соймам за дадзены акт, паколькі ў Канстытуцыі было запісана: «Асоба караля з'яўляецца свяшчэннай і ў бяспецы ад усяго. Нічога сам адзін не прымае, ні за што ў адказе перад народам быць не можа» [13]. У выпадку, калі ні адзін з міністраў не згодзіцца падпісаць рашэнне, кароль адступіць ад гэтага рашэння, а калі будзе настойваць на ім, то пытанне пераносіцца на вырашэнне сейма.

Для належнага функцыяніравання выканаўчай улады прадугледжвалася стварэнне пастаянных камісій пры ўрадзе. Камісіі выбіраліся соймам: 1) па асвеце; 2) паліцыі; 3) ваенная; 4) фінансаў, а таксама яшчэ раней створаныя ваяводскія камісіі парадку падлягалі ўрадаваму нагляду.

Стварэнне адзінага ўрада для ўсёй Рэчы Паспалітай змяняла характар дзяржаўнай будовы, ператвараючы канфедэратыўны лад у федэрацыю, садзейнічала цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацоўвала аўтарытэт цэнтральных органаў улады і кіравання, крыху абмяжоўвалася ўсемагутнасць буйных феадалаў і іх самавольства.

Істотныя змяненні ўносіліся ў структуру і характар дзейнасці судовых органаў (раздзел 8). Абвяшчаўся прынцып ажыццяўлення правасуддзя толькі судом. Тым самым уносіліся змяненні ў

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Згодна з Канстытуцыяй не маглі разглядацца справы ў гаспадарскім судзе і ў гродскіх судах старастаў і ваявод. Усе суды падраздзяляліся на суды першай і другой інстанцыі. Суды першай інстанцыі замест сесійнага разгляду спраў павінны былі стаць пастаяннымі судамі і разглядаць справы на працягу цэлага года. Ствараліся рэферэндарскія суды для свабодных сялян, а таксама вышэйшы суд, называемы сеймавым. У гэтым судзе разглядаліся крымінальныя справы па дзяржаўных злачынствах супраць народа і караля. Канстытуцыяй прадпісвалася выдаць новы кодэкс па грамадзянскіх і крымінальных справах. Усе суды па-ранейшаму заставаліся саслоўнымі, а залежных сялян працягвалі судзіць іх паны.

У раздзеле дзевятым вызначаўся парадак устанаўлення рэгента на выпадак хваробы, палону або непаўналецця караля, у дзесятым гаварылася аб вучобе дзяцей караля і наглядзе за іх выхаваннем.

Апошні, адзінаццаты раздзел Канстытуцыі быў прысвечаны ўзброеным сілам дзяржавы. Побач са шляхецкім апалчэннем у армію набіраліся рэкруты з сялян. Ставілася задача павялічыць колькасць арміі ў некалькі разоў. Яна павінна была пастаянна заставацца ў падпарадкаванні выканаўчай улады і прынесці прысягу «на вернасць народу і каралю і на абарону народнай Канстытуцыі» [14].

Канстытуцыя 3 мая была прынята ў выніку вострай палітычнай барацьбы і з'явілася вынікам кампрамісу паміж землеўладальніцкай шляхтай і гарадской буржуазіяй. Яна захоўвала феадальна-прыгонніцкі лад і адначасова стварала больш выгадныя ўмовы развіцця мануфактурнай вытворчасці і гандлю, надзяляла больш шырокімі правамі гарадскіх жыхароў-мяшчан. Менш за ўсё яна ўносіла змен у прававое становішча сялян.

Карэнныя змяненні яна ўнесла ў структуру вышэйшых органаў улады. Сейм станавіўся здольным да дзеяння органам.

Дзякуючы Канстытуцыі ў Рэчы Паспалітай была зроблена спроба ажыццявіць прынцып парламенцкага спосабу кіравання. Для свайго часу гэтая Канстытуцыя мела прагрэсіўнае значэнне,

але яе палажэнні не былі поўнасцю ажыццёўлены з-за бунту рэакцыйных колаў, якія абвясцілі вясной 1792 года ў горадзе Тарговіца канфедэрацыю, і ўмяшання замежных дзяржаў.

Акт Тарговіцкай канфедэрацыі аб'яўляў незаконнай дзейнасць Чатырохгадовага сейма, які нібыта «парушыў кардынальныя правы, адмяніў усе шляхецкія вольнасці, а 3 мая, учыніўшы рэвалюцыйную змову, устанавіў новую форму ўлады пры дапамозе мяшчан, салдат, уланаў... Рэспубліку ператварыў у манархію, беззямельную шляхту ад роўнасці і свабод адхіліў»[15]. Далей гаварылася, што канфедэрацыя ўтворана ў імя абароны каталіцкай рэлігіі, захавання цэласнасці граніц Рэчы Паспалітай і старых свабод шляхты. Не маючы шырокай падтрымкі ўнутры дзяржавы, таргавічане звярнуліся за дапамогай да царскага ўрада, які 18 мая 1792 года накіраваў 100-тысячную армію ім на дапамогу, што прывяло да хуткай перамогі таргавічан. Выклікаўшы ваенны разгром Рэчы Паспалітай, яны садзейнічалі і яе другому падзелу, бо ў студзені 1793 года Прусія дамовілася з Расіяй аб адарванні ад Рэчы Паспалітай часткі тэрыторыі. Да Расіі адышла частка Беларусі і Заходняй Украіны, а да Прусіі спрадвечна польскія землі з гарадамі Торунем, Гданьскам, Познанню. Сейм Рэчы Паспалітай, які сабраўся 17 чэрвеня 1793 года ў Гродне, прызнаў гэтыя адарванні. У ходзе Гродзенскага сейма было аб'яўлена аб роспуску Тарговіцкай і стварэнні Гродзенскай канфедэрацыі. Гродзенскім сеймам, які дзейнічаў як канфедэрацыя, была адменена Канстытуцыя 3 мая і прынята новая Канстытуцыя. Асноўныя артыкулы Канстытуцыі 1793 года былі наступнымі: 1) аднаўляўся Пастаянны савет; 2) аднаўлялася выбіральнасць каралёў; 3) вышэйшым заканадаўчым органам краіны заставаўся сейм, які павінен быў склікацца кожныя чатыры гады на 8 тыдняў; 4) рашэнні ў сейме прымаліся большасцю галасоў; 5) каралю прадастаўлялася права вета на сеймавыя рашэнні, якія датычацца асноўных законаў[16].

Галоўнае заключалася ў тым, што нават і гэтая Канстытуцыя заставалася на паперы, бо Рэч Паспалітая страчвала сваю незалежнасць, а ца-

рызм аказваў рашаючы ўплыў на ваенныя і палітычныя справы.

Такое становішча выклікала вострае незадавальненне значнай часткі гарадскіх жыхароў і прагрэсіўна настроенай шляхты. Прыклад Французскай рэвалюцыі ўказваў на адзіна магчымы шлях вызвалення краіны ад замежнага дыктату. 24 сакавіка 1794 года ў Кракаве ўспыхнула паўстанне, у якім прынялі ўдзел шляхта, мяшчане і некаторая частка сялян. На чале паўстання стаў ураджэнец Беларусі Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, праслаўлены герой барацьбы за незалежнасць Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі. Ён быў прызнаны вышэйшым і адзіным начальнікам усіх узброеных сіл і кіраўніком паўстання.

Паўстаўшымі былі выдадзены прававыя акты, якія мелі сілу рэвалюцыйных законаў; ўстанаўліваліся новыя органы кіравання: у Варшаве — Галоўны нацыянальны савет і ў Вільні — Вышэйшы савет. Ствараліся ваяводскія камісіі парадку, якія павінны былі сачыць за падтрыманнем парадку на месцах, займацца камплектаваннем арміі і яе забеспячэннем, ажыццяўляць распараджэнні і загады вышэйшых органаў рэвалюцыйнай улады.

7 мая 1794 года Касцюшка выдаў Паланецкі універсал, якім абвяшчалася апека ўрада над сялянамі; сяляне аб'яўляліся асабіста вольнымі, г. зн. адмянялася прыгоннае права, але без зямлі, пайсці ад памешчыка селянін мог толькі пры ўмове выплаты даўгоў і дзяржаўных падаткаў, а таксама паставіўшы ў вядомасць камісію ўпраўлення аб тым, куды ён перасяляецца; устанаўліваліся пэўныя льготы ў адбыванні паншчыны. Спецыяльнымі артыкуламі універсала Касцюшка папярэджваў аб тым, што парушэнне гэтых пастаноў памешчыкамі будзе карацца судом і вінаватыя будуць пакараны як за процідзеянне мэтам паўстання.

Сяляне ў сваю чаргу заклікаліся старанна адбываць астатнія дні паншчыны, слухацца свайго начальства, дбаць пра гаспадарку, не павінны былі адмаўляцца наймацца да памешчыкаў за адпаведную плату. Далей ва універсале гаварылася: «Калі якія-небудзь нягоднікі, выкарыстоўваючы на шкоду дабрыню і справядлівасць урада, будуць

адцягваць просты народ ад працы, падбухторваць яго супраць памешчыкаў, адгаворваць ад абароны айчыны, то камісіі ўпраўлення павінны загадаць схапіць такіх злачынцаў і аддаць іх крымінальнаму суду»[17]. Духавенству прадпісвалася растлумачваць гэтае распараджэнне з амвонаў у касцёлах і цэрквах на працягу чатырох тыдняў. Камісіі ўпраўлення павінны былі прызначыць асоб, якія б аб'язджалі абшчыны і гучна чыталі гэтае распараджэнне ў вёсках і прыходах, заклікаючы сялян да таго, каб яны ў падзяку за вялікія дабрачыннасці Рэчы Паспалітай шчыра сталі на яе абарону.

Паланецкі універсал не адмяняў поўнасцю прыгоннага права і не ліквідаваў феадальнай эксплуатацыі, але дазваляў сялянам адыходзіць ад памешчыкаў, што было таксама ў інтарэсах буржуазіі, якая зараджалася. Гэты акт быў, безумоўна, прагрэсіўным, хоць і палавінчатым. Ён паслабляў эканамічны стан памешчыцкіх маёнткаў, абмяжоўваў паншчыну і падрываў значэнне шляхецкіх прывілеяў. Таму памешчыкі ўсяляк затрымлівалі апавяшчэнне універсала і, баючыся сацыяльнай рэвалюцыі, часта ішлі на змову з замежнымі войскамі. Многія палажэнні універсала не выконваліся на месцах і засталіся толькі на паперы. Супраць ажыццяўлення палажэнняў Паланецкага універсала выступілі вярхі каталіцкага духавенства.

Заклікі Касцюшкі да простага народа выклікалі недавер сялян і сабатаж памешчыкаў. Нямцэвіч, паплечнік Касцюшкі, у сваіх успамінах пісаў наконт гэтага: «Шляхта, якая прывыкла без перашкод карыстацца маёмасцю сваіх сялян, супрацiўлялася выкананню загада Начальніка (Касцюшкі) высылаць пятага селяніна з касой у армію. Нават сельскі народ, які так доўга быў у няволі, па большай частцы не прадбачыў лепшай долі, не ведаючы яе, быў абыякавым. Дарэмна Касцюшка сваім універсалам з-пад Паланца ад 7 мая 1794 года аб'явіў сельскі народ свабодным, забяспечыў яму свабоду. Універсалы гэтыя або не дайшлі, або ім не верылі»[18].

Характарыстыка, дадзеная Нямцэвічам адносінам памешчыкаў і прыгонных сялян да паўстан-

ня, адлюстравала сапраўднае становішча і ў значнай ступені тлумачыла яго пазнейшыя няўдачы. У сялян Рэчы Паспалітай на працягу стагоддзяў выхоўвалася рабская псіхалогія, яны, пакорныя сваім панам, не былі гатовы да актыўных дзеянняў у якасці свядомых барацьбітоў за свае правы, сваю свабоду. Усё гэта ўлічваў Касцюшка і ў кожным яго звароце да народа стараўся абудзіць яго свядомую актыўнасць, умацаваць веру ў перамогу.

У кастрычніку — лістападзе 1794 года войскі паўстаўшых пацярпелі шэраг паражэнняў, цяжка паранены Касцюшка трапіў у палон. Злучаным сілам Расіі, Прусіі і Аўстрыі ўдалося поўнасцю задушыць паўстанне і зрабіць у 1795 годзе трэці падзел Рэчы Паспалітай, па якім да Расіі адышлі Заходняя Беларусь, Літва, Курляндыя і частка Заходняй Украіны, а Прусія і Аўстрыя падзялілі паміж сабой Польшчу.

Пасля далучэння да Расіі тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага была падзелена на тры адміністрацыйныя часткі з цэнтрамі ў гарадах Вільня, Гродна і Коўна. У склад віленскай часткі ўваходзілі паветы Віленскі, Завілейск, Ашмянскі, Браслаўскі, Лідскі і Трокскі, гродзенскай — Навагародскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Брэсцкі, а таксама некалькі валасцей, ковенскай — Вількамірскі, Упіцкі і Самагіцыя. У Гродне засноўвалася вярхоўнае праўленне генерал-губернатара для ўсіх трох частак. Вярхоўнае праўленне складалася з чатырох аддзяленняў: казённага, крымінальнага, грамадзянскага і эканамічнага.

У тым жа 1795 годзе былі ўнесены змяненні ў адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне і замест трох частак былі ўтвораны Віленская і Слонімская губерні, якія пасля ўступлення на прастол Паўла I былі аб'яднаны ў адну. Аляксандр I у 1801 годзе распарадзіўся аб утварэнні на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Літвы дзвюх губерняў: Гродзенскай і Віленскай.

Маніфестам літоўскага генерал-губернатара ад 17 снежня 1795 года ўстанаўлівалася, што суд і расправа на гэтай тэрыторыі павінны праводзіцца імем і ўладаю імператрыцы на падставе мясцовага права і суддзямі, з іх жа сабрацццяў абранымі.

Асноўнай крыніцай мясцовага права працягваў заставацца Статут 1588 года, які неаднаразова перавыдаваўся на польскай мове. У канцы XVIII стагоддзя карысталіся Статутам Вялікага княства Літоўскага 1588 года, які быў выдадзены ў друкарні Віленскай духоўнай акадэміі ў 1786 годзе, з дадаткамі: закона аб трыбунале, пастановы аб унясенні змянення ў парадак разгляду спраў у трыбунале, алфавітна-прадметнага ўказальніка і сеймавых пастаноў.

У 1804 годзе ў Пецярбургу была створана камісія, якой было даручана падрыхтаваць новае выданне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года. За аснову яна ўзяла не аўтэнтычны беларускі тэкст статута, а яго пераклад на польскую мову.

Статут 1588 года быў выдадзены ў Пецярбургу ў 1811 годзе на польскай і рускай мовах. У 1828 годзе была пачата праца па падрыхтоўцы Звода мясцовых законаў Заходніх губерняў, які меркавалася ўключыць у Звод законаў Расійскай імперыі. Галоўнай крыніцай Звода мясцовых законаў быў беларускі тэкст Статута 1588 года.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Вывучэнне крыніц беларуска-літоўскага феадальнага права дае магчымасць усебакова разгледзець працэс станаўлення, развіцця і заняпаду феадалізму на Беларусі. З грамат XIV—XVI стагоддзяў відаць, што першапачаткова феадальны лад не парывае поўнасцю з дафеадальнай сацыяльнай структурай, а часткова ўключае яе элементы ў сваю прававую сістэму. Так, у грамаце вялікага князя Ягайлы ад 20 лютага 1387 года гаворыцца аб тым, што, згодна са старадаўнім звычаем, вайсковы паход «пагоня» павінен быў выконвацца не толькі рыцарамі, але кожным мужчынам, якога б ён ні быў паходжання або звання, толькі б быў здольны насіць зброю.

З валасных і абласных грамат відаць, што яшчэ ў XVI стагоддзі на Беларусі захоўваліся свабодныя сяляне-даннікі, якія ўносілі феадальную рэнту непасрэдна ў дзяржаўную казну і не мелі над сабой пана, а самі выбіралі сабе службовых асоб мясцовага кіравання — старцаў. Паступова свабодныя сяляне траплялі пад уладу духоўных і свецкіх феадалаў і гублялі свабоду, але працягвалі часткова валодаць сваёй гаспадаркай. Па «Уставу на валокі» 1557 года яны былі пазбаўлены права ўласнасці на зямлю. З грамат і другіх актаў добра відаць, што формы ўлады феадалаў над сялянамі былі рознымі, але канчатковы вынік быў адзіны: складаліся адносіны панавання адных і падпарадкавання другіх.

Статуты Вялікага княства Літоўскага яшчэ больш поўна і дэталёва замацавалі поўнаўладдзе феадалаў, шырокія правы саслоўя шляхты і абме-

жаванасць правоў простых людзей. Разам з тым статуты спрабуюць выйсці за межы вузкай саслоўнасці і ў нейкай меры забяспечваюць правы мяшчан і сялян, абмяжоўваюць крыніцы халопства і нават замяняюць назву «чэлядзь нявольная» на «чэлядзь дворная». Усё гэта сведчыць аб пэўных паступовых кроках на шляху новых сацыяльных працэсаў.

Статут 1588 года ўвасабляў найвышэйшае дасягненне феадальнай прававой культуры Беларусі і Літвы. Ён значна паўплываў на развіццё права Польшчы, Расіі, Украіны, Латвіі і Эстоніі. Кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст, выступаючы з прамовай у сейме 11 верасня 1776 года, гаварыў, што Статут 1588 года заслугоўвае самага справядлівага паважання, бо ім шчасліва і разумна карыстаюцца да гэтага часу грамадзяне Вялікага княства Літоўскага і многія ваяводствы Польшчы жадаюць, каб і для іх ён стаў правам, і пажадаў, «каб у Кароне дайшлі да такога шчасця, якім ганарыцца Літва» [1]. Гэтае пажаданне караля не было ў той час выканана. Але калі Чатырохгадовы сейм у 1790 годзе пачаў працы па падрыхтоўцы кодэксаў і была абрана дэпутацкая камісія, то ёй было даручана «Статут Вялікага княства Літоўскага перагледзець і распаўсюдзіць на ўвесь край» [2]. Вядомы палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, прадстаўнік ліберальна-прагрэсіўнага крыла рэфарматараў Гуго Калантай, выступаючы на сейме ў 1791 годзе, так ахарактарызаваў Статут 1588 года: «Статут робіць гонар чалавечаму розуму... складзены так разумна, асабліва ў адносінах ступеняў пакарання, што яго можна лічыць самай дасканалай кнігай законаў ва ўсёй Еўропе» [3].

Разумнымі і дасканалымі для свайго часу былі і нормы дзяржаўнага права, змешчаныя ў Статуце 1588 года. Яны замацоўвалі дзяржаўны лад Вялікага княства Літоўскага, абмяжоўвалі ўладу вялікага князя, гарантавалі шырокія палітычныя, асабістыя і грамадзянскія правы шляхты.

Такіх жа правоў дамагаліся і іншыя сацыяльныя групы насельніцтва, асабліва багатыя мяшчане. Іх патрабаванні былі часткова задаволены законам аб гарадах і Канстытуцыяй 3 мая 1791 года. Канстытуцыя ўвасабляла ў сабе шэраг эле-

ментаў буржуазнага ладу са значным уплывам феадальных грамадскіх адносін і старых традыцый сеймавай шляхецкай дэмакратыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Новымі ў Канстытуцыі былі: паняцце народа, замест ранейшага народа — шляхты — народам сталі называць усіх жыхароў дзяржавы. Новым было сцвярджэнне, што «ўсякая ўлада ў людскім грамадстве бярэ свой пачатак з волі народа» (р. 5).

Прагрэсіўнымі былі нормы, якімі ўсталёўваліся органы дзяржаўнай улады і кіравання, ліквідавалася «ліберум вета». Разам з тым у Канстытуцыі захоўваўся стары феадальны лад, сяляне не вызваляліся з-пад улады паноў, а шляхце гарантавалася захаванне ўсіх іх правоў і свабод, як у публічным жыцці, так і ў прыватным (р. 2). У Канстытуцыі абвяшчалася, што пануючай рэлігіяй у дзяржаве ёсць і будзе «святая рымская каталіцкая вера» (р. 1), а пераход з пануючай веры ў іншую забараняўся пад страхам пакарання. У гэтай частцы Канстытуцыя рабіла крок назад у адносінах да Статута 1588 года, у якім абвяшчалася роўнасць розных хрысціянскіх вер (а. 3, р. 3).

Канстытуцыя 3 мая 1791 года хоць не вырашыла цэлага шэрага сацыяльных праблем, але паклала пачатак іх вырашэння ў напрамку перабудовы феадальнага ладу ў буржуазны.

Кароткі аналіз крыніц права Вялікага княства Літоўскага за час існавання гэтай дзяржавы дазваляе зрабіць выснову, што аснову гэтага права складала беларускае звычаёвае і пісанае права, выпрацаванае ў старажытныя часы і замацаванае ў граматах і статутах, а сумеснае права Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, выдадзенае ў час існавання федэратыўнай Рэчы Паспалітай, не ўнасіла істотных змен ні ў прававое становішча насельніцтва, ні ў прававую сістэму.

Пасля далучэння Беларусі да Расіі асноўнай крыніцай грамадзянскага, сямейнага, працэсуальнага і крымінальнага права заставаўся Статут 1588 года. Прававое становішча асноўнай масы насельніцтва засталося без істотных змен. За шляхтаю прызнаваліся правы рускага дваранства, але толькі за тымі, хто мог пацвердзіць сваё шляхецтва афіцыйнымі дакументамі. Многія з беднай

беларускай шляхты такіх дакументаў не мелі, а таму і не прызнаваліся дваранамі, у сувязі з чым іх становішча значна пагоршылася. Яны павінны былі плаціць усе падаткі і несці ўсе павіннасці, як простыя людзі. Пагоршылася становішча некаторых сялян, якія раней былі залежнымі ад дзяржаўных эканомій і не адбывалі прыгонных работ, а затым былі перададзены ва ўласнасць рускім памешчыкам. Так, генерал-фельдмаршалу П. А. Румянцаву-Задунайскаму былі перададзены 5718 мужчын і 5126 жанчын, генерал-фельдмаршалу А. В. Сувораву 6927 мужчын і 6352 жанчыны. А ўсяго ў 1772—1796 гадах было падаравана памешчыкам амаль адзін мільён сялян. Мяшчане беларускіх гарадоў павінны былі пераходзіць на мясцовае і рускае права. Змяняліся і органы кіравання ў гарадах.

У чэрвені 1807 года быў заключаны Тыльзіцкі мірны дагавор паміж Расіяй і Францыяй, згодна з якім да Расіі далучаўся горад Беласток з акругай, тым самым уся тэрыторыя Беларусі была далучана да Расійскай імперыі і на гэтай тэрыторыі пачалі дзейнічаць законы Расіі і Статут 1588 года.

Апошняй спробай кадыфікацыі крыніц беларуска-літоўскага права былі працы кадыфікацыйных камісій; адна працавала ў Вільні ў 1822—1823 гадах, а другая ў 1830—1835 гадах у Пецярбургу ў складзе камісіі Сперанскага М. М. Вынікам гэтай працы быў падрыхтаваны Збор мясцовых законаў Заходніх губерняў, куды былі ўключаны многія артыкулы Статута 1588 года і соймавых пастаноў Рэчы Паспалітай. Спачатку меркавалася ўключыць гэты Збор мясцовых законаў... у Поўны збор законаў Расійскай імперыі, але потым было вырашана выдаць адзін Поўны збор законаў, без мясцовага збору. У 1835 годзе быў выдадзены Збор дзеючых законаў Расійскай імперыі, у які былі ўключаны і некаторыя нормы Статута 1588 года.

# ЛІТАРАТУРА


## Уступ

1 *Довнар-Запольский М. В.* Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901. С. 84.
2 *Пресняков А. Е.* Лекции по русской истории. Т. 2, вып. 1. Западная Русь и Литовско-Русское государство. М., 1939. С. 7.
3 *Пичета В. И.* Белоруссия и Литва XV — XVI вв. М., 1961. С. 413.
4 Повесть временных лет. Ч. 1. М.— Л., 1950. С. 14.
5 Русская историческая библиотека. Т. XXVII. Спб., 1910. С. 595—596. (Далей — РИБ.)
6 Акты Западной России. Т. 1. 1846. С. 199. (Далей — АЗР.)
7 РИБ. Т. XXVII. Спб., 1910. С. 409—411.
8 Памятники русского права. Вып. второй. М., 1953. С. 57—71.
9 Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. Ч. 1/Составитель Хорошкевич А. Л.— М., 1977. С. 35.
10 Послания Гедимина. Вильнюс, 1966. С. 194.

## Гістарыяграфія

1 *Czacki T.* O litewskich i polskich prawach... Kraków, 1861, s. 53.
2 *Maciejowski W. A.* Historia prawodawstw słowiańskich. Wyoj. 1. Warszawa, 1832. S. X.
3 *Малиновский И. А.* Лекции по истории русского права. Ростов-на-Дону, 1916. С. 6.
4 *Любавский М. К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2-е изд. М., 1915. С. 1.
5 *Лаппо И. И.* Литовский статут 1588 года. Т. 1—2. Каунас, 1934—1938.
6 *Kutrzeba S.* Historya ustroju Polski w zarysie. T. 2. Litwa. Lwów — Warszawa, 1914. S. 171—172.
7 *Пичета В. И.* Белоруссия и Литва XV — XVI вв. М., 1961; *Ён жа.* Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-Русском государстве. М., 1958.

## Граматы, прывілеі

1 Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. С. 101—102. (Далей — БЭФ.)

2 Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. Мн., 1961. С. 49.
3 *Kutrzeba S., Semkowicz W.* Akta unji Polski z Litwą. Kraków, 1932. № 49. S. 55.
4 БЭФ. Т. 1. Мн., 1959. С. 115.
5 Дневник Люблинского сейма 1569 г. Спб., 1869. С. 681.
6 *Любавский М. К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915. С. 191.
7 Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975. С. 151.
8 *Lewicki A.* Powstanie swidrygielly. Kraków, 1892. S. 155—156.
9 *Покровский М. Н.* Избранные произведения. Кн. 1. М., 1966. С. 457.
10 БЭФ. Т. 1. Мн., 1959. С. 119—121.
11 *Там жа.* С. 125.
12 Гісторыя Беларусі ў дакументах. Т. 1. Менск, 1936. С. 220—225.
13 *Леонтович Ф. И.* Источники русско-литовского права. Варшава, 1884. С. 25.
14 Гісторыя Беларусі ў дакументах. Т. 1. Менск, 1936. С. 227—229.
15 *Там жа.* С. 228.
16 *Kutrzeba S., Semkowicz W.* Akta unji Polski z Litwą. Kraków, 1932. № 95. S. 189—192.
17 *Ясинский М.* Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889. С. 53, 56; *Якубовский И.* Земские привилеи Великого княжества Литовского. ЖМНП. 1903. № 6. С. 270.
18 Памятники русского права. Выпуск второй. М., 1953. С. 164.
19 АЗР. Т. 2. Спб., 1848. С. 86—90.
20 *Там жа.* Т. 1. Спб., 1846. С. 361.
21 *Довнар-Запольский М. В.* Очерки по организации Западно-Русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905, приложение. С. 33—37.
22 БЭФ. Т. 1. Мн., 1959. С. 188.
23 АЗР. Т. 2. Спб., 1848. С. 367—368.
24 *Довнар-Запольский М. В.* Очерки по организации Западно-Русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905, приложение. С. 52—53.
25 Акты Южной и Западной России. Т. 1. Спб., 1863. С. 62.
26 БЭФ. Т. 1. Мн., 1959. С. 197.
27 *Там жа.* С. 210.
28 АЗР. Т. 2. Спб., 1848. С. 367.
29 *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 3. С. 49—50.
30 *Шафарик П. И.* Славянские древности. Т. 2. Кн. 1. М., 1848. С. 192—229.
31 *Владимирский-Буданов М. Ф.* Немецкое право в Польше и Литве. Спб., 1868. С. 6—7.
32 Архив Юго-Западной России. Ч. 5. Акты о городах. Т. 1. Киев, 1869. С. 57.
33 АЗР. Т. 3. Спб., 1848. С. 261—264.
34 *Там жа.* Т. 2. Спб., 1848. С. 90—91.
35 *Там жа.* Т. 1. Спб., 1846. С. 199.
36 *Там жа.* Спб., 1846. С. 187—189.
37 *Там жа.* Т. 2. Спб., 1848. С. 10—12.

[38] *Там жа.* Т. 3. 1848. С. 261—264.
[39] *Там жа.* Т. 1. С. 179—182.
[40] *Там жа.* Т. 3. 1848. С. 202—206.
[41] Архив Юго-Западной России. Ч. 5. Т. 1. С. 57—59.
[42] *Тарановский Ф. В.* Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи. Варшава, 1897. С. 1.
[43] *Groicki B.* Porządek sądów i spraw miejskich prawa majdeburskiego w Koronie Polskiej. Warszawa, 1953. S. 24.

### Судзебнік і статуты

[1] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. С. 403.
[2] БЭФ. Т. 1. 1959. С. 130.
[3] Временник Императорского Московского общества истории и древностей Российских. Книга 23. М., 1855. С. 6.
[4] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Мн., 1989. С. 47.
[5] *Там жа.* С. 47—48.
[6] *Там жа.* С. 43.
[7] Skriptores Rerum Polonikarum. T. VIII. Archiwum domu Radziwillów. Kraków, 1885. S. 195.
[8] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. С. 47.

### Дзяржаўнае і ваеннае права

[1] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С. 224.
[2] АЗР. Т. 2. 1848. С. 89.
[3] БЭФ. Т. 1. 1959. С. 102.
[4] АЗР. Т. 2. 1848. С. 188.
[5] *Гусоўскі М.* Песня пра зубра. Мінск, 1980. С. 94—96.

### Судовы лад і працэсуальнае права

[1] АЗР. Т. 1. 1846. С. 199, 353; Т. 2. С. 87.
[2] *Батюшков П. Н.* Холмская Русь. Исторические судьбы русского забужья. Спб., 1887. С. 47.
[3] *Малышев К.* Курс гражданского судопроизводства. Т. 1. Спб. 1876. С. 187.

### Грамадзянскае і сямейнае права

[1] ЦГИА БССР, ф. 1755, оп. 1, ед. хр. 8, л. д. С. 292—294.
[2] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 1. С. 347.
[3] АЗР. Т. 3. 1848. С. 83.
[4] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 16. С. 383.
[5] *Там жа.* Т. 27. С. 402.
[6] Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975. С. 149.
[7] БЭФ. Т. 1. С. 123.
[8] Акты Виленской археографической комиссии. Т. 17. Вильно, 1890. С. 413—414.
[9] Историко-юридические материалы... Т. УП. Витебск, 1876. С. 368.
[10] АЗР. Т. 2. 1848. С. 397.
[11] *Там жа.* Т. 3. 1848. С. 1—2.

**Крымінальнае права**

[1] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Менск, 1936. С. 403—404.
[2] *Маркс К., Энгельс Ф.* Соч. Т. 8. С. 530.

**Уніі Вялікага княства Літоўскага з Польшчай**

[1] *Пашуто В. Т.* Образование Литовского государства. М., 1959. С. 166.
[2] *Филевич И. П.* Борьба Польши и Литвы-Руси за Галицко-Волынское наследие. Спб., 1890. С. 28.
[3] *Там жа.* С. 2, 117.
[4] *Любавский М. К.* Литовско-Русский сейм. М., 1901. С. 15.
[5] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С. 110.
[6] Zbiór praw Litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznań, 1841. S. 508.
[7] Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. Составитель Хорошкевич А. Л.— М., 1977. Кн. 1. С. 50—53.
[8] *Ян Длугош.* Грюнвальдская битва. М.— Л., 1962. С. 20.
[9] *Там жа.* С. 52, 55.
[10] БЭФ. Т. 1. 1959. С. 115—118.
[11] Narbut T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno, 1848. T. IX. S. 275.
[12] Historia Polski. T. 1. Cz. 2. Warszawa, 1957. S. 226.
[13] *Kutrzeba S., Semkowicz W.* Akta unji... Kraków, 1932. № 91. S. 181—185.
[14] *Любавский М. К.* Литовско-Русский сейм... Приложение. С. 208.
[15] *Kutrzeba S., Semkowicz W.* Akta unji... № 95. S. 189—192.
[16] Дневник Люблинского сейма 1569 г. Спб., 1869. С. 78.
[17] *Там жа.* С. 105, 106.
[18] *Там жа.* С. 117, 118.
[19] *Stryjkowski M.* Kronika Polska, Litewska, Żmudzka i wszyskiej Rusi. Wyd. 2. Warszawa, 1846. T. 2. S. 418.
[20] *Зельверович Л. М.* Литовская метрика. Т. 1. Спб., 1883. С. 55, 76.
[21] *Дашкевич Н.* Заметки по истории... Киев, 1885. С. 163.
[22] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С. 358—359.

**Крыніцы права ў XVII—XVIII стагоддзях**

[1] Historia państwa i prawa Polski od polowy XV w. do r. 1795. Warszawa, 1957. Cz. 2. S. 129.
[2] Historia Polski. T. 1. Cz. 2. Warszawa, 1957. S. 300.
[3] Польский сейм. Варшава, 1959. С. 16.
[4] *Ochmański I.* Historia Litwy. Wroclaw — Warszawa — Kraków, 1967. S. 140.
[5] Volumina Legum. Wyd. 2. T. 4. Petersburg, 1859. S. 233.
[6] БЭФ. Т. 3. Мн., 1961. С. 26.
[7] *Там жа.* С. 50.
[8] Volumina Legum. Wyd. 2. T. VIII. Petersburg, 1860. S. 567—568.
[9] *Там жа.* Т. IX. С. 204.

[10] *Там жа*. С. 215—219.
[11] *Там жа*. С. 221.
[12] БЭФ. Т. 2. Мн., 1960. С. 263.
[13] Volumina Legum. T. IX. Kraków, 1889. S. 223.
[14] *Там жа*. Т. IX. С. 225.
[15] Historia Polski. T. 2. Cz. 1. Warszawa, 1958. S. 298.
[16] *Там жа*. С. 310.
[17] Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. Т. 1. М., 1956. С. 523.
[18] *Niemcewicz I. U.* Pamiętniki czasów moich. Paryż, 1848. S. 207.

Заключэнне

[1] *Bardach I.* O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988. S. 67.
[2] *Там жа*. С. 68.
[3] Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. Т. 1. С. 347.

ЗМЕСТ

**Юхо І. А.**

Ю 94 Крыніцы беларуска-літоўскага права.— Мн.: Беларусь, 1991.— 238 с.

ISBN 5-338-00401-1.

Юхо И. А. Источники белорусско-литовского права.

Кніга знаёміць з багатай прававой спадчынай беларускага народа эпохі феадалізму, увасобленай у прававых актах Вялікага княства Літоўскага. Іх аснову складала беларускае звычаёвае і пісанае права, выпрацаванае ў старажытныя часы і замацаванае ў граматах і статутах, кароткі аналіз якіх даецца ў кнізе. Найбольшая ўвага ўдзелена Статуту 1588 года як аднаму з самых дасканалых у Еўропе заканадаўчых актаў, які быў складзены на беларускай мове і на працягу двух з палавінай стагоддзяў з'яўляўся дзеючым законам, асновай усёй прававой сістэмы Беларусі і Літвы.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**Ю $\frac{1202000000—093}{М301(03)—91}$ 45—90** **ББК 67.3**

Научно-популярное издание

Юхо Иосиф Александрович

ИСТОЧНИКИ БЕЛОРУССКО-
ЛИТОВСКОГО ПРАВА

Минск, издательство «Беларусь»
На белорусском языке

Навукова-папулярнае выданне

Юхо Іосіф Аляксандравіч

КРЫНІЦЫ БЕЛАРУСКА-
ЛІТОЎСКАГА ПРАВА

Мастак В. К. Латышаў

Мастацкі рэдактар А. І. Інкін

Тэхнічны рэдактар Я. С. Шляшынская

Карэктар Р. П. Іваненка

ІБ № 4118
Здадзена ў набор 14.05.90. Падп. да друку 10.01.91. Фармат 84×100$^{1}/_{32}$. Папера высокамастацкая. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,7. Ум. фарб.-адб. 21,69. Ул.-выд. арк. 11,65. Тыраж 2000 экз. Зак. 416. Цана 3 р.
Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

